ЛіМ
Літаратура і мастацтва
газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

2 ЖНІЎНЯ 2002г. № 30/4164 КОШТ 310 РУБ.







***4 жніўня спаўняецца 85 гадоў народнаму пісьменніку Беларусі Янку БРЫЛЮ. Матэрыялы, прысвечаныя юбіляру, чытайце на стар. 6-7.***

*Фота Ул. КРУКА*



# КОЛА ДЗЁН

***Жніво паступова набліжаецца да свайго фінішу. Агульны намалот на сённяшні дзень складае больш як пяць мільёнаў тон збожжа. А гэта значыць, што наша краіна і ў першую чаргу яе людзі змаглі зрабіць усё, каб мы засталіся эканамічна незалежнымі і надалей.***

### РЭЙТЫНГ ТЫДНЯ

У рэйтынгу ААН, які вызначае ўзровень "чалавечага развіцця", наша краіна на працягу апошняга часу перамясцілася з 53-й на 56-ю пазіцыю. Шкада. Не радуе і тое, што мы знаходзімся вышэй за ўсе краіны СНД і нават Расію, якая на 60-м месцы...

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

На сённяшні дзень у нашай краіне працуюць 3659 замежных прадпрыемстваў. З іх — 13,5 працэнта прадпрыемстваў створаныя з удзелам польскага капіталу, 13,3 працэнта — нямецкага, 12,9 працэнта — амерыканскага, 10,8 працэнта — расійскага, 7,9 працэнта — літоўскага. Лічбы гавораць самі за сябе...

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Споўнілася 75 гадоў з дня выхаду ў свет газеты "Советская Белоруссия". Віншуем нашых калег журналістаў з юбілеем і жадаем ім і надалей высока трымаць сцяг прафесіяналізму!

### ЗАЯВА ТЫДНЯ

З-за фінансавых прычынаў у хуткім часе ў нашай краіне, як і ў Зімбабве, Панаме і Новай Зеландыі, зачыніцца пасольства Ізраіля — пра гэта заявіў міністр замежных спраў гэтай краіны Шымон Перэс.

### ТАРЫФЫ ТЫДНЯ

Апошні раз тарыфы на праезд у сталічным транспарце павялічваліся 1 лютага гэтага года. Час ішоў, і самаакупнасць гарадскога транспарту знізілася да 38,3 працэнта. Каб гэтую лічбу крыху змяніць, з 1 жніўня ў сталіцы на 25 працэнтаў павышаны тарыфы на карыстанне транспартам. Кошт адной паездкі на ўсіх відах транспарту ўзрос да 150 рублёў. Цяпер месячны праязны на адзін від транспарту каштуе 6750 рублёў (дэкадны — 2370), на два віды — 9 тысяч і на тры — 10,5 тысяч рублёў. Няслаба, але і не так ужо і дорага, калі памятаць, што за ўсё трэба плаціць і ў нашай краіне...

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

У 2003 годзе ў Мінску планууецца пачатак рэканструкцыі Верхняга горада. На сённяшні дзень знойдзены інвестар, які прафінансуе рэканструкцыю квартала, у якім цяпер размешчана ваенная камендатура. Замест яе будзе невялікая гасцініца, гандлёвы цэнтр, рэстаран і мастацкая галерэя. Да ўсяго Мінск будзе мяняць свой воблік і ў іншых мясцінах. Так, ужо распачата праектаванне самага высокага будынка нашай сталіцы — 36-ці павярховай пяцізоркавай гасцініцы на вуліцы Інтэрнацыянальнай (непадалёку ад Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны). Так што Мінск будзе мяняцца на нашых вачах...

### ПАГРОЗА ТЫДНЯ

Нядаўна вядучыя астранамічныя абсерваторыі нашай планеты заўважылі ў касмічнай прасторы даволі вялікі астэроід, які з цягам часу можа сутыкнуцца з зямлёй. На сённяшні дзень вучоныя правялі больш як 200 сеансаў назірання за астэроідам. Папярэднія вынікі вывучэння яго арбіты паказваюць, што астэроід можа сутыкнуцца з нашай планетай 1 лютага 2019 года. Дыяметр астэроіда складае прыкладна два кіламетры. Пры сутыкненні такога вялікага касмічнага вандроўніка з Зямлёй будзе знішчаны цэлы кантынент, а пасля адбудуцца глабальныя змены клімату. Аднак, усё гэта яшчэ толькі гіпотэза, бо спецыялісты апісваюць арбіту астэроіда пакуль што з дакладнасцю ў некалькі дзесяткаў мільёнаў кіламетраў. Дакладная ж арбіта будзе вызначана напрыканцы лета. Ды й да магчымага сутыкнення ў нас, зямлян, яшчэ ёсць 17 гадоў, і за гэты час будзе зроблена ўсё, каб адхіліць астэроід убок ці наогул знішчыць яго. Словам, нас чакае выпрабаванне...

### ПАДАРАЖАННЕ ТЫДНЯ

На 4 працэнты падаражэлі спіртныя напоі. Цяпер пляшка "Крышталь-100" каштуе 2460 рублёў, "Белай Русі" і "Крышталь-люкс" — 2540 рублёў, "Белай Русі-люкс" 2635 рублёў. Такім чынам, з пачатку года гарэлка падаражэла на 20,6 працэнта. Нягледзячы на гэта, п'яніц, здаецца, не паменшала...

### КВАЛІФІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

Футбалісты бабруйскай "Белшыны" паспяхова прайшлі першы кваліфікацыйны раунд Лігі чэмпіёнаў. Яны, згуляўшы на выездзе ў нічыю, дома ў паўторным матчы выйгралі з лікам 3:2 у паўночнаірландскага "Партадауна". Цяпер у бабруйчан наперадзе матчы з ізраільскім "Макабі" з Хайфы. Першая гульня адбудзецца ў замежжы і з-за палітычнай нестабільнай абстаноўкі пройдзе на Кіпры. А 7 жніўня "Белшына" згуляе ў адказ дома. Хочацца спадзявацца, што нашы хлопцы і на гэты раз не прайграюць...

### ПАСЛУГІ ТЫДНЯ

З 27 ліпеня ліквідавана даведка 09. Замест яе ўведзена бясплатная кругласутачная даведка аварыйных, выратавальных службаў і медустаноў па нумары 099. Як і раней ў Мінску працуе нумар 009, па якім знаходзіцца даведачная служба Мінскай гарадской тэлефоннай сеткі. Адна даведка каштуе 13 рублёў. Да ўсяго, на сённяшні дзень жыхары і госці сталіцы па нумары 091 могуць атрымаць інфармацыю аб рэпертуары ўсіх мінскіх кінатэатраў, па нумары 092 — аб рабоце дыскатэк, па 093 даведацца аб працы ўсіх магазінаў, па нумары 094 аўтаінфарматар паведаміць гараскоп на тыдзень. Новы від паслуг працуе кругласутачна. Кошт 1 хвіліны — 22 рублі.

ВІНШУЕМ!

## Ад "Купалля" да "Калядаў"

Амаль усе жанры прадстаўлены ў творчасці заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Рыгора Суруса. Аперэта "Несцерка" і гераічная музычная камедыя "Судны час", балет "Кірмашовыя забавы" і харэаграфічныя карціны, сюіты. Мноства размаітых інструментальных і вакальных камерных твораў.

Адзін з самых актыўных творцаў, адкрытых для пошуку! Некалькі гадоў таму набыў вядомасць канцэрт Р. Суруса для сімфанічнага аркестра з праграмнай назвай "На Купалле". Сёлета, у імпрэзах XIII з'езда беларускіх кампазітараў, была прадстаўлена яго новая арыгінальная праца для вялікага аркестра — "Каляды. Раство", канцэрт-сімфонія...

22 ліпеня кампазітару споўнілася 60. Узрост сталасці, час асэнсавання жыццёвых і творчых набыткаў? Але Рыгор Сурус нібы не зважае на гэткія фармальныя нагоды для "юбілейных прыпынкаў": як і 30, і 20, і 10, і 5 гадоў таму, ён піша музыку, населеную свaімі па-юнацку непрадказальнымі, па-максімалісцку неўтаймоўнымі вобразамі.

**С. Б.**



*Фота А. МАЦЮША*

## Адзначаныя афіцыйна

Сярод грамадскіх і дзяржаўных дзеячаў, прадстаўнікоў розных сфер народнай гаспадаркі краіны, якія на тым тыдні адзначаны Прэзідэнтам РБ, ёсць і творчыя асобы. Так, напрыклад, за вялікі асабісты ўклад у прапаганду беларускай народнай песні Васілю Браіму, спеваку, артысту Акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча, нададзена званне заслужанага артыста Беларусі. Адзначаны таксама творчая актыўнасць і дасягненні некаторых удзельнікаў Дзён культуры Беларусі ў Парыжы. Прынамсі, аб'яўлена Падзяка Прэзідэнта мастацкаму кіраўніку інструментальных камерных калектываў Беларускай дзяржаўнай філармоніі Уладзіміру Байдаву, салісту Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Уладзіміру Пятрову, намесніку дырэктара па выставачнай дзейнасці Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Канстанціну Федарышкіну.

**Н. К.**

ІМПРЭЗЫ

## Колас вяртаецца ў Нясвіж

Найбольш вядомыя коласаўскія мясціны — Нёманшчына. А з Нясвіжам звязаны гады вучобы паэта. Сёння ж Якуб Колас вярнуўся ў Нясвіж у акварэлях народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча — яго выстава складаецца з дзевяноста ілюстрацый да апошняга выдання "Новай зямлі". У Нясвіж выстава пераехала са Светлагорскай карціннай галерэі, у будучым планууецца прэзентацыя яе і ў Пінску.

Будынак карціннай галерэі быў створаны намаганнямі Нясвіжскага музея-запаведніка ў адрамантаванай былой вайсковай казарме. Галерэя знаходзіцца ў вельмі ўдалым месцы на шляху экскурсій паміж фарным касцёлам і брамай-уваходам на тэрыторыю замка. У дзень адкрыцця выставы ў Нясвіжы прэзентавалася не толькі новая карцінная галерэя, якой надалей безумоўна дапамогуць з экспазіцыямі Беларускі саюз мастакоў і Музей сучаснага мастацтва, прэзентавалася і сама "Новая зямля" на трох мовах з ілюстрацыямі В. Шаранговіча — выданне Беларускага фонду культуры. Старшыня Беларускага фонду культуры У. Гілеп падарыў дырэктару Нясвіжскага музея-запаведніка В.Сталярчуку "Новую зямлю" і першы экземпляр новай кнігі БФК з серыі "Вяртанне", прысвечанай радзівілаўскім каштоўнасцям з Нясвіжскага замка, раскіданым па музеях розных краін. На адкрыцці галерэі выступілі старшыня Нясвіжскага райвыканкама Ф. Прывалка, старшыня Беларускага саюза мастакоў У. Басалыга, пісьменнікі С.Законнікаў, А. Бутэвіч.

Нясвіжская настаўніцкая семінарыя, дзе вучыўся Якуб Колас, на жаль, не захавалася. На яе падмурку, якраз у цэнтры горада, планууецца збудаваць новы будынак. У цэнтральнай кніжнай краме горада знайшлося толькі букіністычнае выданне коласаўскай паэмы. На жаль, кнігагандаль не дапамагае БФК распаўсюджваць кнігу. Яе немагчыма набыць не толькі ў кніжных крамах раённых гарадоў, але нават у Мінску. На сённяшні дзень палова тыражу кнігі, якую БФК выпусціў на ўласныя грошы і на ўласным энтузіязме (часткова дапамагло Міністэрства інфармацыі), ляжыць на складзе. Такое шыкоўнае выданне магло б стаць візітнай карткай краіны. Але ж застаецца непаразуменне, чаму ўзнікаюць нечаканыя перашкоды ў распаўсюджванні кнігі праз дзяржаўную сетку крамаў, калі краіна шырока адзначае юбілей класікаў беларускай паэзіі. На сённяшні дзень усе жадаючыя могуць набыць выданне "Новай зямлі" Коласа толькі ў Беларускім фондзе культуры (Траецкае прадмесце) коштам 11500 рублёў.

А Васіль Шаранговіч, які актыўна дапамагае прапагандаваць выданне коласаўскай паэмы са сваімі ілюстрацыямі, тым часам атрымаў новую ўзнагароду. Яму прысуджаны прэстыжны тытул "Чалавек года — 2002" Амерыканскім біяграфічным інстытутам за садзейнічанне справе грамадскага развіцця.

**Н. ЖОГЛА**

## Крона нашых каранёў

Вялікая паэзія заўсёды выклікала натхненне ў творцаў — мастакоў, акцёраў, музыкантаў. Паэзія Янкі Купалы — у тым ліку. Музычная Купаліяна, што існуе сёння, — надзіва багатая і разнастайная плынь у нацыянальнай культуры. Па колькасці твораў, пакладзеных кампазітарамі на музыку, Купалу належыць першае месца сярод беларускіх паэтаў.

Тут прадстаўлены розныя жанры: ад песень сучаснікаў паэта — кампазітараў пачатку мінулага стагоддзя — да кантат і араторый, опер і балетаў, музыкі для тэатра і кіно. Сярод іх — кантата «Беларускім партызанам» А. Багатырова, араторыя «Паэт» Д. Смольскага, опера «Машэка» Р. Пукста, балеты «Выбранніца» і «Курган» Я. Глебава і інш.

Зразумела, што на сёлетнім Рэспубліканскім свяце паэзіі ў купалаўскім мемарыяльным запаведніку «Вязынка» на малой радзіме паэта, гучалі не толькі вершы песняра, але і музыка, натхнёная яго геніем. Яе прадстаўляла капэла «Sonorus» пад кіраўніцтвам Аляксея Шута, добра вядомая як нястомны прапагандыст беларускай музыкі — і мінулых стагоддзяў, і сучаснай.

На свяце ў Вязынцы капэла "Sonorus" паказала частку сваёй праграмы "Мы крона нашых каранёў", якая прысвечана 120-годдзю двух выдатных паэтаў Беларусі — Янкі Купалы і Якуба Коласа. На купалаўскай зямлі, пад ясным ліпеньскім небам гучалі творы беларускіх кампазітараў розных гадоў. Гэта — харавая паэма "Маладая Беларусь" А. Багатырова, знакамітая лірычная песня "Спадчына" І. Лучанка, гімн "А хто там ідзе?" С. Бельцюкова.

Увасобленыя ў гуках Купалавы вершы, нібыта ўзмацняючы сілу свайго ўздзеяння, зноў паказвалі нам прыгажосць роднай мовы, напаміналі пра пачуццё нацыянальнай годнасці і нацыянальнай памяці, перадавалі глыбокую веру паэта ў свой народ, у будучыню незалежнай Беларусі, у самабытнасць нашай культуры. Здавалася, што творы, якія натхнёна і па-майстэрску выканаў хор капэлы пад кіраўніцтвам А. Шута, яшчэ глыбей выявілі высокі і вечны сэнс купалаўскіх вершаў.

Хочацца спадзявацца, што гэтая малая частка багатай музычнай творчасці, якая сталася нерукатворным помнікам паэту, будзе добрым прыкладам для яе шырокай інтэрпрэтацыі на многіх канцэртных і тэатральных сцэнах нашай краіны — і ў юбілейны год Купалы, і надалей.

**Алена КАЛЕСНІК**

ДАТЫ

## Раяль-аркестр

Сваёй ігрой мог ён стварыць атмасферу опернага спектакля. Нават больш: опернага тэатра! Бо менавіта ў такой атмасферы развіваўся і набываў славу талент легендарнага опернага канцэртмайстра, народнага артыста Беларусі Сямёна Талкачова. З дня яго нараджэння споўнілася 95 гадоў.

Імя гэтага піяніста сёння ёсць ва ўсіх спецыяльных даведніках і энцыклапедыях, а ўспаміны пра яго захоўваюць ў памяці людзей старэйшага пакалення, у музычна-тэатральным асяроддзі. Кажуць, гэта быў чалавек-аркестр — так дасканала ён мог перадаць на раялі гучанне партытуры опернага твора. Тонкі знаўца складанай прыроды музычнага тэатра, С. Талкачоў спрыяў павышэнню выканальніцкай культуры і спевакоў, і музыкантаў аркестра.

Галоўным канцэртмайстрам Вялікага тэатра Беларусі ён працаваў з 1943 года. Сёння тут працуе яго дачка — Ларыса Талкачова. Яна — заслужаная артыстка Беларусі, выдатны прафесіянал, знаўца прыроды музычна-тэатральнага мастацтва і таму — незаменная дарадца ў творчых справах.

**С. Б.**

# Галоўная калегія тыдня

Некалькі тыдняў таму Мірскі замак наведвала дэлегацыя ЮНЕСКА. Між тым у самім Міры зараз шчыруюць 700 будаўнікоў, якія да Дня пісьменства і друку, што адбудзецца 1 верасня менавіта тут, намагаюцца надаць мястэчку выгляд канца XIX — пачатку XX стагоддзяў. 31 ліпеня ў Мірскі замак завітала дэлегацыя з прадстаўнікоў Міністэрства культуры Беларусі, раённай і абласной уладаў, дырэктараў музеяў, журналістаў. Тут адбылася выязная калегія Міністэрства культуры, асноўным пытаннем якой стала зацвярджэнне навуковай канцэпцыі замкавай экспазіцыі.



Мірскі замак ужо 15 гадоў з'яўляецца філіялам Нацыянальнага мастацкага музея. За гэты час яго знешні выгляд аднавіўся. Але для музейных экспазіцыі адкрыта толькі невялікая частка з плануемых 70 залаў. Праўда, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея У.Пракапцоў мае пэўны аптымізм на будучае, падставай для якога стаў значны крок у рэстаўрацыі паўночнай і паўночна-ўсходняй частак замка. Па сутнасці там ужо аднолены сцены, лесвіцы, зроблена ліфтавая шахта, такая неабходная для пад'ёму экспанатаў. Некалькі гадоў дапрацоўкі канцэпцыі, спрэчкі... Гэта прымусіла У.Пракапцова адмовіцца ад вырашэння пытання толькі вучонай радай музея і звярнуцца да яе пашыранага варыянта — рабочай групы, зацверджанай Міністэрствам культуры.

На сённяшні дзень канчатковы варыянт канцэпцыі, агучаны дырэктарам музея на пасяджэнні калегіі Міністэрства культуры, уключае два палажэнні. Асновай інтэр'ераў замка і экскурсійных тэкстаў будзе аповед пра гісторыю збудавання, яго архітэктуру і гаспадароў. Да гэтага дададуцца экспазіцыі, якія праз музейныя рэчы будуць распавядаць пра разнастайныя нацыянальныя культуры і мастацкую творчасць на Беларусі за 500 гадоў. Часткай гэтай экспазіцыі стануць узноўленыя інтэр'еры асобных пакояў замка. Менавіта ў рамках такой канцэпцыі ніводная вітрына не будзе замацавана да сцяны, і прастора пакояў будзе самастойнай часткай экспазіцыі. Закансерваванай застанецца паўночная сцяна, якая дазваляе бачыць усе перабудовы замка ад готыкі да барока.

На жаль, а пра гэта гаварылі навуковы кіраўнік праекта Д.Бубноўскі і загадчык аддзела старажытнабеларускага мастацтва доктар мастацтвазнаўства Н.Высоцкая, катастрафічна не хапае грошай. Для стварэння толькі экспазіцыі (а гэта рэстаўрацыя старых рэчаў, набыццё новых, рэканструкцыя) неабходна выдаткаваць за пяць гадоў 2,5 мільёна долараў. Набыццё аднаго крэсла абыдзецца ў 4 тысячы долараў, асноўная мэбля «пацягне» на 20—30 тысяч, габелены могуць каштаваць і 300 тысяч. А першачарговае пакуль што пытанне рэканструкцыі самога будынка. Па словах Д.Бубноўскага, сродкаў, якія выдаткоўваюцца на рэстаўрацыю Міністэрствам культуры і мясцовымі ўладамі, хапае толькі на касметычныя дапрацоўкі. Цяпер важна падключыць кацельную, каб узімку мець магчымасць весці інтэр'ерныя работы, зрабіць падземныя гаспадарчыя памяшканні для падсобных службаў замка. А гэта вымагае ўкладання адразу значнай сумы грошай. Але ж, як засведчыў у сваім выступленні міністр культуры Л.Гуляка, міністэрства атрымлівае ў год толькі 4,5 мільярда рублёў на рэстаўрацыю і пры гэтым мусіць размяркоўваць іх паміж будаўніцтвам Нацыянальнай бібліятэкі, прыбудовай да Нацыянальнага мастацкага музея, рамонтам тэатра оперы і балета, Белдзяржфілармоніяй, рэканструкцыяй Нясвіжскага палаца ды Мірскага замка...

Выйсцем можа стаць стварэнне дзяржаўнай мэтавай праграмы, выдаткаванне сродкаў па-за межамі бюджэту Міністэрства культуры, адкрыццё спецыяльнага рахунку для дабрачынных унёскаў ад жыхароў краіны, магчыма, падтрымка замежных інвестараў. Міністр паабяцаў пакласці распрацаваную праграму на стол прэзідэнту. А пакуль што на працягу бліжэйшага тыдня будзе рыхтавацца рашэнне калегіі Міністэрства культуры з канкрэтнымі прапановамі, і яно, як заявіў Л.Гуляка, будзе абавязкова выканана.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

***На працягу апошніх тыдняў у "ЛіМе" ідзе дыскусія пра стан спраў у Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Мяркуючы па выказваннях літаратараў, наспела пытанне аб правядзенні нечарговага з'езда СБП. На апошнім пашыраным пасяджэнні Рады СБП і рэвізійнай камісіі быў створаны аргкамітэт па правядзенні з'езда.***

*"ЛіМ" працягвае анкетаванне пісьменнікаў. Нагадваем пытанні:*

*1. Ці задавальняе вас стан спраў у Саюзе беларускіх пісьменнікаў?*

*2. Як нармалізаваць работу творчай арганізацыі?*

**Сяргей ДАВІДОВІЧ, паэт, мастак:**

1. Сёння ніводзін цвяроза думаючы пісьменнік не можа быць задаволены станам у пісьменніцкай арганізацыі.

2. Трэба знайсці чалавека, які зможа аб'яднаць усіх пісьменнікаў. Я за правядзенне з'езда, на якім павінны быць вырашаны арганізацыйныя пытанні жыцця творчай арганізацыі.

**Сяргей ПАТАРАНСКІ, паэт, драматург:**

1. Не задавальняе, бо мы забыліся на яго галоўную задачу. Саюз пісьменнікаў — гэта ў першую чаргу прафесійная арганізацыя, якая абавязана абараняць правы ці сяброў, як на юрыдычным, прававым, так і на ўсіх астатніх узроўнях.

2. Тэрмінова неабходна склікаць з'езд і выбраць дзеяздольнае кіраўніцтва, якое будзе ў стане абараніць інтарэсы пісьменніцкай арганізацыі, а не толькі свае асабістыя амбіцыі. Трэба цалкам вярнуць Дом літаратара ў рукі саюза, дамагчыся фінансавання не толькі органаў саюза, але і праграмаў, звязаных з прапагандай, папулярызацыяй нацыянальнай літаратуры, з фінансавай падтрымкай лепшых майстроў слова і таленавітай моладзі, на якую зараз амаль махнулі рукой. Завесці аддзел прапаганды і работы з моладдзю, як тое было раней. Функцыі па ацэнцы літаратурнай прадукцыі на тэрыторыі Беларусі павінны належаць Саюзу пісьменнікаў. І ніякай палітыкі!

НОВАЕ

# Плошча імя Францішка Багушэвіча

Мусіць, мала хто ведае, што з канца мінулага года гэты ўтульны куточак вакол Дзяржаўнага музычнага тэатра на стыку Нямігі з праспектам Дзяржынскага атрымаў назоў плошчы аўтара "Дудкі Беларускай" Францішка Багушэвіча. Месца дужа прыдатнае для ўсталявання тут помніка песняру. Застаецца толькі ўвесці гэты назоў ва ўжытак, праз абвесткі ў аўтобусах ды тралейбусах ды праз шыльдачкі.

Зараз у беларускай сталіцы імем Францішка Багушэвіча ўганараваны дзве мясціны — бібліятэка "Юнацтва" і плошча. Той, хто прапанаваў плошчу вакол музычнага тэатра назваць імем Багушэвіча, дужа патрапіў у сугучча плошчы, тэатра з ягонымі музамі на фасадзе. Сярод гэтых музаў ёсць і сімвал Багушэвічавай музы — грацыёзны дудар з беларускай дудкай.

**У. СОДАЛЬ**



АБСЯГІ

БРЭСТЧЫНА...

## Вайскоўцы граюць народную музыку

Гарнізонны духавы аркестр пад кіраўніцтвам падпалкоўніка Аляксандра Носава быў утвораны пры Брэсцкай камендатуры менш чым год назад, але і за такі кароткі час ён набыў папулярнасць не толькі сярод вайскоўцаў. Яго апрацоўкі беларускіх народных мелодый, а таксама джазавыя творы даволі часта гучаць у гарадскім парку, на ўрачыстых вечарынах і канцэртах. Менавіта з такой музычнай праграмай калектыў пабываў нядаўна на XII Міжнародным фестывалі вайсковых і духавых аркестраў у Кракаве. Выступленні берасцейцаў прайшлі з вялікім поспехам. Гэта засведчылі і арганізатары фестывалю (запрасілі іх на свята наступнага года), і слухачы, паводле апытанняў якіх "Gazeta Krakovska" прызнала беларускі калектыў найлепшым.

## Яўрэйская газета ў Пінску

Да шэрагу газет, што выходзяць у Пінску, далучылася яшчэ адна — "Карлін". Так у сярэднявеччы называлася адна з першых у Беларусі іудзейская абшчына, якую заснаваў равін Карлінскі. Немалая яўрэйская абшчына тут і зараз. Пра яе культурніцка-асветніцкую дзейнасць цудоўна ведаюць і за межамі Палесся. Менавіта абшчына і стала галоўным заснавальнікам новай пінскай газеты, якую ўзначаліў вопытны журналіст Сямён Шапіра.

## Аўтары зборніка — бацька і сын

З Ганцаўшчыны на Данбас Іван Лагвіновіч паехаў у 17-гадовым узросце. Працаваў шахцёрам, пісаў вершы і гадаваў сына Расціслава. На радзіму вярнуўся ў сталым веку і акурат тут раскрыў свой талент, выдаўшы два зборнікі беларускіх вершаў. Трэцяя кніжка, якая выйшла нядаўна у Баранавічах, дзе жыве зараз паэт, з'яўляецца своеасаблівым вяртаннем у маладосць. У ёй Іван Піліпавіч змясціў свае раннія рускамоўныя творы, а таксама вершы сына, чыя радзіма — Данбас.

Зрэшты, у Лагвіновіча-малодшага паэтычнае пяро спаўна "самастойнае", адметнае: "Качается маятник-меч над нами на тонком волосе..." Можа, калі-небудзь і пад гэтым пяром ажыве беларуская мова?..

**Сымон АКСЕНІН**

ГРОДЗЕНШЧЫНА...

## Жывыя літары

У выдавецтве "Народная асвета" выйшаў з друку дапаможнік для настаўнікаў падрыхтоўчых класаў "Жывыя літары". Аўтар кнігі — пісьменнік са Слоніма Аляксей Якімовіч, а складальнік — педагог з Гродна Зоя Тамашэвіч. У дапаможніку сабраны багаты літаратурны матэрыял на кожную літару алфавіта. Складаецца ён з чатырох частак: *загадкі, скорагаворкі або чыстагаворкі, вершы беларускіх паэтаў*, апавяданні і казкі-гульні пра літары. Менавіта аўтарам казак-гульняў і апавяданняў, змешчаных у кнізе, стаў Аляксей Якімовіч. Героямі яго твораў выступаюць птушкі, звяры, літары, якія размаўляюць, спрачаюцца, з якімі адбываюцца розныя самыя неверагодныя здарэнні.

А вершы ў дапаможніку для настаўнікаў прадстаўляюць Ніл Гілевіч, Уладзімір Мацвеенка, Казімір Камейша, Міхась Пазнякоў, Віктар Гардзей, Рыгор Барадулін, Васіль Жуковіч, Леанід Пранчак, Валянціна Коўтун, Соф'я Шах, Мікола Маляўка, Уладзімір Паўлаў, Алесь Бадак, Мікола Чарняўскі, Алесь Пісьмянкоў, Артур Вольскі...

**Сяргей ЧЫГРЫН**

МАГІЛЁЎШЧЫНА...

## Знаходка на беразе Дняпра

Днямі на беразе Дняпра былі знойдзены рэшткі драўлянага судна — борт, шпангоут... Для дакладнага ўстанаўлення ўзросту старажытнага плаўсродку адзін з кавалкаў накіраваны ў Інстытут археалогіі Акадэміі навук Расіі. Па папярэдніх жа звестках мяркуецца, што лодка праляжала ў Дняпры не менш за сотню гадоў. Неаспрэчна адно — знаходка унікальная. Зараз на раскопе працуюць студэнты-гісторыкі з Магілёўскага дзяржуніверсітэта. З цягам часу плануецца скласці дакладны макет знаходкі.

## Лёс царквы невядомы

У Слаўгарадскай вёсцы Лясная адбыўся пажар у царкве Святога Пятра. *Па папярэдніх звестках, па віне рабочых, якія больш года займаюцца* рэканструкцыяй храма... Царква Святога Пятра — гісторыка-архітэктурны помнік, будаўніцтва яе распачата ў 1908-ым і закончылася праз дзесяць гадоў. Полымя знішчыла драўляны верх купала, сцяну. Ці будзе працягнута рэканструкцыя царквы, дзе размяшчаўся музей у гонар 200-годдзя перамогі над шведамі, невядома.

## Свет акіянаў

У адной з залаў абласнога мастацкага музея імя П. Масленнікава адкрылася унікальная прыватная выстава пад назовам "Свет акіянаў". Сярод экспанатаў — разнастайныя марскія ракавіны, насельнікі акіянскіх глыбіняў ( ад марскога канька да рыбы-мяча), сабраныя літаральна з усіх вядомых свету.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## *Дастаеўскі — пісьменнік двух народаў і ўсяго свету*

**У сёлетнім маі ў Старой Русе ў Расіі прайшлі Міжнародныя Дастаеўскія чытанні. У сувязі з тым, што ў кастрычніку 2006 года спаўняецца 500 гадоў роду Ф. М. Дастаеўскага, створаны Камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні юбілею.**

**Варта нагадаць пра вытокі даты паўтысячагадовага юбілею: 6 кастрычніка 1506 года баярыну Даніл у Іванавічу Ірцішчаву была падаравана вёска Дастоева (адсюль і родавае прозвішча) — непадалёку ад Пінска. У склад толькі што створанага камітэта ўвайшлі прадстаўнікі Інстытута рускай літаратуры Расійскай Акадэміі навук (Пушкінскі Дом), Літаратурна-мемарыяльнага музея Ф. М. Дастаеўскага (Санкт-Пецярбург), рускай Праваслаўнай царквы, многіх грамадскіх і культурна-асветніцкіх арганізацый. Пакуль што праграма святочных мерапрыемстваў распрацоўваецца. Арганізатары, стваральнікі камітэта спадзяюцца, што іх ініцыятыва знойдзе падтрымку і ў Беларусі.**

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

## *У бялыніцкіх радзімазнаўцаў — свая газета*

**Бялынічы — адна з раённых сталіц Магілёўшчыны. Як і кожная сталіца, мае свой друк і раённую газету "Зара над Друццю". З нядаўняга часу выдаецца ў Бялынічах і газета мясцовага краязнаўчага таварыства. Расказвае рэдактар "Бялыніцкай даўніны" журналіст, краязнаўца і драматург Міхась Карпечанка:**

**— Пабачыла свет сем нумароў краязнаўчай газеты. Удзел у газеце прымаюць самыя розныя аўтары. Самой ідэяй выдання нам вельмі хацелася б разварушыць землякоў, звярнуць увагу грамадскасці да гістарычнай праблематыкі, да стану археалагічных і іншых помнікаў раёна, узварушыць музейную, увогуле асветніцкую работу ў нашым краі.**

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

## *Яшчэ раз пра вечнае*

**27 чэрвеня філія Літаратурнага музея Максіма Багдановіча "Беларуская хатка" зноў гасцінна расчыніла свае дзверы для ўсіх, хто цікавіцца беларускім літаратурным і культурным жыццём. Тут адбылася вечарына, прысвечаная 140-годдзю фалькларыста, этнографа і мовазнаўцы Адама Ягоравіча Багдановіча, бацькі беларускага паэта Максіма Багдановіча. Больш чым год не збіраліся ў "Беларускай хатцы" на вечарыны. Людзі памятаюць цікавыя сустрэчы, што арганізоўвалі былы загадчык філіі, паэт і бард Эдуард Акулін. Сёння тут працуюць новыя людзі, але традыцыя не памерла. Яны з імпэтам пачалі яе ўзнаўляць.**

**На вечарыне цікава было не толькі тым, хто амаль нічога не ведаў пра Адама Ягоравіча, але і тым, хто ўжо знаёмы з жыццём і дзейнасцю не толькі вучонага, а і духоўна багатага чалавека.**

**Даволі цяжкае і складанае было ў яго жыццё. Адам Ягоравіч страчвае вельмі блізкага чалавека — сваю першую жонку і вялікае каханне — Марылю. Як ілюстрацыя тых цудоўных адносінаў, што склаліся паміж Адамам і Марылькай (так ласкава называў жонку Багдановіч), у тэатральнай форме прагучала некалькі іх лістоў, напоўненых узаемнай павагай, клопатам і любоўю.**

**Таццяна Шэляговіч, загадчыца філіі і вядучая вечарыны, чытала знакаміты "Апокрыф" Максіма Багдановіча. Студэнтка Ганна Кавалёва выканала беларускую народную песню...**

**З роду Багдановічаў засталіся нашчадкі. Было прадастаўлена слова гасцям — Валерыю Паўлавічу Кормазу і яго сястры Вользе Паўлаўне Дашкоўскай, якія гаварылі пра радавод Багдановічаў. Пачынаў складаць яго яшчэ сам Адам Ягоравіч, а працягнуў гэтую справу вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Зміцер Яцкевіч. Пасля вечарыны ўсе, каго зацікавіла генеалагічнае дрэва Багдановічаў, набылі кнігу Яцкевіча "Радавод Максіма Багдановіча".**

**Працягнуў размову яшчэ адзін госць вечарыны, беларускі фалькларыст, літаратуразнаўца, краязнаўца, доктар філалагічных навук Арсень Ліс, які паведаміў пра дзейнасць тагачасных беларускіх асветніцкіх суполак і арганізацый, пра значны ўдзел інтэлігенцыі ў іх.**

**Таццяна ДУБОЎСКАЯ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея М. Багдановіча**

ТВОРЦЫ

# Тэатр Людмілы Сідаркевіч

**З адной з вядучых актрыс Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Людмілай Сідаркевіч я пазнаёміўся чатыры гады таму, калі прыйшоў працаваць у гэты тэатр. Памятаю, перад рэпетыцыямі акцёры звычайна збіраліся на лесвічнай пляцоўцы другога паверха: гаманілі, смалілі цыгарэты. Заўважыў, што не смаліць толькі адна. Прыгожая, стрункая, у нечым летуценная маладая жанчына. Гэта была Людміла Сідаркевіч.**

***...З яе выхадам на сцэну "ажывае" кожны спектакль. Нават у складаных, драматычных ролях гераіні Л. Сідаркевіч застаюцца жанчынамі "без узросту", энергічнымі, жыццярадаснымі, з рысамі амплуа "клаунэсы". "Развітанне з Радзімай", "Бот і яго шкарпэтка", "Апошняя пастараль", "Жанчыны Бергмана", "Чарнобыльская малітва", "Песні ваўка" – ва ўсіх гэтых даўнішніх і зусім новых спектаклях вобразы, створаныя Л. Сідаркевіч, запамінальныя. Мо таму, што ў гэтай сціплай, задуменнай актрысы ёсць прынцыповасць, упартасць, шчырасць. Памятаю, як аднойчы на адным з семінараў беларускай драматургіі Людміла абурылася: "А ці ведаеце вы, што тая п'еса, якую мы тут разбіраем, самы сапраўдны плагіят?!" І даказала з дапамогай фактаў – сапраўды, плагіят!.. Прынцыповай была актрыса і падчас стварэння спектакля. Прыгадваю якімі напружанымі былі рэпетыцыі "Апошняй пастаралі". Рэжысёр М. Дзінаў заклікаў акцёраў думаць і адчуваць так, як думаў і адчуваў ён сам. Л. Сідаркевіч нечакана параілі распрануцца ў пэўнай мізансцэне. Рэжысёр па пластыцы мякка сцвярджаў, што "нічога ў гэтым няма". Рэжысёр-пастаноўшчык падтрымліваў яго думку. Але Людміла адказала: "Не. Шукайце іншую актрысу..."***



**Расказвае Л. СІДАРКЕВІЧ:**

— Я думаю, што тэатр лечыць. Вядома, не таблеткамі. Чалавек шукае ў спектаклі моманты, на якія адгукаецца яго душа, пытанні, блізкія яму асабіста. Тэатр дапамагае асэнсаваць іх. Гэта і ёсць пэўная псіхалагічная дапамога...

Сюды прыходзяць, каб на нейкі час адмежавацца ад "хвароб грамадства", паглыбіцца ў іншую вечную праблематыку. Большасць людзей жыве ў мітусні, а мітусня заганяе чалавека ў безвыходнае становішча. І душа пад гэткім цяжарам пачынае хварэць. А тэатр дае магчымасць убачыць іншае вымярэнне, рысы вечнасці. Вядома — не заўсёды. Але мне б хацелася, каб менавіта такі накірунак дзейнасці тэатра развіваўся: быць карысным чалавеку. Для мяне тэатр — гэта месца, дзе думаюць пра душу, тэатр можа абараніць ад жорсткасці свету. Калі б у мяне не было тэатра, не ведаю, як бы я жыла...

...Колькасць глядацкіх месцаў, памер сцэны, — не гэта вызначае вобраз тэатра. Галоўнае тое, што тут адбываецца. Тэатр — гэта сумесная праца аўтара, рэжысёра, акцёраў, іншых супрацоўнікаў. Чым мяне прываблівае менавіта наш тэатр? Перш за ўсё яго камернасцю. Сцэна звычайна ўзвышае акцёра "над натоўпам". Але ў нас гэтага не адбываецца, глядач зусім побач. Таму ўзнікае асаблівая атмасфера: даверлівая, адкрытая. Нам, акцёрам, тут не лёгка працаваць: кожны, нават мізэрны, фальш будзе заўважаны. А калі ў тэатры няма фальшу, калі ён служыць людзям, то не мае значэння, у якой па памерах зале адбываецца прадстаўленне. Тэатр можа ўздзейнічаць на гледачоў нават у невялікім падвальчыку... Калі вучышся ў інстытуце, не думаеш аб памерах будучай сцэны. Вядома, усе юнакі першапачаткова мараць стаць вялікімі акцёрамі. І на першым курсе ўсе геніяльныя, ва ўсялякім выпадку, лічаць сябе такімі. Усе жадаюць працаваць у вялікіх тэатрах, з выбітнымі рэжысёрамі. Мараць аб славе, вялікіх ролях. Але потым гэтае "насланнё" праходзіць і пачынаеш думаць аб якасці сваёй працы. Мары адыходзяць на іншы план.

...Мне вельмі даспадобы мае ролі камедыйнага кшталту. Яны пашыраюць дыяпазон творчых здольнасцяў акцёра. Даюць магчымасць імправізаваць на сцэне, што я вельмі люблю рабіць. Аднак артыст павінен умець іграць усё: і камедыю, і трагедыю. Таму я ўдзячная Мікалаю Дзінаву, які першым убачыў ува мне іншы патэнцыял. Роля ў "Апошняй пастаралі" была складаная, сур'ёзная...

...Пасля падзелу тэатра мала што змянілася ў "знешнім" яго жыцці. Але ўнутры, у душы адбыліся вялікія змены. Пачаўся новы этап жыцця. Зыход Валерыя Мазынскага не назавеш стрэсам ці катастрофай. Усё гэта — не адпаведныя сітуацыі словы. У жыцці чалавека бываюць моманты, калі ўсё ў яго можа змяніцца за адну ноч. Калі раніцай ён можа прачнуцца іншым. Калі пайшоў В. Мазынскі, тэатр "Вольная сцэна" перастаў існаваць у гэтых сцэнах. Сёння я працую ў новым тэатры, хаця сцэна тая ж. Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі В. Анісенкі толькі распачаў свой творчы шлях. А тое, што адбылося два гады таму, балюча нават успамінаць. Хацелася б, каб гэтая рана хутчэй загаілася. Дзякуй Богу, што падзел тэатра істотна не паўплываў на адносіны паміж акцёрамі. Мы і артысты сённяшняй "Вольнай сцэны" па-ранейшаму любім адно аднаго, захоўваем цеплыню адносін.

...Жыццё не абмяжоўваецца толькі сцэнай, толькі мастацтвам. Ёсць каханне, ёсць звычайныя чалавечыя зносіны. Менавіта яны — самае галоўнае. Напрыклад, у спектаклі "Жанчыны Бергмана" мая гераіня Ліў зрабіла ўсё, каб пераканаць самотную Інгрыд у тым, што жыццё не абмяжоўваецца толькі сцэнай. Але спявачка, якая страціла голас, не адгукнулася на заклік Ліў, не зрабіла крок насустрач вызваленню ад роспачы. А шлях людзей адно да аднаго ляжыць цераз паразуменне... Галоўны чалавек для акцёра ў тэатры — яго партнёр. Добры партнёр — палова поспеху тваёй асабістай ролі. Назіраючы, як працуе Таццяна Мархель у ролі Інгрыд, як яна збіраецца, якія шлях праходзіць, спасцігаючы сутнасць персанажа, адчуваю, што гэта мяне мабілізуе, прымушае цягнуцца да яе ўзроўню. Хочацца быць вартай сваёй партнёркі...

...Як кожны чалавек, тэатр таксама можа змяніцца ў горшы бок. Чым гэта растлумачыць? Творчым бяссіллем, жаданнем вярнуць страчаныя пазіцыі за кошт эпатажу, псеўданавізны? Але калі спектакль не закранае гледача — усе намаганні яго стваральнікаў марныя. Усе вялікія спектаклі былі скіраваны да душы чалавека. Па словах Гогаля, тэатр — гэта "такая кафедра, з якой можна сказаць свету шмат добрага". Вакол нас шмат агрэсіі, злосці. Мне здаецца, тэатр будзе жыць за кошт таго, што ў падмурку яго ляжыць дабрыня. Прынамсі, я б жадала, каб мая праца заўсёды падабалася маёй дачцэ. Каб яна верыла маім гераіням, каб ёй не было за мяне сорамна, каб яна заўсёды мяне разумела.



**Андрэй АХМЕТШЫН**

*На здымках: Л. Сідаркевіч у тэлевізійнай пастаноўцы "Шкляны звярынец"; сцэна са спектакля "Жанчыны Бергмана".*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА і Г. ЖЫНКОВА*





# Вакзал для мегаполіса

Вакзал для сухапутнага горада — тое ж самае, што порт для горада на марскім узбярэжжы. Тут заўжды віруе жыццё, тут асаблівы настрой, сустрэчы — расставанні. Вакзал — месца, не пазбаўленае "рамантыкі далёкіх дарог", і месца, якога цураюцца з прычыны павышанай крымінагеннасці. Вакзал — неабходны атрыбут вялікага горада. Фактычна з яго горад і пачынаецца.

Памятаю, як упершыню ў студэнцкія гады прыехаў у Ленінград. Як уразілі мяне не палацы і храмы, а вакзалы і масты. Менавіта гэтыя збудаванні, эстэтыку якіх вызначае функцыянальнасць і дакладны інжынерны разлік, сталі для мяне візітоўкаю вялікага горада на Няве. Як тэатр, згодна вядомаму выслоўю, "пачынаецца з вешалкі", так і горад распачаўся для мяне з Віцебскага вакзала, куды прыходзяць цягнікі з Беларусі.

Тэма "Вакзал у тэорыі і практыцы савецкага горадабудаўніцтва" вартая спецыяльнага доследу. У Савецкім Саюзе вакзальным будынкам надавалася надзвычай важная роля ў фарміраванні вобраза краіны. І гэта цалкам лагічна, калі браць да ўвагі велізарныя абшары СССР, працягласць чыгуначных трас. У якой-небудзь сібірскай ці сярэднеазіяцкай глухмені вакзалы і станцыі ўспрымаліся як фарпосты цывілізацыі. Але была і іншая прычына. Рэч у тым, што ў СССР замежніка не адпускалі далёка ад чыгуначнага палатна. Хіба што Маскву, Ленінград ды яшчэ з дзесятак горадоў ён бачыў зблізку, а ўсю астатнюю велізарную краіну — праз акно вагона. Краявіды ўздоўж чыгункі ды вакзальныя будынкі — вось з чаго ў свядомасці вандроўніка складваўся вобраз СССР, на чым фарміраваліся эстэтычныя стэрэатыпы і своеасаблівая міфалогія. Вакзалы — дэкарацыі п'есы, якую ў ХХ стагоддзі гісторыя ставіла на еўразійскіх абшарах, ад Балтыкі да Ціхага акіяна. БССРаўская сталіца як заходняя вітрына СССР, безумоўна, мусіла мець адпаведны вакзал і адпаведную Прывакзальную плошчу. Сённяшні сталічны вакзал (мы да яго яшчэ не прызвычаіліся і таму называем "новым") запраектаваны яшчэ ў савецкі час. Па сутнасці ён стаў сімвалам пераходнай эпохі. У ім адбіліся рысы савецкага Мінска і Мінска новага — стольнага горада суверэннай дзяржавы.

Беларуская чыгунка ў нейкім сэнсе "дзяржава ў дзяржаве", такім чынам Мінскі вакзал — яе "сталіца". Час заснавання "сталіцы" 1871—1874 гады. Тады ролю вакзала адыгрывалі драўляныя павільёны. Чыгунка называлася Лібава-Роменскай, а вакзал — Віленскім. 1890 год — узведзены аднапавярховы мураваны будынак з дзвюма вежамі. Акрэсліць ягоны архітэктурны стыль даволі цяжка, хіба што расплывістым словам "эклектыка". У такім выглядзе ён перажыў Першую сусветную вайну, падзеі 1917 года, вайну грамадзянскую. У такім выглядзе праіснаваў да 1940 года, калі быў рэканструяваны і надбудаваны на адзін паверх. Менавіта тады вакзал набыў аблічча, з якім праіснаваў да скону у 1991 годзе. *Напярэдадні вайны ў савецкай архітэктуры* распачаўся паварот ад "рэвалюцыйнага" канструктывізму да "афіцыйнага" ампіру, зарыентаванага на спадчыну класіцызму. Кіруючаму класу надакучыў побытавы аскетызм, ён прагнуў буржуазнага камфорту. У стылі ранняга "сталінскага ампіру" і быў перабудаваны мінскі вакзал.

Другая сусветная вайна вакзальны будынак не пашкадавала. Адноўлены быў у перадваенных формах у 1949 годзе. А да сярэдзіны 1950-х гадоў склаўся ансамбль Прывакзальнай плошчы з гмахамі-вежамі, якія адразу ахрысцілі "брамаю горада".

У адрозненне ад іншых плошчаў цэнтра Мінска, якія фарміраваліся з рознастылявых элементаў (так склалася гістарычна), ансамбль Прывакзальнай атрымаўся цэльным і стылёва аднародным. Можна сказаць, што гэта быў чысты "сталінскі ампір" без "чужародных" унёскаў. Пры вялікіх памерах плошча была яшчэ і ўтульнай. Нездарма мінчукі без захаплення ўспрынялі намер *знішчыць не вельмі зручны, не адпавядаючы* новым патрэбам, але звыклы вакзальны будынак, а замест яго ўзвесці новы, "сучасны". Аднак у 1991 годзе вакзал разбурылі і пачалі ўзводзіць новы гмах.

Будавалі доўга. Будуюць дагэтуль. Але большая частка вакзальнага комплексу ўжо працуе. Афіцыйнае адкрыццё адбылося. "З новага вакзала ў новае стагоддзе!" — гэты лозунг сустракаў першых пасажыраў і проста цікаўных мінчукоў.

Мінчукі ўспрынялі новы гмах з захапленнем, як калісь метро, — як дзеці новую цацку. Сталічным жыхарам увогуле ўласцівая фанабэрыя, цяпер для яе знайшліся дадатковыя падставы.

Калі ж радасныя эмоцыі сцішыліся і мінчукі ўдосталь нагледзеліся на свой бліскучы цуд, сталі выяўляцца канструктыўныя недахопы. І, галоўнае, стала зразумела, што вакзал, збольшага адпавядаючы сённяшнім патрэбам, не мае перспектыў для развіцця. Яму папросту няма куды развівацца. Бо тое, што ў 90-х гадах XIX стагоддзя было ўскраінай, цяпер самы цэнтр (побач галоўная плошча краіны — пляц Незалежнасці). Ці не напаткае новы вакзал лёс аэрапорта "Мінск-1"? Можа, варта было б не чапаць стары вакзал, а новы ладзіць дзе-небудзь у чыстым полі за акружной дарогай, звязаўшы яго з цэнтрам горада трасай метро?

Па пэўных якасцях наш вакзал не горшы, а мо і лепшы за варшаўскі Цэнтральны, якім ганарацца палякі, але яму далёка да аналагічных прадпрыемстваў Франкфурта-на-Майне, Лісабона, Вены. Ды, зрэшты, і Мінску пакуль што далёка да заходнееўрапейскіх сталіц. Так што наш вакзал адпавядае нашаму гораду. Пакуль...



Ужо сёння Мінск — мегаполіс. Яго імклівы рост быў нечаканым і для саміх мінчукоў, і *для вонкавага назіральніка*. У Савецкім Саюзе для асэнсавання гэтай з'явы нават існаваў спецыяльны тэрмін — "мінскі феномен". Стрымаць рост горада не здолелі ні заканадаўчыя акты, ні перыядычныя спады нараджальнасці, ні такія ж перыядычныя эканамічныя крызісы. Нягледзячы ні на што, горад пашыраецца і цягнецца ўверх. Праўда, гэта сціплы мегаполіс (вымушаная сціпласць — увогуле характэрная рыса шэрагу пакаленняў беларусаў). У пераліку буйнейшых агламерацый Еўропы Мінск знаходзіцца ў сярэдзіне чацвёртага дзесятка паміж Глазга і Капенгагенам.




Мінск звыкла лічыцца горадам "сталінскага ампіру". Тое, што засталося ў архітэктуры ад дасавецкай гісторыі з-за фрагментарнасці і выпадковасці не можа зрабіць вызначальнага ўплыву на вобраз нашай сталіцы. Гэта рэчаіснасць, гэта факт.

Будынак новага чыгуначнага вакзала, хоць у стылёвым сэнсе і адстае ад еўрапейскіх тэндэнцый гадоў на дваццаць, усё ж стаў для горада "раздражняльнікам спакою", буйнамаштабнай эстэтычнай правакацыяй. Самім фактам свайго існавання і сваім нязвыклым выглядам ён разбурае існуючыя стэрэатыпы і аб'ектыўна працуе на новы вобраз беларускай сталіцы. Са з'яўленнем гэтага гмаху для Мінска распачалася новая горадабудаўнічая эпоха.



А глядзіш, праз колькі дзесяткаў гадоў будзе ён для мінчукоў свойскі і звыклы, як ужо класічныя творы архітэктараў Лангбарда, Заборскага, Караля. І будзе на ім бронзавая шыльда з надпісам — "Помнік архітэктуры канца ХХ стагоддзя. Ахоўваецца дзяржаваю".

І будуць новыя аматары даўніны бараніць свой цяпер ужо стары вакзал ад памкненняў новых авангардыстаў змяніць ягонае аблічча. Бо няма такога "авангарду", які б з часам не ператварыўся б у "рэтра"...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*На ЗДЫМКАХ: белы карабель у горадзе — "Мінск-Пасажырскі"; вароты ў горад; Віленскі вакзал Лібава-Роменскай чыгункі ў Мінску, 90-я гады XIX ст.; у шкле новага вакзала люструюцца вежы "мінскай брамы"; табло раскладу цягнікоў; правадніца цягніка № 1 "Масква-Мінск" Валянціна ПЕЧУР; уверх-уніз на эскалатары; білетны касір Святлана САНІНА.*

*Фота Алеся ГАЎРОНА*







## Захавальнік

Летась вядомы даследчык беларускай народнай культуры Вольга Лабачэўская прадставіла на суд чытачоў новую кнігу — "Захавальнік Палескага музея Дзмітрый Георгіеўскі". Кніга, прымеркаваная да 75-годдзя адкрыцця музея ў Пінску, пабачыла свет дзякуючы выдавецтву "Тэхналогія". Імя і справа Дзмітрыя Сяргеевіча Георгіеўскага не надта вядомая шырокай грамадзе. "Згубленае імя, страчаны, выкраслены з гісторыі лёс чалавека і асобы", — так піша пра яго аўтар. Дзмітрый Сяргеевіч быў захавальнікам Палескага музея ў Пінску ад 1928 па 1935 год, а да 22 чэрвеня 1941 года — ягоным навуковым супрацоўнікам. Ён нарадзіўся ў 1889 годзе ў Пінску, дата і месца смерці невядомыя. Цалкам верагодна, што ягонае жыццё абарвалася ў верасні 1941 года. Забіты НКВДэшнікамі як "вораг народа", Д. Георгіеўскі паходзіў з сям'і інтэлігентаў. Бацька Дзмітрыя Сяргеевіча меў вышэйшую адукацыю, прафесію лекара. Служыў у войску, працаваў земскім сялянскім, а потым павятовым урачом. Меў аўтарытэт у насельніцтва і ўлады, займаў шэраг адміністрацыйных пасад. Да кастрычніка 1914 года, калі ў Пінск прыйшла Першая сусветная вайна, быў пінскім гарадскім галавою. Дзмітрый у 1908 годзе скончыў Пінскае рэальнае вучылішча. Ён не пайшоў бацькавым шляхам. Абраў не медыцыну. У 1912 годзе паступіў у Варшаўскі універсітэт на фізіка-матэматычны факультэт, аддзяленне прыродазнаўства. У час Першай сусветнай вайны універсітэт быў эвакуіраваны ўглыб імперыі. Спачатку ў Маскву, потым у Растоў-на-Доне. Скончыўшы універсітэт, Дзмітрый быў прызваны з войска. Пасля заключэння Брэсцкага міру (1918) быў звольнены ў запас. А пасля Рыжскай мірнай дамовы (1921), якая падзяліла Беларусь паміж Масквою і Варшавай, вярнуўся на радзіму, якая падпала пад польскую акупацыю. Афіцыйна польскае грамадзянства ён атрымлівае ў 1924 годзе. Працуе ў Пінскай дзяржаўнай гімназіі. А з 1928 года ягонае жыццё звязана з Палескім музеем. Фактычна ён распачаў сістэматычную і мэтанакіраваную працу па фармаванні калекцыі. Трэба адзначыць, што музей ствараўся і папаўняўся ахвяраваннямі палескіх патрыётаў. Сярод тых, хто ахвяраваў рэчы, што ім належалі, былі пінскі староста, інжынеры, архітэктар, настаўнікі, ксёндз і іншыя. Напачатку музей меў пяць аддзелаў, потым іх стала сем. Найбольш грунтоўным быў этнаграфічны аддзел. У 1934 годзе музей ужо меў статус акругова. У якасці захавальніка музея Д. Георгіеўскі не баяўся пайсці на канфлікт з варшаўскім начальствам. Так ён адмовіўся аддаць у Варшаву археалагічныя матэрыялы, здабытыя падчас раскопак на Палессі. Пры ім папаўнялася музейная бібліятэка, ён ладзіць этнаграфічныя экспедыцыі. І так доўжыцца да верасня 1939 года. Потым находзіць новы лад — савецкі. "Значнасць асобы Дзмітрыя Георгіеўскага, шматгадовыя намаганні, накіраваныя на карысць стварэння і ўзбагачэння Палескага музея, савецкімі ўладамі, калі і бралася пад ўвагу, дык выключна са знакам "мінус", — піша Вольга Лабачэўская. У музей быў прызначаны новы дырэктар, які з музейнаю работаю быў зусім не знаёмы. Экспазіцыю пачалі падганяць пад "марксісцка-ленінскія прынцыпы гістарычнай навукі". Артыкулы Д. Георгіеўскага на старонках "Палескай праўды" падвяргаюцца жорсткай цэнзуры. А потым ён трапляе ў поле зроку НКВД як былы эсэр. Прыгадалі палітычныя "грахі" часоў юнацтва. 18 чэрвеня 1941 года была выпісана пастанова на арышт Дзмітрыя Георгіеўскага. НКВД чысціла памежныя раёны ад "варожых элементаў". Абрываюцца ягоныя сляды ў верасні каля рускага горада Вятка...

Загінуў захавальнік, але музей стаіць. Нават у вайну ён пацярпеў меней за іншыя беларускія музеі. Але дагэтуль на будынку музея няма памятнай шыльды ў гонар Захавальніка.

П. В.

ВІНШУЕМ!

**...Сярод сённяшніх беларускіх пісьменнікаў Янка Брыль — адзін з найлепшых знаўцаў беларускай мовы. Хочаш бачыць узоры сучаснай беларускай літаратурнай мовы — разгарні старонкі Брылёвых "Галі", "Вітражу", "Жмені сонечных промняў", "Дум у дарозе", "Апошняй сустрэчы"...**

**Ужо ёсць не адна філалагічная спроба тэксталагічных назіранняў і асэнсавання Брылёвай працы. Ужо ёсць дзесяткі філалагічных публікацый, прысвечаных Брылёвай мове, яго мастацтву слова, яго пошукам, знаходкам і культуры слова, фразы, тэксту.**

**Будуць новыя і новыя публікацыі, прысвечаныя Брылёвым творам — самой мове. Ёсць што філолагам бачыць, вывучаць, паказаць.**

**Фёдар ЯНКОЎСКІ**



# Глынуць ягонага прастору...

ЯНКУ БРЫЛЮ — 85

Юбілей не жартоўны. Вядома, будуць урачыстасці, будуць прамовы і падарункі, шматлікія вечарыны, прысвечаныя творчасці любімага пісьменніка.

Вось толькі сам пісьменнік не аднойчы прызнаваўся, што ўрачыстасцяў, асабліва ў свой гонар, не любіць. Нічога дзіўнага — чалавек, які тонка адчувае псіхалогію бліжніх, да таго ж які надзелены гэтак рэдкім у літаратарскім асяродку пачуццём самаіроніі, не можа не аддаваць перавагі жыццю, якое яно ёсць, перад свецкай мітуснёй.

У гэтым можа пераканацца чытач брылёўскай прозы.

У тым ліку чытач зборніка "Сцежкі, дарогі, прастор", выпушчаным выдавецтвам "Юнацтва" ў мінулым годзе.

Вядома, у Брыля выдадзена шмат кніг. Прытым на розных мовах. Да таго ж, у зборнік "Сцежкі, дарогі, прастор..." увайшлі запісы, якія ўжо калісьці друкаваліся ў іншых зборніках.

Цікавасць жа менавіта гэтага зборніка ў тым, што пісьменнік сам адабраў для яго падарожныя замалёўкі розных гадоў, раскіданыя раней па розных выданнях. Тым больш датаваныя гэтыя замалёўкі — ад пяцідзесятых гадоў да дзевяностых. Удумлівы чытач адновіць па маленькіх, акварэльна-празрыстых фрагментах і гісторыю нашага грамадства за гэты няпросты адрэзак часу, і побыт пісьменніка ў гэтым грамадстве. Жанр "нон-фікшн", непрыдуманай літаратуры, прадугледжвае найперш шчырасць. Пісьменнік не хавае ад нас тыя падрабязнасці мінулага, ад якіх сёння многія адхрышчваюцца або стараюцца паказаць у іншым святле. Так, "быў дзень, быў час, была эпоха..." Расклад жыцця афіцыйна прызнанага пісьменніка ў савецкім грамадстве быў распісаны "звыш" — паездкі за мяжу ў складзе дэлегацый, у тым ліку — у краіны "загніваючага капіталізму"... Боязь правакацый, абавязак разгледзець (і пасля выкрыць у мастацкім слове) заганы тамашняга жыцця... Але пісьменнік праяўляе незалежнасць, ён разважае, напрыклад, пра тое, што варта было б зрабіць даступным для савецкага чытача таго ж "Доктара Жывага" і "Лаліту"... Ён бачыць прыгожых — і знешняй і духоўнай прыгажосцю — людзей там, дзе прадпісана бачыць толькі эксплуататараў і прыгнечаных... Як прызнаўся сам пісьменнік у гутарцы з Леанідам Галубовічам, змешчанай у часопісе "Крыніца" ў 1995 годзе, "Ні служкай, ні паяцам з уласнай ахвоты я ніколі не быў, а калі сказаць найстражэй — заўсёды стараўся не быць. Ахватней былося "белай варонай". Але ж у млыне ды не запыліцца — гэта ох як няпроста! Ну, а асцепвацца ад пылу, выйшаўшы з яго, кожнаму ўласціва".



*З Піменам Панчанкам. 1967 г.*

Мне здаецца, што замест "белая варона" можна было б ужыць тэрмін "сумленны чалавек". Гэтае адчуванне праўды — унутранай і мастацкай — найбольш падкупляе ў зацемках Янкі Брыля. Тым больш што яго высокае мастакоўскае майстэрства не патрабуе дадатковых эпітэтаў. Менавіта таму зацемкі Брыля актуальныя і сёння, і, напэўна, заўсёды будуць знаходзіць водгук, закранаць самыя балючыя струны ў чытацкае душы — не можа ж таго быць, как увесь чытач стаўся прыдаткам да Інтэрнэту!

Падарожжа ў кнізе Брыля ідзе не толькі па краінах, не толькі па часе, але і па прасторах душы. Экзатычныя замалёўкі кшталту сувенірнага слана, падоранага аўтару Святаславам Рэрыхам, ды квартала "чырвоных ліхтароў" перамяжоўваюцца карцінамі ўбачанага ў роднай краіне. Выступленні ў калгасных клубах і школах, усемагчымыя творчыя камандзіроўкі "ў гушчу народа"... Мерапрыемствы "для галачкі"... Хто са старэйшага пакалення літаратараў не прайшоў праз гэта! Але Янка Брыль падмячае не "павышэнне ўраджайнасці", а... перадавую трактарыстку, якая адчайна мацюкаецца і плача над сваім лёсам: з-за паказальна-пякельнае працы няма часу на сям'ю. Аўтар апісвае пільнага міліцыянта, які дзіўна падобны паводзінамі да колішняга жандара. Маленькіх начальнікаў, якія пагарджаюць сваім народам і яго мовай і радуюцца выпадкова атрыманай уладзе, правярачоы яе моц на тым жа народзе... Страшнае рэха вайны, ахвяры рэпрэсій, татальны алкагалізм... Пра ўсё ёсць у кнізе — бо гэта ёсць у нашым жыцці. Але перш за ўсё ў зборніку прысутнічае, сапраўды, лірыка — прыгажосць прыроды і людзей, роднага слова і песні... Неаднойчы параўноўваліся мініяцюры Янкі Брыля з акварэлямі... І сапраўды — у іх тое ж багацце адценняў, тая ж бясконцая магчымасць новых адкрыццяў, і далучанасць гледача-чытача да таго, што ўспрымаецца... Як напісала крытык Галіна Тычка, "Чытаць Брыля лёгка — гэта праўда. Але не ўся. Бо чытаць Брыля ў той жа час і неверагодна цяжка. Брылёўская проза прымушае чытача думаць, глядзець у сябе, у сваю душу. Яна патрабуе такой жа гранічнай шчырасці ад самога чытача ў яго ўзаемадачыненнях са светам і з самім сабой".

У Янкі Брыля — свята... Не, шаноўны чытач, свята — у нас з табой.. Таму што ў нас ёсць кнігі Янкі Брыля, якіх не можа быць замнога. Таму што мы можам разам з пісьменнікам прайсці па ягоных сцежках-дарожках, глынуць ягонага прастору...

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

Бадай, адна з самых складаных і балючых праблем, якая заўсёды хвалюе пісьменнікаў, — праблема традыцыі і наватарства. Яшчэ нядаўна мы так горача, так спешна пачапіўшы адзін на аднаго біркі з азначэннямі «наватар» і «традыцыяналіст», спрачаліся аб ёй, спрачаліся не без узаемнай падазронасці, але з даволі прыкметным жаданнем адшукаць ісціну, справядліва мяркуючы, што яна не ў тых, хто такой праблемы наогул не прызнаваў. І што ж атрымалася з усяго гэтага? Пераканаліся «наватары», што праўда не за «традыцыяналістамі»? Ці наадварот? Не, каб здарылася так, гэта было б надта лёгкае і несур'ёзнае вырашэнне праблемы, якая, хочам мы таго ці не, існуе, здаецца, і цяпер. Дзякуй Богу, што мы адмовіліся ад чыста тэарэтычнага вырашэння яе: цяпер, бадай, пара паглядзець на яе практычна. Я не хачу сказаць, што гэта зраблю вось зараз я; проста хачу сказаць, што творчасць Брыля мае да гэтай праблемы даволі блізкае дачыненне. Калі хочаце, гэта можна сфармуляваць інакш: чым цікавая творчасць Брыля менавіта сёння, што новае ўносіць ён, аўтар, у літаратуру ў параўнанні са сваімі папярэднікамі? Чаму можна навучыцца ў яго? Ставіць пытанне так — безумоўна трэба, бо Брыль сапраўдны таленавіты мастак слова, дасягненні якога будуць вучыць і ўзнімаць тых, хто прыйдзе пасля яго...

**Міхась СТРАЛЬЦОЎ**

...Пішучы аповесць "Вёска", я паралельна чытаў і перачытваў усё, што знаходзіў на такую ж тэму, — каб не паўтарацца; у тым ліку і 2-гі том збору твораў Я. Брыля, аповесці "На Быстранцы" і "Кароткая сустрэча". І падумалася: як часта мы, маладзейшыя, не цэнім нашых жывых класікаў, звыкаемся, не ганарымся, што нам пашэнціла жыць з гэтымі людзьмі ў адзін час.

Самы лепшы надпіс-аўтограф з усіх, якія мне давялося чытаць, зрабіў А. Сыс на сваёй кнізе, здаецца, "Агмень", падараваўшы яе Івану Антонавічу:

"Бога малю,
каб даў сто гадоў
Янку Брылю!"

Хто не падпішацца пад такімі словамі?..

**Андрэй ФЕДАРЭНКА**

Сучасная беларуская "паэтычная проза" выкарыстала вопыт прозы псіхалагічнай, аналітычнай.

У прозе Я. Брыля, напрыклад, знойдзены свой, вельмі яркі сінтэз паэзіі і аналізу: за паэтычнай, лірычнай атмасферай яго твораў адчуваецца самае ўдумлівае пранікненне ў глыбіні чалавечай псіхалогіі.

У прозе Я. Брыля ўсё здзіўляюча ўраўнаважана: нацыянальная яркасць матэрыялу і вялікая культура чалавеказнаўства, эмацыянальнасць і разважлівасць, лірызм і пластычнасць малюнка...

...Вартасць прозы Я. Брыля як прозы "паэтычнай" — у тым, што ў творах яго няма і намёку на стылізацыю.

Я. Брыль зусім не стараецца, каб фраза яго гучала "паэтычна", наадварот, ён змагаецца з усякай распеўнасцю. Але ён так любіць сваіх герояў, тых, што ўзяты з гушчы народнай, ён так непасрэдна адчувае паэзію самога жыцця, нашага жыцця, што гэтая паэзія сама сабой пачынае гучаць у яго творах, у яго фразе...

**Алесь АДАМОВІЧ**

Яго называюць паэтам, апавядальнікам, субяседнікам. Называюць таксама лірыкам, кніжнікам, вязнем цытат. І яшчэ — мэтрам, класікам, вялікім чытальнікам. Усё гэта так. Усе вызначэнні дакладныя. Хіба што можна дадаць яшчэ адно, крыху адвольнае, але ў сваёй знаркавай адвольнасці, мусіць, найбольш сутнаснае — празаік-сімфаніст, рукапісы якога запоўнены табулатураю дзяцінства, сям'і, вайны і бясконцым гучаннем творчай адзіноты.

Чаму сімфаніст?

Ды перш за ўсё таму, што ў яговых кнігах малое заўсёды сугучнае вялікаму, даўжыня сказа адпавядае глыбіні дыхання, цыклічнасць формы (апісанне — успамін, успамін — роздум, роздум — зноў апісанне і г. д.) выконвае функцыю сюжэта, утварае тое, што называюць музыкай пісьма.

Ён любіць малую форму, тым самым даказвае, што празаіку-сімфаністу неабавязкова ствараць манументальныя творы. Дастаткова й сімфаньет — кароткіх аповесцяў, апавяданняў ці наогул пяціраднковых мініяцюр.

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

Калі глядзець на архіпелаг мініяцюр Янкі Брыля па-еўрапейску, дык трэба было б аднесці яго да авангардысцкай прозы, фрагментарнай і рассыпістай па сваёй прыродзе. Але такое рашэнне ўвапрэцца ў некалькі перашкод: па-першае, сам жа Брыль, як мы бачылі, не любіць жанравай аморфнасці ў мастацтве, крыўдуе, калі называюць яго лірыкам у прозе; па-другое, мініяцюры ў Брыля не мазкі на палатне імпрэсіяніста і не сімвалісцкія таемныя знакі, нават не смальты на пано мастака-манументаліста, — яны нешта іншае і большае, бо маюць эстэтычна-выяўленчую закончанасць, самастойнасць і самацэннасць.

Найважнейшы аргумент супраць безагаворачнага прыняцця мадэрнай версіі — тое, што ў натуры Брыля мы сустракаем здзіўляючую раўнавагу духу, яго творчая фантазія і ўяўленні падкантрольныя розуму, у той час як мадэрнісцкая мадэль творчай асобы стаіць на дамінацыі фантазіі, мройнасці, інтуітыўнасці, нават пераборы трызнення падводзяцца там пад сімптаматычны кампанент геніяльнасці.

**Уладзімір КАЛЕСНІК**

Чытаць Янку Брыля лёгка — гэта праўда. Але не ўся. Бо чытаць Брыля ў той жа час і невераготна цяжка. Брылёўская проза прымушае чытача думаць, глядзець у сябе, у сваю душу. Яна патрабуе такой жа гранічнай шчырасці ад самога чытача ў яго ўзаемадачыненнях са светам і з самім сабой. Кожны, хто чытае Брыля, бярэ на свае плечы двайную ношу — ён думае не толькі пра герояў, але незаўважна пачынае пераходзіць на сябе, аналізаваць свае паводзіны, учынкі. У гэтым магічны ўплыў брылёўскае прозы, які неўсвядомлена і я адчула яшчэ ў дзяцінстве.

У прозе Брыля шмат таямніц. І адна з іх у тым, што, нават чытаючы старонкі пра трагічнае і жудаснае ў нашым жыцці, ніколі не знікае адчуванне радаснага сонечнага святла, чысціні і яснасці, што нібыта выпраменьваюць яговыя кнігі. Не ведаю, якая любімая пара года ў пісьменніка, але мне здаецца, што лета. Лета ў самым сваім росквіце, трошкі ўжо прыціхлае ад буяння красак і зеляніны, спакойнае і раздумлівае, бо адчувае ўжо хуткі скон, але поўнае яшчэ жыццядайных сіл, моцы і гармоніі.

Да прозы Янкі Брыля вяртаешся, як у родны бацькоўскі дом пасля доўгай адсутнасці, калі кожная дробязь нагадвае дзяцінства, твой выток і пачатак, абуджае ўспаміны пра тых страчаных мрояў і летуценняў. Вяртаешся ў свой родны свет, які ад нараджэння і да скону быў і застанецца тваім.

**Галіна ТЫЧКА**



З Максімам Танкам і Аляксеем Карпюком, 1987 г.



У Кушлянах, 1990 г.



На ўзбярэжжы Даўгавы з сябрамі, 1960 г.



З Уладзімірам Караткевічам, 1971 г.

Мар'ян ДУКСА

## *Між гумнаў і хат*

Янку БРЫЛЮ

*Не чую дыхання людскога,*
*ні смеху, ні звад.*
*Прыслухайся: проста нікога*
*між гумнаў і хат...*
*Які ж ён абложыста-сумны,*
*падворак нямы.*
*Няўжо ж гэта вымерлі гумны,*
*сканалі дамы?*
*Чакае жытнёвы палетак*
*і клін яравы —*
*О, сейбіты, усе з-пад паветак*
*дзе дзеліся вы?*
*Маглі б малаткамі гаворку*
*працягваць касцы.*
*Усю вы скурылі махорку,*
*дзяды-мудрацы?*
*Плыве непрыемна ля вуха*
*сырая імгла.*
*З нябёсаў вялікая скруха*
*упала-лягла.*
*Што ў позняй любові бажыцца —*
*хто гэтаму рад?*
*Якая трава лапушыцца*
*між гумнаў і хат!*
*І сочыцца радасць між жалю,*
*б'е ў сэрца-набат —*
*якія тут вішні палалі*
*між гумнаў і хат!*
*О, хлопцы, хоць вы і паснулі,*
*наведайце сад —*
*якія гулялі красуні*
*між гумнаў і хат!*
*Тут падалі водбліскі раю*
*і дзьмула жуда.*
*Уся тут няшчаснага краю*
*ступіла бяда.*
*Зямля — яна спраўна загорне*
*слязінак гарох.*
*Тут сотні адбіліся ў дзёрне*
*няпрошаных ног.*
*Усіх тут прымалі са страхам —*
*сваіх і чужых,*
*бо кожны стараўся з размаху*
*ударыць пад дых.*
*Са смакам, балюючы нібы,*
*скакалі — і шмат! —*
*чырвоныя д'яблы-талібы*
*між гумнаў і хат.*
*На голым дварышчы бязвер'я*
*пакору паслі.*
*Штодзённа ўздымалася пер'е —*
*так хаты траслі.*
*Як лісце, ад сонца і стомы*
*зжаўцелі гады.*
*Спаткала глыбокая кома*
*будынкі й сады.*
*Чамусьці ніхто тут на золку*
*не йдзе да варот.*
*Такія пустыя падворкі,*
*як душы сірот.*
*А часу шматлікія лёсы*
*так лёгка спісаць.*
*Даўно нечапаныя косы*
*ў застрэшшы вісяць.*
*Ніколі не бачныя зблізку,*
*не знаючы страт,*
*гайдаюцца нашы калыскі*
*між гумнаў і хат.*

***Аглядваючы прастору XX стагоддзя, раптам заўважаеш сярод яго абломкаў высокую постаць волата, у вачах якога светлы смутак мудраца, што ўведаў усяму сапраўдную цану. І знікае адчуванне адзіноты і непрыкаянасці. Ападае, вяне, чэзне страх перад жахлівай хадой Вялікай Гісторыі. «А болей... Што ж там болей жадаць ад песняра?..»***

**Міхась ТЫЧЫНА**

Фота Ул. КРУКА

## І графскаму роду няма пераводу

**Мацярык Беларусі адметны дыфузіяй культур. Адным з носьбітаў духоўнага ўзаемаабмену з'яўляецца Эўзэбіюш Лапацінскі. Споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння гісторыка мастацтва, бібліяфіла, калекцыянера. Яго жыццёвыя шляхі нагадваюць абрысы і Вялікага Княства Літоўскага, і Рэчы Паспалітай. Эўзэбіюш Мар'ян Ян Станіслаў нарадзіўся ў Кіеве 1 сакавіка 1882 года. З 1906 года жыў у маёнтку Лявонпаль (зараз маё роднае мястэчка ўваходзіць у Мёрскі раён Віцебскай вобласці). З 1911 года працаваў у аддзеле рукапісаў Бібліятэкі Красінскіх у Варшаве. Мае землякі-лявонпальцы згадваюць пра яго побыт у Вільні, бо ён жыў там з рэнты ад лявонпальскага маёнтка. Памятаюць Зібы (Эўзэбіюша) як чалавека высокаадукаванага, надзвычай інтэлігентнага і... неўтаймаванага ў пачуццях: меў пяць ці шэсць шлюбаў.**

**Але ці не важней з нагоды юбілею майго земляка хоць пералічыць працы яго "ліцьвінскай" творчай спадчыны. Са згоды даследчыцы радаводу Лапацінскіх Людмілы Хмяльніцкай называю асноўныя. Былы студэнт Кракаўскага і Дэрптскага універсітэтаў напісаў "Матэрыялы да гісторыі артыстычнага рамяства ў Вялікім Княстве Літоўскім (XVI — XIX стст.)" (Варшава, 1946). У выданнях "Таварыства сяброў навук" у Вільні апісваў сваю багатую калекцыю дакументаў па гісторыі мастацкіх помнікаў Вільні, Беларусі, змяшчаў нататкі пра род Лапацінскіх, сям'ю Адама Міцкевіча. Ён жа — аўтар публікацый па гісторыі кірмашоў, гандлю, сельскай гаспадаркі Віленшчыны.**

**Апантаны падарожнік па Еўропе (Францыя, Швейцарыя, Італія), Эўзэбіюш Лапацінскі сабраў вялікую калекцыю малюнкаў, медалёў і карцін, частка якіх загінула ў 1914 годзе. Вялікае багацце згарэла ў лявонпальскім палацы падчас польска-бальшавіцкай вайны. Астатняе было разрабавана пасля верасня 1939 года.**

**Аўтографы Э. Лапацінскага я знаходзіў у Дзяржаўным архіве Вільні, дзе ён працаваў. Пасля 2-й сусветнай вайны вучоны пераехаў у Варшаву, працаваў у Дзяржаўным інстытуце гісторыі мастацтва і інвентарызацыі помнікаў пры Галоўнай дырэкцыі музеяў і ахоўы помнікаў.**

**На жаль, магутны шляхецкі род Лапацінскіх герба "Любіч" амаль згас. У міжваенны час жыла ў Вільні дачка Эўзэбіюша ад першага шлюбу. У Варшаве жыве Кшыштаф Лапацінскі. Летась ён аглядаў Лявонпаль, дзе застаўся адзіны ацалелы палац з усіх графскіх рэзідэнцый. У музеі радзімазнаўства пры Лявонпальскай сельскай бібліятэцы ёсць многа экспанатаў пра гэты шляхецкі род. Іх з цікавасцю агледзелі і паляк Кшыштаф Лапацінскі, і латыш Рыхардс Лапацінскі, якія былі летась удзельнікамі канферэнцыі "Радавод Лапацінскіх". А ўжо згаданая Людміла Хмяльніцкая толькі што выдала кнігу "На Белай Русі ў Сар'і". Гэта першае на Беларусі выданне пра Лапацінскіх. Так што духоўная дыфузія — узаемнае пранікненне атамаў нацыянальных культур — працягваецца.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

ПАЭЗІЯ

Генадзь АЎЛАСЕНКА

### Споведзь

*Шукаў жыццёвы шлях...*
*А можа, шлях да Бога...*
*Вучыўся ўсё жыццё,*
*ды не таму, відаць...*
*І зразумеў, што я*
*не зразумеў нічога,*
*Што чым вышэй узлёт,*
*тым горш зямлю відаць!*

*Я зразумеў, што жыў*
*у нейкім дзіўным гроце,*
*дзе ўсё,*
*і нават столь,*
*з крыштальнага ільду...*
*А можа, ўсё жыццё*
*я йшоў па тонкім дроце*
*І позна зразумеў,*
*што не ў той бок іду!*

*Я нейкі шлях шукаў,*
*да ведаў быў ахвочы,*
*Вучыўся ўсё жыццё,*
*ды зразумеў адно:*
*Што лепей прамаўчаць,*
*чым рэзаць праўду ў вочы,*
*Што зорачкі святло*
*пры сонцы не відно!*

*Я зразумеў, што я*
*не зразумеў нічога,*
*Што я,*
*І смех і грэх,*
*заблытаўся ў жыцці...*
*Што, можа, ён і ёсць,*
*адзіны шлях да Бога,*
*Ды мне яго,*
*на жаль,*
*ніколі не знайсці!*

### Актава-ўспамін

*Мы стрэліся ўвосень...*
*А ўвосень страчацца не варта!*
*Мы йшлі па алеі...*
*А парк быў самотна-пусты...*
*А дрэвы алеі, нібы ганаровая варта,*
*Пад ногі нам слалі свае залатыя лісты...*
*І цяжка было зразумець,*
*ці ўсур'ёз, ці то жартам,*
*У вечным каханні сама мне*
*прызналася ты...*

*Ды восень прайшла...*
*Замятае зіма наваколле...*
*А вечным каханне, на жаль,*
*не бывае ніколі!*
г. Чэрвень

Таіса МЕЛЬЧАНКА

### Прычасце вернасці

*Зноў працінае боль, нібы страла, —*
*Мярцвеюць душы без агню святога.*
*Мая Радзіма, ты ў мяне ўвайшла*
*Цяплом пяшчоты з роднага парога.*
*Ты для мяне — як цэркаўка, як храм.*
*Мне годнасці тваёй стае заўсёды.*
*Адзіная, нялёгка сёння нам.*
*Не згорбімся ж, бо крэмневай пароды.*
*Я з рук тваіх прычасце прыняла,*
*Твой крыж святы я з верай цалавала.*
*Як поле жытне, шчодрай ты была —*
*Сваё мысленне мне пераліваля.*
*Малюся за цябе на абразы,*
*Анёлам светлым маці выплывае.*
*Ці не таму, што блізка да слязы?*
*Яна ўва мне, як ты, мая святая.*
*Я на агні любві душу спалю.*
*Ты ж застанешся для яе адзінай.*
*Я веліч веры іншым пераллю*
*І песняй уваскрэсну лебядзінай.*

### Сезон дажджу

*О, як я не люблю сезон дажджу,*
*Здаецца, мокне і душа, і хата.*
*Як з'явішся — ужо не адпушчу.*
*Ад слоты мне адной ніякавата.*

*Няўжо не бачыш? Дождж бясконца лье.*
*Я, нібы ў склепе, тут замуравана.*
*І ты, відаць, сядзіш, як у турме.*
*Чакаць вясёлку доўга, мой каханы.*

*А мо пашле ўсявышні мне каўчэг*
*І да цябе прычалю нечакана?*
*Бо ты — мой боль і мой шчаслівы смех.*
*Ды толькі покуль радавацца рана.*

*Мне б толькі-толькі крыху цеплыні,*
*Душы каб адзінокай адагрэцца.*
*А дождж ідзе... Шарэюць мае дні.*
*Магчыма, неба розуму кранецца.*

*Ты ў думках блізка — сэрца пад рукой.*
*Я нервам кожным пульс твой адчуваю.*
*Пачуцці разліваюцца ракой —*
*Любоў сваю табе пераліваю.*

*Але ад явы зноў шалею я,*
*Бо кроплі б'юць не ў шыбіну, а ў сэрца.*
*Спяшай! Патопам поўніцца зямля.*
*Твая душа з маёю не сальецца.*
г. Гомель

Іна АМЕЛЬЧАНКА

### Вербніца

*Вербніца.*
*Спёка.*
*Жыву.*
*Мудрэю?!*

*Лесвіца*
*з неба*
*ў траву*
*млее.*

*Злосць*
*ні на што,*
*на сябе,*
*спее.*

*Кіну*
*ў яе*
*камячок*
*глею.*

*Гукі*
*жыцця*
*прагнуць*
*спыніцца.*

*Рукі*
*мае*
*пахнуць*
*жывіцай.*

●

*Сярод ссівелых дзьмухаўцоў*
*напаўдзіця-напаўвар'ятка*
*віе вянок з забытых сноў,*
*няздзейсных хмар, нястомных згадкаў.*

*Снуюць імклівыя вякі*
*праз тонкія прасторы пальцы.*
*І ў неба прагнуць летункі —*
*да зор, да хмар, да Бога ўзняцца.*

*Ускалыхнулася трава,*
*пачуўшы подых блізкіх сцежкаў...*
*Ахутвае самотны твар*
*напаўшчаслівая насмешка...*

●

*Беражы вас Бог,*
*сцеражы вас Бог,*
*як Вы на парог,*
*як Вы за парог.*

*На крыжы дарог,*
*у вязьме трывог,*
*нажальбую Вам*
*сэрца-абярог.*

*Загарну ў мурог,*
*пакладу ля ног*
*на святой зямлі,*
*дзе спрадвечны Бог.*

*Каб ніхто не змог,*
*каб ніхто не зрок, —*
*сэрца-абярог,*
*сэрца-абразок.*

*У шчаслівы смех,*
*у залачоны плёх —*
*лёсавы разбег:*
*беражы Вас Бог!*

●

*Мокры снег па-над бяссоннем.*
*Пад вачыма — відмаў рой...*
*"Вы чаго без парасона?"*
*Светач мой...*

*Святы Віктар... Цёплы прысак...*
*Прорвы сочацца крывёй...*
*Боль і гонар Сцепаніды:*
*"Светач мой..."*

*Князь пяшчотаю бруіцца...*
*Майстра слова... Мужны вой...*
*І бы ўздрыгне бліскавіца:*
*"Светач мой?!"*

*Парабчанка і чарніца...*
*Звыкла... У шэрані людской*
*абразок... З яго крыніца:*
*светач мой...*

Эльвіра ЯРЧАК

### Беларусь

*О Беларусь, радзіма дарагая,*
*Табе ў любові прызнаюся зноў!*
*Малюся Богу, хай ён зберагае*
*І Мінск, і Гродню, і маленькі Сноў.*

*Сягаю думкай да лугоў Прыдзвіння*
*І да самотных гомельскіх дуброў.*
*Малюся Богу, хай ён не пакіне*
*Бярозу, Прыпяць і сівы Дняпро.*

*Іду высокай кручай Наднямоння*
*Ці над Дзвіной халоднаю стаю, —*
*Малюся Богу, хай ён абароніць*
*І Свір, і Нарач мілую маю.*

*Тут курганы легенды зберагаюць,*
*А лес — прытулак казак, дзіўных сноў.*
*О Беларусь, радзіма дарагая,*
*Табе ў любові прызнаюся зноў.*

●

*Будзь добрай і мудрай,*
*о восень мая,*
*Дарэмна не плач і не злуйся*
*На тых, хто згубіўся*
*ў далёкіх краях,*
*Дамоў на жніво не вярнуўся...*

●

*Што ісціна на свеце, што мана? —*
*Спрачаемся за чаркаю віна,*
*І аднаго ніяк не разумеем:*
*Жанчынаю заўжды была яна.*

●

*Як літасцівым будзе неба*
*І каласкі запахнуць хлебам,*
*На лаўрах сну не спачывай:*
*Яшчэ сабраць дар Божы трэба.*

Анатоль ТРАФІМЧЫК

●

*У смерці няма смерці.*
Якуб КОЛАС
"У старых дубах"

*Пашкадуйце мяне — і тады прыпаўзу*
*На каленях да вас, бы сабака.*
*Пакажу насамрэч чалавецтва шызу*
*І да раніцы буду я плакаць.*

*У куточку адзін буду плакаць наўзрыд,*
*І чакаціму смерці для смерці,*
*Прагаю ад усіх на той свет суіцыд*
*І сляды пастараюся сцерці.*

*Пашкадуйце мяне ці... пабіце хаця б,*
*Каб я ведаў, што людзі жывыя.*
*Пашкадуйце мяне — ці то моліцца раб,*
*Ці то вецер за вокнамі вые...*

●

*Глядзела на яго сінё і празрыста і ўсміхалася ружовым прыпухлым роцікам. З відавочным падкусам, але адначасова і з адценнем заахвочвання.*
У. КАРАТКЕВІЧ
"Калядная рапсодыя"

*Такую больш мне не сустрэць,*
*Бо так здараецца аднойчы:*
*Сінё, празрыста так глядзець*
*Не ўсіх дзяўчатак могуць вочы.*

*Пагляд твой я не зразумеў,*
*А ён, застаўшыся далёкім,*
*Дзвюма валошкамі сінеў,*
*Блакітам клікаў за аблокі.*

*Ды мне — прагматыку — былі*
*(Хоць адчуваў: раблю не тое)*
*Чужымі сінія палі,*
*Блакіт, валошкі — ўсё чужое...*

*А сёння... Сёння ўсё ўсплыло*
*І нават стала крыўдна трошкі:*
*Якое ж дзіўнае святло*
*Дарылі сінія валошкі!*
Ганцавіцкі раён



ПРОЗА

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

# ВАЗОНЫ

АПАВЯДАННЕ

Ранняя вясна. Адліга. Снег, утрамбаваны за зіму, ператварыўся ў цвёрдую і коўзкую скарынку. Іду на працу. Дыхаецца на поўныя грудзі. Паветра бадзёрае, п'янкое. На многіх тварах блукае ціхая ўсмешка. Усміхаюцца мне ці, можа, маладой вясне? Хочацца ўсім гаварыць ласкавыя словы. Хочацца множыць радасць і весялосць. Узбіраюся на горку: ногі слізгаюць назад, не слухаюцца... Падаю, падхопліваюся і зноў падаю. Сяджу на лёдзе і смяюся. Гледзячы на мяне, усміхаецца пажылая жанчына. Хочацца жыць вечна...

Прахадная завода. Цэх. Гул матораў і станкоў. Шумяць вентыляцыйныя люкі. Пераапранаюся ў робу. Атрымліваю заданне. Рыхтую рабочае месца для працы. Правяраю кандуктар. Стаўлю свярдзёлак, моцна заціскаю патрон, уключаю станок: "Паехалі!" Работа спорыцца. Гатовыя дэталі з бразгатам ляцяць у скрынку. Зліваюся са станком. Хочацца спяваць.

Перакур. Хлопцы па чарзе расказваюць анекдоты. Смяёмся дружна. Калі дзверы адчыняюцца — дым клубамі вырываецца на вуліцу. Напарнік заўтра збіраецца на рыбалку. Здзіўляюся: "Заўтра — свята?" Я і забыўся: сёння ж кароткі дзень!

Зноў працуе станок. Мерна гудзе матор, падаюць у скрынку гатовыя дэталі. Час ляціць непрыкметна: левая рука хапае дэталь, правая — кандуктар, замацоўваю яго баранчыкамі, свідрую адтуліны, адкручваю кандуктар — кідаю дэталь у скрынку. Дэталь, кандуктар, дэталь... Прыходзіць захапленне ад працы: радуюся ўладзе над металам, радуюся маладосці, сіле, здароўю і заўтрашняму святу.

Перакур. Думаю: "Схадзіць бы ў царкву". Тут жа вырашаю: пайду сёння ж. Тушу цыгарэту. Іду на сваё месца. Работа, перакур, работа... Прыходзіць другая змена. Праца скончана. Здаю гатовыя дэталі, прыбіраю смецце і прыстасаванні. Складваю свярдзёлкі, ключы і замыкаю ў сейфе. Пераапранаюся, развітваюся з калегамі.

Вуліца. Сонца. Многа сонца. Яно слепіць вочы. Хлапчук, прысеўшы каля лужынкі, хвошча па вадзе дубчыкам. У дробных пырсках зіхаціць вясёлка. Людзі прыжмурваюцца і нагадваюць сабою кітайцаў. Весела журчаць ручаі. Прахожыя, абмінаючы лужы, скачуць па тратуары. Успамінаю, што скончыліся цыгарэты. Трэба купіць...

●

Бываюць дні ці хвіліны, калі зліваешся з сусветам. Адчуваеш сябе жывой кропелькай у вялізным і бязмежным акіяне жыцця. Быццам абуджаешся ад доўгай спячкі. Здаецца, што сам нябесны Анёл атуляе цябе бялюткімі крыламі, нібыта нячутна пацалуе ў вочы і на ўсё пачынаеш глядзець па-іншаму: затрымціць натхнёная душа, радасна затрапеча сэрца. Усё разумееш і на ўсё адгукаешся. Але раптам здараецца штосьці нязначнае — абрываецца нешта і страчваецца сувязь, знітаванасць з сусветам, нібы толькі што снілася жыццё, усыпанае ружовымі пялёсткамі, сонечнае і шчаслівае, — прыходзіць звычайная шэрая будзёншчына, сумная і нецікавая. Разумееш тады, што ўсяго імгненне таму разам з табой жыў і радаваўся Анёл.

●

Кіёск. Мілавідная жанчына ў акенцы.

– Дзень добры! Вясна прыйшла!

– Добры! — адказвае яна і ўсміхаецца. — Што будзеце браць?

– Пачак "Элэма".

Кладу грошы. Падае пачак. Тут жа разрываю абгортку, дастаю цыгарэту, прыкурваю, пачак кідаю ў дыпламат.

– Так, — гаворыць яна, — надвор'е сёння цудоўнае. І людзі вясёлыя такія, сонейка прыгравае.. І так лёгка працаваць.

Падае рэшту і пачак цыгарэт.

Развітваюся і крочу па вуліцы. Спахопліваюся: "Яна ж дала два пачкі". Пералічваю грошы — так і ёсць: памылілася! Вяртацца не хочацца, крочу далей. "Такой бяды, колькі яны людзей падманваюць..." Ды адчуваю: нешта знікла. Сонца? Не, усё гэтак жа ярка свеціць. Знік — настрой! Я згубіў радасць і бадзёрасць духу. Там, ля кіёска. Не, пазней, калі пераканаўся, што яна памылілася. Трэба вярнуцца, хоць і не хочацца: ужо даволі далёка адышоў. Не ўсе ж падманваюць. Камерсанты — усе! Яна жывуць гэтым: танней купіць, даражэй прадаць, падмануць, адным словам. Вунь, хоць бы мой знаёмы, так проста й гаворыць: бізнес ёсць бізнес. Ну і што? Але ж настрой у мяне сапсаваны. Яна ўкрала маю весялосць! Ха, украла, — яна заплаціла за радасць, якую я пакінуў там, купіла мой вясновы настрой. Вярнуся, забяру сваю радасць.

Вяртаюся і аддаю назад цыгарэты.

– Вы памыліліся! Далі два пачкі, а я заплаціў за адзін.

Яна здзіўлена глядзіць, потым вінавата ўсміхаецца.

– Дзякуй! — А вочы — збянтэжана-разгубленыя.

– Глядзіце, — кажу, — вясной можна пратаргавацца.

– Нічога, як-небудзь абыдзецца.

Крочу далей. Настрой вярнуўся не зусім. Штосьці усё адно непакоіць. "Ну, вядома, яна магла падумаць, які я дурань: вярнуўся за кіламетр, каб аддаць цыгарэты..." Акурат гэта і засмучае. Ну і няхай!

У царкве людзей няшмат. Запальваю свечку, капаю расплаўленым воскам у дзірачку падсвечніка, замацоўваю. Доўга гляджу на агонь. Нехта казаў, што пастаўленая ў царкве свечка — гэта малітва, якая падымаецца да Бога. Успамінаю: купал царквы будуецца накшталт вогніка свечкі. Купал — малітва. І царква — малітва. І радасць — малітва. Кожны чалавек — непаўторная малітва. І ўсё вялікае жыццё — высокая малітва да Бога. Хто як хоча, так і жыве. Хто як умее — так і моліцца.

Пачынаецца служба. Вагаюся: застацца ці не? Гавораць, грэх выходзіць з царквы, калі служба пачалася. А калі трэба? Ці мала што могуць гаварыць? Аднаму грэх, а другому — не! Адзін мёртвых "у суботу" уваскрашае, а іншыя жывых увесь тыдзень забіваюць.

Падыходжу да царкоўнай крамкі. Доўга разглядваю кнігі, абразы, крыжыкі, медальёны.

– Ці ёсць у вас абразок Анёла-ахоўніка?

– Ёсць. Але толькі вось такі, — бабулька працягвае невялікую іконку на кардонцы.

– Дзякуй. Колькі з мяне?..

Разлічваюся і выходжу на вуліцу. Сонца схавалася. Сумна. Некалькі жабракоў працягваюць рукі. Праходжу міма. Пячэ думка: у мяне ж засталіся грошы. Вяртаюся назад. Даю некалькі паперак крайняму, кудлатаму, з вялікай барадой дзеду. Ён хрысціцца, я ківаю галавой. Толькі аднойчы я напраўду адчуў, што такое міласціна і якой яна павінна быць. Сядзела бабулька ў пераходзе — іконка Божай Маці на грудзях, хустка на галаве і рукі худзюсенькія, кожная жылка пад скурай прасвечваецца. Мне яе стала па-чалавечы шкада. Паклаў грошы — яна перахрысцілася, і мне раптам гэтак стала радасна. Я падумаў тады: як добра, што ёсць гэтая бабулька, якой я магу дапамагчы.

Па дарозе да прыпынку паслізнуўся і паляцеў стырчма. Штосьці я часта падаю сёння? Падняўся. Атрэсваю ад вады і бруду паліто. Прыходзіць думка: я ўпаў не таму, што паслізнулася нага, а таму, што падумаў дрэнна пра аднаго знаёмага. Толькі падумаў — і тут жа паляцеў на зямлю. Прычына хавалася ў дрэнных думках пра чалавека, а падзенне — усяго толькі вынік іх. Калі я зразумеў гэта, значыцца, каля мяне яшчэ ёсць Анёл. Робіцца добра.

У аўтобусе дастаю з дыпламата куплены ў царкве абразок. Адразу захапляюся выявай нябеснай істоты. Штосьці ёсць тут. Нешта няўлоўнае. Ці ў мяккіх рысах твару, ці ў някідкіх колерах і фарбах, ці ў лёгкіх крылах за ягонымі плячыма, ці ў перакрыжаваных на грудзях руках, ці ў поглядзе спагадлівых вачэй? Штосьці тужлівае і журботнае, шкадобнае і клапатлівае. Анёл нібы глядзіць у глыбіню душы. Плача, гледзячы на мяне, аб усім чалавецтве. У яго аблічы бачыцца тайна, якую немагчыма перадаць словамі: таямніца чалавечага быцця і боскай любові.

Бываюць такія хвіліны, калі радуе нават нязначная дробязь, калі, па-сутнасці, радуешся ўсяму, што жыве і дыхае. Так і сёння: побач Анёл, я адчуваю яго прысутнасць, у руках цёплы абразок, дома мяне чакаюць жонка і дзеці — словам, наперадзе жыццё, невядомае, адвечнае і шчаслівае...

●

Вячэраем без сына: ён ходзіць на шахматны гурток і вяртаецца позна. "Калі толькі ўрокі паспявае вучыць", — думаю я. Надзейка хітруе, не хоча есці:

– Мамулечка, я болей не хачу. Мы ў садзіку елі.

– Дачушка, трэба есці, трэба. Вырасцеш хутчэй, — спрабуе ўгаварыць жонка.

– А я не хачу вырастаць. Дзяцей усе любяць, цукеркі прыносяць, а вялікіх — не!

Маўчым.

– Тата, — паварочваецца да мяне Надзейка, — а ты ведаеш, чаму снег растае?

– Не. — Цікава, што яна адкажа — Ну і чаму? — пытаюся.

– Яго траўка знізу падаграе.

Усміхаемся. Размешваю гарбату, заўважаю, што лыжка ходзіць супраць гадзіннікавай стрэлкі. Нехта казаў, што ўсё трэба рабіць за сонцам. Супраць сонца робяцца толькі чорныя справы. Я раней і не ведаў. Цяпер — ведаю, але цяжка пераламаць прывычку. Перавучвацца заўсёды цяжка.

– А Рудкоўскі Саша мяне за валасы цягаў, — з важным выглядам паведамляе малая.

– Еш! Не з'ясі — казку не паглядзіш, — пагражае жонка.

– А што ты яму сказала? — цікаўлюся ў дачкі.

– А я сказала, што жанчын трэба любіць, кветкі дарыць, а не за валасы цягаць... Я ж жанчына, праўда, тата?

– Праўда, праўда...

Дапіваю гарбату, дзякую, іду ў кабінет. Дастаю з дыпламата кнігу (яе далі мне на адзін — заўтрашні, святочны — дзень), толькі збіраюся разгарнуць — званок у дзверы. Адчыняю. На парозе — суседка.

– Добры вечар. Я да тваёй гаспадыні.

– Праходзь. Яна на кухні.

Зноў іду ў кабінет. Другі раз бяру ў рукі кнігу. Прачытваю старонку, не болей — заходзяць удзвюх: жонка і суседка.

– Мы да цябе, — кажа жонка.

– Хочам азеляніць твой кабінет, — перабівае суседка. — Ты ж ведаеш, у нашага Сцёпкі алергія. Што ўжо толькі ні рабілі!.. А сёння я падумала: можа, ад вазонаў? Дык хачу хоць на нейкі час да вас перанесці вазоны, паглядзець, ці не мінецца алергія ў малога.

– Ты не супраць, калі мы іх вось сюды, на кніжныя паліцы паставім? — пытаецца жонка.

– І шмат іх?

– Ды не. Гаршкоў сем, — адказвае суседка.

– Ну, нясіце, — пагаджаюся я, — што з вамі зробіш.

Суседка носіць гаршчочкі, жонка, узлезшы на табурэтку, расстаўляе іх на кніжных паліцах. У кабінеце адразу свяжэе ад зеляніны, робіцца ўтульна. Не ведаю, чаму, але мне раптам хочацца пахваліцца абразком, які набыў у царкве, нібы падзяліцца радасцю адкрыцця.

– Што ты бачыш у выразе яго твару? — пытаюся ў суседкі.

Мелькам кідае позірк, паціскае плячыма: "Нічога!" Але потым усе ж такі пытаецца: "А што гэта за іконка?"

– Анёл-абярэжнік, — адказваю. Мяне чамусьці разбірае няўцямны сверб: — Няўжо ты нічога не заўважаеш у паглядзе Яго вачэй?!

Маўчанне.

Зноў пацепвае плячыма.

– Ікона як ікона, — усміхаецца яна.

Іскрынкі смеху ў вачах мне бачацца зялёна-халоднымі і калючымі.

– Што ты прыстаў да чалавека, — заступаецца жонка.

На гэтым трэба спыніцца. Здаецца, гэта момант залатой сярэдзіны, калі яшчэ ўсё збалансавана і нічога не парушана. Але...

– Ну, паглядзі яшчэ раз! — не адступаюся я.

– Чаго ты да мяне прычапіўся! — ужо амаль крычыць суседка. — Што я павінна тут убачыць? — Яна злуецца.

І правільна робіць: я хачу, каб яна ўбачыла тое, што бачыў я, а гэта — немагчыма. Тым не менш, мяне нясе далей:

– Няўжо ты не бачыш, што Анёл плача па тваёй душы, няўжо не адчуваеш яго жалю па чалавеку?

Суседка крыўдліва фыркае. Разумею, я сказаў нешта абразлівае. Хоць і позна, але да мяне нарэшце даходзіць, што не трэба было ўвогуле паказваць ёй абразок. Сорамна за свой язык. Ёсць рэчы, якія трэба берагчы ад чужых вачэй, ёсць думкі, якія не трэба вымаўляць услых. На жаль, мы гэта вельмі позна разумеем, калі ужо нічога нельга паправіць. Так і тут: слова — не верабей.

Суседка выходзіць. Жонка на кухні мые посуд: чуваць, як цурчыць вада і грукаюць талеркі. Дачка гуляе з лялькамі ў маім пакоі. Кніга цікавая – я гэтак захапіўся, што не заўважаю нічога навокал.

Раптам да мяне далятае нечаканы шоргат, і тут жа ўздрыгваю ад рэзкага грукату. Спуджаны крык дзіцяці. Кідаюся на крык, падхопліваю на рукі дачушку. Вочы — разгубленыя... Надзейка плача.

Прыбягае жонка, вырывае дзіця з маіх рук:

– Дачушка, што з табой?

– Паліцы ўпалі, — гавару я.

– Цьфу-цьфу! — сплёўвае яна. — Згінь ды прападзі ўсё благое!.. Галоўку разбіла, дзіцятка маё, ціха-ціха... Куды ты глядзеў? Што стаіш?

– А што рабіць?

– Бінт нясі хутчэй, перакіс там, у аптэчцы...

Малая пакрыху супакойваецца. Ранка невялікая. Апрацоўваем яе перакісам вадароду, забінтоўваем Надзейчыну галоўку. Праз хвілін дзесяць:

– Мамачка, я не баялася. Яны падаюць, а там — лялька. Я за ляльку спужалася. А потым ужо галоўка забалела. Ужо не баліць, ты не хвалюйся, мамачка, перастала ўжо, — улагоджвае Надзейка маці.

– Што гэта за гаспадар такі? — папракае жонка. — Маглі б зусім дзіця забіць.

– Хіба я вінаваты? Адкуль я ведаў, што яны абваліцца могуць.

– Прыбіў дрэнна, вось і абваліліся!

– Што ты кажаш? Ты ведаеш, што такое дзюбель? Паглядзі, чым яны былі папрыбіваны.

– Колькі вагі ў тых вазонах, а бачыш, што здарылася... — разважае жонка.

– А ні прычым вазоны. Гэта, лічы, тры лішнія кніжкі на паліцы. Тут іншае.

І са здзіўленнем даследую прычыну. Неверагодна: паліцы сарваліся са сцяны, а на іх, здаецца, сядзець можна было! Усё гэта дзіўна. Спачатку ўпала верхняя, яна ўдарыла па ніжняй, і разам з вазонамі абедзве паляцелі на падлогу. Два гаршчочкі разбіліся...

– Пайду скажу, няхай забірае, — гаворыць жонка і кіруецца да суседзяў.

Суседка здзіўляецца, што паліцы ўпалі, але здзіўленне нейкае хваравіта-вясёлае, ці не бадзёрае.

– Я ж не супраць была, — нібы апраўдваецца жонка, — а калі і дзесяці хвілін не прайшло... Бачыш, не вытрымалі... То і не трэба, значыць, каб яны ў нас стаялі.

– Вы прабачце, што так сталася: хто ж ведаў? — таксама апраўдваецца суседка.

Яна моўчкі збірае чарапкі, носіць вазоны да сябе. Нарэшце забірае апошні.

Усё гэта даволі дзіўна: прынесла з паўгадзіны назад, а — разбіла дзіця галаву, валяюцца дзве пашкоджаныя паліцы. Нібы спецыяльна, каб гэта здарылася?

Аглядаю паліцы. Закручваю шрубкі, папраўляю скасабочаныя ад падзення дошчачкі. Кніжку наўрад ці дачытаю — работа нечаканая звалілася. Супакойваю сябе хоць тым, што не злуюся на суседку. Яна таксама не вінаватая. З галавы чамусьці не выходзіць думка пра абразок. Шукаю новыя дзюбелі. Надзейна забіваю ў сцяну, правяраю. І раней гэтак жа забіваў. Клічу жонку.

– Паглядзі, як трымаюцца, а то скажаш потым...

– Не трэба было ёй паказваць іконку! — заключае яна ўпэўнена, нібы даўно разгадала для сябе прычыну.

Каторы ужо раз здзіўляюся супадзенню нашых з жонкаю думак — вось і не вер пасля гэтага ў тэлепатыю. Маўчу. Разумею: так і ёсць, не трэба было паказваць...

●

Раніца. Снег за свята амаль увесь растаў, ператварыўся ў брудную кашу. Пахмурна, ідзе дробны дождж. Настрой кепскі, але — мушу ехаць на працу. У аўтобусе цесна. Побач — жанчына. Штосьці знаёмае падаецца ў яе твары. Можа, бачыў дзе? Яна заўважае, што я прыглядаюся да яе. Раптам усміхаецца і яе вочы сустракаюцца з маімі.

– Вясна прыйшла! — гаворыць яна.

– Якая ж гэта вясна? Гразюка, не ступіць, — пазнаю ў жанчыне гандлярку з кіёска. — Гэта вы? У нашым раёне жывяце?

– Ага. А я вас адразу пазнала. Рэдка ў наш час вяртаюць назад, калі аблічышся.

– Час цяжкі...

Нейкае імгненне маўчым. Аўтобусныя шыны з шумам рассякаюць лужыны — пырскі фантанамі разлятаюцца ў бакі.

– Надвор'е сёння кепскае, — каб падтрымаць гаворку і загладзіць недарэчнае пытанне, гавару я, — і настрой благі.

– Нічога, — усміхаецца яна, — пасля абеду будзе сонейка.

– Адкуль вы ведаеце?

– А вось паглядзіце.

З аўтобуса выходзім разам. На правах знаёмага падаю ёй руку. Усміхаецца, дзякуе. Праз квартал разыходзімся: яна — у свой кіёск, я — на завод. Хоць сонца яшчэ і не відаць, але на душы робіцца цяплей. Аказваецца, падораная чалавеку радасць абавязкова вяртаецца назад. А мы так часта сумняваемся ў гэтым. Так, калі ёсць Бог на небе, пасля абеду абавязкова павінна быць сонца. Зноў хочацца жыць. Хаця б да абеду. Каб паглядзець: пакажацца з-за хмар сонейка ці не?



ЧАСАПІС

## І навукова, і пазнаваўча

**"Весці Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі" (галоўны рэдактар В. Яканюк) выйшлі ў**




**свет другі раз. Калі першы нумар гэтага навукова-тэарэтычнага часопіса, выдадзены летась, сваім зместам быў скіраваны найперш на самапрэзентацыю новага выдання, дык цяперашні цалкам адпавядае дэклараваным задачам.**

**Другі нумар "Весцяў..." складаецца з разнастайных навуковых, даследчых, тэарэтычных прац, згрупаваных па рубрыках: "Гісторыя і тэорыя беларускага музычнага мастацтва", "Этнамузыкалогія", "Гісторыя і тэорыя сусветнай музычнай культуры", "Эстэтыка і герменеўтыка", "Музычная адукацыя".**

**Адкрываецца часопіс артыкулам В. Дадзіёмавай "З рэтраспектыўныхназіранняў над жанрава-стылявой палітрай музычнай культуры Беларусі XVIII стагоддзя". Адзначаючы пэўныя спецыфічныя рысы айчыннай музычнай культуры XVIII ст., аўтар робіць выснову наконт адпаведнасці яе асноўных з'яў агульнаеўрапейскай мадэлі.**

**Наогул, у часопісным сшытку сабраны шэраг публікацый інфармацыйна насычаных, адметных жывой думкай, дапытлівасцю, здатных зацікавіць, напэўна, не толькі спецыялістаў у сферы музыкі. На праблемы ідэнтыфікацыі старадаўніх духавых інструментаў, сярод якіх акрэсліваецца прататып фагота на Беларусі, засяроджвае ўвагу А. Фралоў (яго тэкст аздоблены унікальнымі ілюстрацыямі). Дзейнасць музычных таварыстваў у Мінску да пачатку XX ст. аглядае Б. Нічкоў. Пра яўрэйскую літургічную музыку ў гістарычнай рэтраспектыве разважае Н. Сцяпанская. Фартэпіянныя творы Г. Гарэлавай 80—90-х гадоў аналізуе Т. Цітова. У артыкуле Ю. Златкоўскага сама назва інтрыгуе: "Герменеўтычны тэкст: "за" і "супраць".. Усяго пад адной вокладкай сабраны працы 20-ці аўтараў: аспірантаў, мастацтвазнаўцаў, педагогаў.**

**"Весці..." паведамляюць пра новыя выданні і дысертацыі, выкананыя ў Беларускай акадэміі музыкі, азнаёміцца з якімі можна ў бібліятэцы акадэміі. Сярод выданняў — матэрыялы навуковых чытанняў памяці Л. Мухарынскай, хрэстаматыя па рэлігійнай музыцы Беларусі XVII-XVIII стст. (укладальнік Т.Ліхач), "Урокі канцэртмайстарскага майстэрства" С. Бялькевіч, "Правілы і тэхніка складання кантрапункту строгага пісьма" У. Алоўнікава ды інш.**

**С. Б.**

ДАТЫ

***Ёсць у гісторыі культуры творчыя постаці сімвалічныя: увасабляюць яны сабой вечна жывую пераемнасць паміж добрай спадчынай мінулага і лепшымі дасягненнямі сучаснікаў. Да ліку такіх можна аднесці Васіля Залатарова — кампазітара, тэарэтыка, педагога, прафесара, народнага артыста БССР, з імем якога звязаны яскравыя старонкі развіцця рускай, украінскай, беларускай культур.***

***На жаль, пра Залатарова напісана вельмі мала, у асноўным — вядомымі беларускімі музыказнаўцамі Сімай ды Ісідарам Ніснeвічамі. А жыццё гэтага таленавітага чалавека ў мастацтве было багатае, змястоўнае і павучальнае, пра што сведчаць і матэрыялы, якія знаходзяцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. На аснове іх (сюды ўвайшлі таксама выказванні і ўспаміны сучаснікаў кампазітара) і падрыхтавана гэта публікацыя.***

# Без працы не бывае мастака...

ДА 130-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ВАСІЛЯ ЗАЛАТАРОВА

Васіль Залатароў нарадзіўся 7 сакавіка 1872 года ў Таганрогу. Сын рабочага тытунёвай фабрыкі, у дзесяцігадовым узросце ён быў, у выніку конкурсу, прыняты выхаванцам Прыдворнай пеўчай капэлы ў Пецярбургу. Там вывучаў ігру на скрыпцы і займаўся кампазіцыяй пад кіраўніцтвам М. Балакірава. У 1911 г. былы аднакласнік Залатарова Фёдар Акіменка ўспамінаў: "У мой час сапраўднымі любімцамі Балакірава былі В. Залатароў, І. Вішнеўскі, С. Бармоцін. Мы ігралі яму нашы творы; ён іх альбо хваліў, альбо крытыкаваў, але часта прыходзіў і ў захапленне, асабліва ад музыкі Залатарова. Балакіраў вызначаў у таленавітага юнака выключны кампазітарскі дар і прадказваў яму бліскучую будучыню..."

У 1900 г. Васіль Залатароў з прэміяй імя Антона Рубінштэйна на "выдатна" заканчвае Пецярбургскую кансерваторыю па класе кампазіцыі. Вучань вялікіх класікаў М. Балакірава, А. Лядава, М. Рымскага-Корсакава, ён робіцца адным з найбольш паслядоўных прадаўжальнікаў традыцый рускай класічнай музыкі. У Пецярбургу пачынаецца перыяд актыўнай творчай дзейнасці маладога кампазітара. Адзін за адным з-пад яго пяра выходзяць творы розных жанраў. Самым значным з іх сталася 1-ая сімфонія, прысвечаная памяці П. Чайкоўскага. Залатароў робіцца вядомым.

Але жыццё складваецца так, што ў 1905 г. ён пакідае Пецярбург. Да 1932 г. вёў класы кампазіцыі ў кансерваторыях і музычных тэхнікумах Масквы, Растова-на-Доне, Краснадара, Адэсы, Кіева, Свярдлоўска. У Адэсе ў 1924 г. стварыў сваю першую оперу — "Дзекабрысты" (лібрэта В. Ясіноўскага), якая з поспехам ішла на сцэнах Вялікага (у Маскве) і Сярдлоўскага оперных тэатраў. 8 верасня 1925 г. А. Луначарскі пісаў пра "Дзекабрыстаў" у "Московских известиях": "Я меў задавальненне пазнаёміцца з новай операй Залатарова ў чарнавым выкананні. Ёсць некаторыя недахопы. У музыцы трапляюцца ўхілы ў сентыментальнасць, але за ўсім гэтым новая опера ўяўляе сабой сур'ёзны музычны твор, глыбока прадуманы і хвалюючы, нягледзячы на выкананне яго на раялі і выпадковымі спевакамі. Я ўпэўнены, што "Дзекабрысты" будуць мець вялікі поспех". Працуючы ў Кіеве, Залатароў спрычыніўся да багатага ўкраінскага музычнага фальклору, на аснове якога напісаў аднаактовую оперу "Хвеська Андыбер" (лібрэта М. Рыльскага), "Шаўчэнкаўскую сюіту" і шмат іншых твораў. Тут ён завяршыў сваю вялікую навуковую працу "Фуга". З энтузіязмам вывучаў музычную творчасць узбекскага, таджыкскага, туркменскага, малдаўскага народаў.

У 1932 г. у Мінску адкрылася Беларуская дзяржаўная кансерваторыя. Прафесар Залатароў, па выніках конкурсу, з 1933 г. становіцца тут загадчыкам тэарэтыка-кампазітарскай кафедры. Кансерваторцам запомніўся "чалавек невысокага росту, сціплы, з заўсёды дапытлівым паглядам жывых вачэй". Тады Васіль Андрэевіч яшчэ не ведаў, што шчырым сэрцам палюбіць

**Фёдар АКІМЕНКА** *(з артыкула "Васіль Андрэевіч Залатароў", газ. "Руская музыка"):*

**Сярод сучасных кампазітараў, якія актыўна і таленавіта працуюць апошняе дзесяцігоддзе, якія беражліва захоўваюць запаветы старой школы з яе строгай музычнай дысцыплінай (пад гэтым я маю на ўвазе не толькі заходніх майстроў, але і рускіх — Глінку, Чайкоўскага, Рымскага-Корсакава, Барадзіна, Балакірава, а таксама і сёння жывых — А. К. Глазунова, С. М. Ляпунова і С. І. Танеева), асабліва вылучаецца В. А. Залатароў.**

**...І як не цаніць мастакоў, да іх належыць і В. Залатароў, якія, карыстаючыся сціплым матэрыялам, ствараюць з яго больш, чым можна было чакаць. Яны не імкнуцца да знешняга эфекту і штучнага арыгінальнічання. ...Сіла таленту Залатарова і заключаецца ў рэдкай па майстэрстве апрацоўцы самага сціплага і простага, але патрэбнага матэрыялу, які робіцца яшчэ больш каштоўным і дасканалым, калі на яго звяртае ўвагу вялікі мастак...**

***1913 г.***







таленавіты беларускі народ, яго музыку, што гэта любоў застанецца ў ім на ўсё жыццё.

А знаёмства Залатарова з Беларуссю адбылося яшчэ ў 1898 годзе, калі ён разам з групай музыкантаў наведваў Гомельшчыну ў якасці скрыпача-канцэртанта. У 1901 г. Залатароў некаторы час жыў у маёнтку ля возера Лосвіда на Віцебшчыне, цікавіўся жыццём насельніцтва, рабіў запісы музычнага фальклору, якія выкарыстаў потым у сваёй кампазітарскай творчасці. Тагачасныя ўражанні, відаць, наклалі яркі адбітак і на яго далейшае жыццё. Менавіта ў Мінску ён піша найбольш значныя музычныя

**Уладзімір АЛОЎНІКАЎ:**
**Яго пісьмы, якія я атрымаў на фронце, падбадзёрвалі і надавалі сілы. Зацікаўлены ў маім творчым лёсе, Васіль Андрэевіч прыклаў нямала намаганняў, каб пасля вайны вярнуць мяне да творчай працы. Ён аддаў нам, сваім беларускім вучням, свае веды, частку свайго жыцця, за што нізкі паклон яму і падзяка...**
*1958 г.*

творы і закладае асновы беларускай нацыянальнай кампазітарскай школы. Бескампрамісны, нязменна ветлівы, добразычлівы, крыштальна чысты Залатароў выхаваў цэлае пакаленне кампазітараў і музыказнаўцаў, сярод якіх Л. Абеліёвіч, У. Алоўнікаў, А. Багатыроў, М. Вайнберг, І. Жыновіч, М. Крошнер, Д. Лукас, І. Нісневіч, С. Нісневіч, П. Падкавыраў, А. Папоў, В. Яфімаў. Дарэчы, Крошнер, Падкавыраў і Папоў пачыналі вучобу ў Залатарова яшчэ ў Свярдлоўскім музычным тэхнікуме, а потым паехалі за сваім любімым настаўнікам у Мінск.

Музычныя старонкі, створаныя Залатаровым у Беларусі, вызначаюцца сапраўдным майстэрствам, выключнай разнастайнасцю тэматыкі, формы і зместу. Гэта буйныя сімфоніі "Чэлюскінцы" і "Беларусь" (прысвечаная 15-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецкай акупацыі ў 1918 г.), "Беларуская танцавальная сюіта", шматлікія хоры, рамансы, песні на вершы беларускіх паэтаў, апрацоўкі вялікай колькасці беларускіх народных песень.

У 1937 г. прафесар ідзе на пенсію і жыве ў Маскве, але працягвае працаваць у Беларускай кансерваторыі, час ад часу наязджаючы ў Мінск. Апошняя група яго студэнтаў скончыла вучобу якраз перад пачаткам Вялікай Айчыннай вайны...

У гады вайны Залатароў шмат працуе. Нараджаюцца яго буйныя творы: сімфоніі "1941 год" і "Мая Радзіма", "Уверцюра-фантазія" і "Святочная уверцюра" (абедзве на беларускія народныя тэмы). У 1947-м ён стварае кантату "Слава" на вершы А. Астрэйкі, а 1 студзеня 1949 г., у дзень 30-годдзя БССР, на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета рэспублікі адбываецца прэм'ера балета В. Залатарова "Князь-возера" (лібрэта В. Вайнанена і М. Смірнова паводле сцэнарыя М. Клімковіча), створанага па матывах народных легенд. Яго фальклорная сюжэтная аснова арганічна спалучаецца з апрацоўкай багатай народнай музыкі, беларускіх песень і танцаў. У музыцы балета глыбока і арганічна ўвасоблены традыцыі класічнага рускага сімфанізму і характэрныя рысы беларускай народнай песеннасці, што пазней так або інакш выявілася і ў балетнай творчасці Г. Вагнера і Я. Глебава. "Князь-возера" становіцца значнай з'явай у музычна-тэатральным жыцці Мінска. У 1950 г. В. Залатароў і ўдзельнікі пастаноўкі былі адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР. Пазней балет аднаўляецца на сцэне нашага Вялікага тэатра пад назвамі "Аповесць пра каханне" (1953) і "Палымяныя сэрцы" (1955).

Васіль Андрэевіч выступаў супраць гвалтоўна ўнесеных змен у балет. Праз друк, грамадскую думку, адпаведныя кіруючыя органы ён дабіўся пазбаўлення свайго твора ад неўразумелых "навацый". З сумам і характэрным для яго гумарам Залатароў казаў, што "Палымяныя сэрцы" спалілі яму душу, а "Аповесць пра каханне" распавяла ўсім пра нелюбоў да аўтара музыкі. Ён лічыў першую пастаноўку лепшай: "Наш балет у сваёй першапачатковай рэдакцыі мог бы зрабіцца сапраўдным упрыгажэннем як беларускага, так і іншых тэатраў нашай вялікай Радзімы".

У 1949 г. музычная грамадскасць Беларусі адзначыла 50-годдзе творчай і педагагічнай дзейнасці Васіля Залатарова. Яму надалі ганаровае званне народнага артыста рэспублікі.

Рэдкасная творчая актыўнасць не пакідала Васіля Андрэевіча і ў 90 гадоў, калі ён, стары ўжо, хворы чалавек, з выключнай адданасцю выконваў свае абавязкі ў кіруючых органах Саюза кампазітараў СССР і пісаў новыя старонкі партытур. Да яго 90-годдзя ў Вялікай зале Маскоўскай кансерваторыі Саюзы кампазітараў СССР і РСФСР, Усесаюзнае тэлебачанне і радыё, Маскоўская дзяржаўная філармонія наладзілі вялікі юбілейны вечар-канцэрт.

Для ўшанавання юбіляра ў Маскву прыехалі дэлегацыі з Украіны, Урала, Ленінграда, Беларусі. Было сказана многа цёплых слоў і прыслана вялікая колькасць тэлеграм. У 92 гады, калі жыць яму заставалася некалькі месяцаў, Васіль Андрэевіч працягваў пісаць музыку і марыў пра новы твор на беларускую тэму.

У адным з апошніх лістоў да Сімы Герасімаўны Нісневіч Залатароў падводзіў вынікі свайго творчага жыцця: "Мудрасць і прадбачлівасць парад маіх настаўнікаў я ацаніў у поўнай меры значна пазней, у глыбокай старасці. Мы часта схільныя недаацэньваць у саміх сабе тое, што нам лёгка, без усялякіх намаганняў даецца. У пошуках "свайго месца" ў музыцы я не заўважыў, што гэта месца пры мне і далёка хадзіць не трэба: неабходна толькі беражліва і настойліва прытрымлівацца ўжо знойдзенага. І хоць тое, чаго я так лёгка дабіўся, назаўсёды пры мне і застанецца, я ў дарэмных пошуках новых берагоў ставіўся нядбайна да свайго асабістага шляху, адхіляючыся то ў адзін, то ў другі бок. У апошні час, далучыўшыся да народнай музыкі Беларусі, Украіны, Малдовы, Таджыкістана, Узбекістана і Туркменіі, я зразумеў, што значна ўзбагаціў сваю тэхніку, паглыбіў і пашырыў сваю мову і пры гэтым магу з чыстым

**Анатоль БАГАТЫРОЎ:**
**Залатароў быў нецярпімы да любой праявы штучнасці, знарочыстасці. Ён гаварыў: "Пішыце шчыра, пішыце гэтак, як адчуваеце, а не надумвайце музыку". Падрабязна абгрунтоўваючы свой погляд на мастацтва, ён не навязваў яго вучням, а стараўся абудзіць і правільна сфарміраваць іх уласныя адносіны да жыцця і да творчасці, што з'яўляецца самай цяжкай задачай педагога.**
*1950-я гг.*

сумленнем сказаць, што заўсёды захоўваў і цяпер свята захоўваю запаветы сваіх вялікіх настаўнікаў. Кожны новы свой твор пішу з думкай: "А што сказаў бы Мілій Аляксеевіч (Балакіраў)? А як паглядзеў бы на гэта Мікалай Андрэевіч (Рымскі-Корсакаў)?!"

●

Увазе чытача прапануюцца раней не друкаваныя матэрыялы, якія характарызуюць Васіля Залатарова як выдатнага кампазітара, педагога і чалавека. Гэта вытрымкі з артыкула кампазітара, былога аднакурсніка па Пецярбургскай кансерваторыі Ф. Акіменкі і ўспамінаў знаных вучняў: У. Алоўнікава, А. Багатырова.

**Наталля САКАЛОЎСКАЯ**

*На здымках: В. ЗАЛАТАРОЎ, 1907 г.; з вучнямі Уральскага музтэхнікума А. Паповым, П. Падкавыравым, К. Машыхіным, Б. Гібаліным, М. Крошнерам. 1931 г.; сярод выпускнікоў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі: стаяць М. Крошнер, С. Зорын, сядзяць П. Падкавыраў, А. Багатыроў, В. Залатароў, А. Папоў, В. Яфімаў. 1937 г.*
*Фота з БДАМЛіМ*

ПРЭМ'ЕРЫ

# У лесе металічных труб

***"Пух-мядзведзь", — так называецца новы спектакль у Дзяржаўным тэатры лялек. Не "Віні-Пух і ўсе-ўсе-ўсе", як назваў кнігу вядомага англійскага пісьменніка Алена Мілна не менш знакаміты рускі пісьменнік і перакладчык Барыс Захадэр. Адразу можна здагадацца, што "Пух-мядзведзь" — не звычайнае, ва ўсялякім разе, не літаральнае прачытанне класічнага дзіцячага твора. Галоўны рэжысёр тэатра Аляксей ЛЯЛЯЎСКІ па-новаму зірнуў на вядомую кожнаму дзіцяці гісторыю.***

Спектакль Тэатра лялек робіць свой крок у бок арыгінальнага прачытання казкі. Па структуры твор Мілна — гэта сага. Падзеі тут развіваюцца не столькі камічна, колькі меладраматычна. Паступова, павольна раскрываюцца характары персанажаў. Тут змяняюцца поры года, ідуць дажджы і снег, дзьмуць халодныя вятры. Але сярод даволі суровых, ці, лепш сказаць, натуральных умоў пражывання зверанят у казачным лесе, паміж імі пануюць самыя цёплыя, кранальныя ўзаемаадносіны. І гэтую думку якраз і мусіць давесці рэжысёр-пастаноўшчык новага спектакля.

Казачны лёс на сцэне ўвасоблены ў выглядзе перапляцення бліскучых водаправодных труб. Гэта сімвалічна ілюструе "прыроду" XXI стагоддзя, дзе натуральная, жывая частка наваколля асяроддзя заменена штучнай. Ідэя віртуальнага свету настолькі глыбока ўвайшла ў розум сучаснага чалавека, што сённяшняму дзіцяці, бадай, немагчыма растлумачыць, чым натуральны свет лепшы за адлюстраваны на дысплеі. Там, "у камп'ютэры", жыццё выглядае больш цікавым, дынамічным, яскравым.

Сярод водаправодных труб (мастак-пастаноўшчык А. Вахрамееў) месцяцца "хаткі" персанажаў. На ніжнім "паверсе" жыве поўная таямнічай чароўнасці рыба. Віні-Пух (у спектаклі яго завуць проста Пух) займае сярэдні ярус. Злева ад яго, побач з махавіком і манометрам — нара Труса. З правага боку, на павароце бліскучага "ўдава" — цікае балацянка Іа.

То снег, то дождж — звычайнае надвор'е ў сюррэалістычным, "тэхнагенным" лесе. Дыктар мясцовага радыё своеасаблівы чалавек-аркестр, у арсенале якога — барабан, мядзяная талерка, "капяжы" з водаправоднага крана, бурленне вады ў пластыкавай бутэльцы, — чытае зводку надвор'я. Пад "музыку" дыктара вядомыя казачныя героі, якія апынуліся ў віртуальным, і, лепш сказаць, пазавіртуальным свеце, вандруюць сярод труб, заходзяць адзін да аднаго ў госці.

Вось Пух, які, магчыма, ад ляноты не любіць гатаваць, нахабна нажэрся ў гасціх у Труса. Гаспадар нары называе яго "заразай", калі таму, нарэшце, шчасціць выкараскацца на волю. А калі Пух падымаецца на шарыку ў неба, каб сунуць лапу ў пчаліны вулей, адтуль з'яўляюцца таямнічыя жоўтыя чарвячкі без крылаў — "мутанты". Аднекуль з чорнай далечы прылятае чырвоны Сыч, падобны на арангутанга — разумнейшая, адукаванейшая асоба, якая не ведае правілаў арфаграфіі. А навошта сёння, дазвольце запытаць, вывучаць арфаграфію, калі ёе і так цудоўна ведае камп'ютэр?

Такімі дзіўнымі, таямнічымі вобразамі напоўнены спектакль. Рэжысёр не толькі робіць крок у бок аўтэнтычнага прачытання казкі Мілна, але і "памнажае" метаропкі ход англійскага сюжэта на свой светапогляд. Акцёры, — У. Грамовіч, А. Васько, А. Казакоў, А. Паўлікаў, А. Янушкевіч, — хаваюцца за трубамі, як за шырмай. Свой першы выхад на сцэну яны робяць праз службовыя дзверы глядзельнай залы. Перад гледачамі — водаправодчыкі, манцёры ў чорных касцюмах, з чамаданчыкамі ў руках. Манцёры прыйшлі, каб падрамантаваць, падправіць віртуальны, сюррэалістычны свет. Але ім прыходзіць у галаву... "адрамантаваць" яго з дапамогай вясёлых і добрых казачных герояў. Водаправодчыкі-артысты напаўняюць перапляценне бліскучых, пазбаўленых жыцця металічных канструкцый атмасферай гульні, бескланотнага дзяцінства, гумарам.

Няўклюдны, неповаротлівы, але вельмі выразны ў жэстах Пух апякуе шустрага і блазнаватага Пятачка. Заўсёды нервовы, насцярожаны і таму рэзкі на словы Трус таксама не можа не цаніць сяброўства з Пухам, бо мядзведзь нікога не баіцца і побач з ім можна адчуваць сябе ў бяспецы. А як удзячны Іа сваім сябрам, якія такому непрывабнаму і заўсёды засмучонаму асліку наладзілі сапраўдны дзень нараджэння!..

Пазабаўляўшыся з цацкамі сярод водаправодных труб, манцёры з чорнымі чамаданчыкамі выходзяць. Яны падрамантавалі, падправілі гэты безжыццёвы віртуальны свет, дзе пасля дзіцячай гульні стала крыху ўтульней і цяплей. Тут пабывала добрая казка...

**Андрэй АХМЕТШЫН**

# Калі Крысалоў зыходзіць...

На добрай традыцыі, Брэсцкі тэатр лялек завяршыў свой сезон прэм'ерай. На гэты раз — спектаклем "Крысалоў" паводле старажытнай нямецкай легенды і паэмы Марыны Цвятаевай. Як вызначыў жанр пастаноўкі аўтар як драматургічнай асновы і рэжысёр Алег Жугжда, гэта "Жорсткая нямецкая легенда з турыстычнага пуцевадзіцеля рускай паэтэсы".

...Гэтую старую легенду ў розныя часіны кожнае пакаленне прачытвала па-рознаму. Свой погляд на ўжо традыцыйны сюжэт імкнуліся данесці да гледача і стваральнікі спектакля. У асацыяцыях і алегорыях яны спрабуюць выказаць думку: кожны ў адказе за свае словы, і абяцанае павінна выконвацца. Наскрозь паэтычны і сумбурна-ўзнёслы свет М. Цвятаевай узмацняе і дапаўняе схаваную іронію і халодную моц загадкавай нямецкай легенды. Разам з рэжысёрам А. Жугждам над спектаклем працавалі мастак-пастаноўшчык Валеры Рачкоўскі, кампазітар Анатоль Багданаў (таксама іграе Крысалова), акцёры Тамара Тэвасян, Лідзія Вочанка, Святлана Шутак.

**І. Х.**



*На здымку: актрыса тэатра Тамара Тэвасян у дзень свайго бенефісу ў спектаклі "Крысалоў".*

## *Востраў прыгажосці*

**Нядаўна ў выдавецтве "Тэхнапрынт" пабачыў свет новы зборнік прозы Марыі Вайцяшонак "Сад нявіннасці". У кнігу ўвайшлі апавяданні апошніх гадоў, многія з якіх друкаваліся ў "ЛіМе", выклікаючы ўдзячную чытацкую ўвагу.**




**Прозе Марыі Вайцяшонак уласцівы непаўторны стыль, дзякуючы чаму твор пісьменніцы заўсёды можна "ідэнтыфікаваць". Вобразная насычанасць, багатая мова; складаная і адначасова вытанчаная пабудова сказаў пакідаюць уражанне шматколернасці, глыбіні тэкставай прасторы.**

**Творчасць Марыі Вайцяшонак фармальна можна аднесці да жанру "вясковай прозы". Сапраўды, дзеянне абсалютнай большасці твораў адбываецца ў вёсцы. Але творчасць пісьменніцы выходзіць за апісальна-пейзажныя рамкі; гэта хутчэй апісанне тых працэсаў, якія адбываюцца ў чалавечае душы, у глыбіні калектыўнай свядомасці. Свет сучаснай вёскі адлюстроўвае і нават канцэнтруе ў сабе ўсе глабальныя праблемы нашага грамадства і цывілізацыі ўвогуле. Пісьменніца пільна ўглядаецца ў кожную з'яву быцця. Свет, які паўстае на старонках яе кнігі, складаны і прыгожы, трагічны і велічны. У ім усё ўзаемазвязана — чалавек, дрэва, кветка, птушка, звер, камень. Чалавек мусіць углядацца ў тое, што вакол яго, і бачыць гэтыя патаемныя сувязі, і намагацца жыць у гармоніі з усім і ўсімі. Менавіта гэтую гармонію існавання людзей і прыроды пісьменніца бачыць у колішнім вясковым укладзе жыцця. І ёй вельмі балюча, што тая вёска адыходзіць, што ў сённяшняй вёсцы страчваецца здольнасць чалавека разумець і ствараць прыгажосць. Зніклі колішнія гародчыкі, у якіх буялі кветкі, перасталі ткацца вясёлкавыя посцілкі і ручнікі. Нават тое, што засталося ад дзядоў і бабуль, вырабы іх умелых рук, уважаюцца за рыззё і ламачча. Вёска, скалечаная калгасным ладам, працягвае знясільваючую працу, але маладое пакаленне ўжо адвучанае ад зямлі...**

**На старонках "Сада нявіннасці" адбываецца цікавае сутыкненне свету вытанчанай, інтэлектуальнай гераіні-апавядальніка і свету "простых", неабазнаных у здабытках цывілізацыі людзей. Але гэтае сутыкненне адначасова і ўзаемапранікненне — дзякуючы здольнасці гераіні бачыць у кожным вяскоўцы душэўнае багацце і вытанчанасць, якіх часта бракуе адукаваным гараджанам. Пісьменніца суперажывае кожнаму, кожнага спрабуе зразумець... Але адначасова яе дзейсная натура патрабуе ўмяшальніцтва. Аўтар-гераіня не проста дапамагае тым, хто звяртаецца да яе па побытавую дапамогу. Яна спрабуе растлумачыць сапраўдныя каштоўнасці жыцця, спрабуе вярнуць людзей да прыгажосці, чым нагадвае герояў Максіма Гарэцкага. Пры гэтым Марыя Вайцяшонак ставіцца да кожнага са сваіх герояў з вялікай павагай.**

**Кожнае апавяданне закранае балючыя праблемы: каханне і здрада, адзінота, эпідэмія п'янства, так званы "бізнес", перад якім бяссільны звыклы ўклад сялянскага жыцця.**

**Кніга аздобленая мастацкімі фотаздымкамі самой Марыі Вайцяшонак. На іх паўстае непаўторна прыгожы свет Дома і Саду, створаны рукамі самой пісьменніцы. Гэты востраў прыгажосці знаходзіцца ў той самай вёсцы, якую апісвае аўтар, што яшчэ больш стварае адчуванне непадробнасці, шчырасці аповеду.**

**Размова крытыкаў пра прозу Марыі Вайцяшонак яшчэ наперадзе. І размова гэтая мусіць атрымацца цікавай і грунтоўнай.**

**Н. К.**

# Найперш захаваць скарбы

***24 ліпеня беларускаму фалькларысту, доктару філалагічных навук, прафесару, загадчыку аддзела славістыкі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, аўтару шматлікіх навуковых прац у галіне традыцыйнай духоўнай культуры Канстанціну КАБАШНІКАВУ споўнілася 75 гадоў.***

**— Канстанцін Паўлавіч, амаль паўстагоддзя Вы даследуеце фальклор. З чаго ўсё пачыналася?**

— Карэнны гамяльчанін, аднойчы я пацікавіўся сваім радаводам, які сягае тых часоў, калі Гомелем валодалі Румянцавы. Мой прадзед быў падвальным — загадчыкам гатовай прадукцыі — на бровары пана Румянцава. Дзед жа быў селянінам, меў кавалак зямлі, сенажаць, у сям'і існавалі пэўныя традыцыі. Я памятаю, як клікалі мароз на куццю, як дзядзькі мае хадзілі са "звяздой" на Каляды — адзін з іх, дарэчы, быў вялікім майстрам выраблць гэтыя "звёзды" на шэсць ці восем рагоў. Але лёс мой канчаткова вызначыўся, калі я вучыўся ў інстытуце і мне пашанцавала слухаць лекцыі такіх сусветна вядомых фалькларыстаў, як П.Багатыроў, Ул. Чычараў, даследчыкаў літаратуры Бондзі, Рацыга, выкладчыкаў Л.Венгерава, С.Васілёнка. Мяне захапілі вытокі нашай культуры, стыхія народнай творчасці. Першая мая экспедыцыя адбылася ў 1952 годзе, ездзіў я тады ў Тураў і яго наваколле. У Акадэміі навук, дзе я пачаў працаваць у 1954 годзе, было шырокае поле дзейнасці: даводзілася займацца і даследчыцкай працай, і экспедыцыйнай, удзельнічаць у рабоце міжнародных кангрэсаў славістаў, рыхтаваць да друку зборнікі, хрэстаматыі, падручнікі, вучэбныя праграмы па фальклоры, пазней выкладаць. У 1963 годзе выдаў першы падручнік "Нарысы па беларускаму фальклору". Пазней выйшлі "Беларускі фальклор у параўнальным асвятленні", "Беларуска-рускія фальклорныя сувязі", "Малыя жанры беларускага фальклору ў славянскім кантэксце", шэраг прац у Празе, Братыславе, Кракаве, Кіеве. Намаганнямі супрацоўнікаў аддзела славістыкі, які калісь пачынаўся з фоналабараторыі і дзе працавалі чатырнаццаць чалавек, а зараз працуюць шэсць, мы выпусцілі манаграфіі "Узроўні агульнасці фальклору ўсходніх славян", "Беларуская народная паэзія веснавога цыклу і славянская фальклорная традыцыя" і іншыя. Калі гаварыць пра навуковыя накірункі маёй дзейнасці, дык было прынята больш вывучаць сялянскі фальклор. Творчасць рабочых, хаця яна істотна адрознівалася і па змесце, і па форме, заставалася ўбаку. Адну з прац я прысвяціў менавіта гэтаму надзвычай цікаваму пытанню, разгледзеў шляхі развіцця нашай духоўнай спадчыны ад традыцыйнага фальклору да паэзіі, якая бытавала ў рабочым асяроддзі: там быў і фальклор, і рэвалюцыйная паэзія, і песні на вершы беларускіх, рускіх, украінскіх паэтаў. Пасля захапіла вывучэнне славянскага фальклору ў параўнальным аспекце, які дае магчымасць высветліць, што яднае славянскія народы, што кожны з гэтых народаў унёс у агульную скарбніцу славянскай культуры. Плёнам гэтай працы сталі шматлікія даследаванні, выдадзеныя сумесна з рускімі і ўкраінскімі навукоўцамі. Зараз займаюся вывучэннем беларуска-балгарскіх фальклорных стасункаў. Трэба ўмацоўваць сувязі, улічваць сусветныя тэндэнцыі да ўзбагачэння і ўзаемаўзбагачэння нацыянальных культур. Думаю, наша праца мае пэўнае дачыненне і да праблем грамадскага развіцця, усталявання ладу паміж народамі, узаемаразумення. Агульнасць нашай духоўнай культуры, узаемаўплываў нібыта навідавоку, але яна ўсё ж патрабуе навуковых распрацовак і абгрунтавання. Разам з расійскімі фалькларыстамі мы працуем над выданнем вялікай серыі "Фальклор народаў Сібіры і Далёкага Усходу", у рамках якой падрыхтавалі том "Беларускі фальклор Сібіры і Далёкага Усходу", *што сведчыць: беларусы моцна* трымаюцца сваёй культуры і традыцый, аказваюць ўздзеянне на абарыгенаў і перасяленцаў з другіх мясцін, якія пераймаюць і беларускія песні, і беларускія абрады.

**— Якія пытанні стаяць сёння перад аддзелам славістыкі, якім Вы кіруеце, і перад фалькларыстыкай наогул?**

— Вельмі хвалюе праблема захавання тых скарбаў, што мы збіралі цягам дзесяцігоддзяў. Назапашана велізарная колькасць матэрыялаў, якія склалі сорак тамоў "Беларускай народнай творчасці", якія трэба тэрмінова пераносіць на лічбавыя носьбіты. Мы ўжо некалькі гадоў намагаемся арганізаваць гэту працу, але ўсё ўпіраецца ў адсутнасць грошай. Звярталіся мы ў розныя інстанцыі, але безвынікова. Хацелася б, каб гэта справа нарэшце скранулася з месца. Думаю, становішча народнай мовы, культуры ўсіх непакоіць. Калі чуеш, што ў некаторых еўрапейскіх краінах заняткі ў школе пачынаюцца спяваннем народных песень, думаеш: "А чаму ў нас не так?" Гэта было б вельмі карысна для маладога пакалення, якому трэба ведаць хто мы, адкуль мы, вывучаць нашу спадчыну і працягваць развіццё нацыянальнай культуры, духоўнасці. Між іншым, зараз духоўнасць часам зводзіцца толькі да рэлігійнасці. Думаецца, гэта занадта прымітыўна, вузка і неперспектыўна, бо ў духоўнасць уваходзіць усё тое, што нашы продкі напрацавалі тысячагоддзямі, усе пласты і жанры народнай культуры.

**— Якія, на Ваш погляд, праблемы і пытанні фалькларыстыкі сёння найменей распрацаваныя ці нераспрацаваныя наогул?**

— Зараз мы прыступілі да выдання 5-ці тамоў "Гісторыі беларускага фальклору". Пабачыў свет першы том, прысвечаны *каляндарнай абрадавай паэзіі, якая доўгі час* была па-за ўвагай і толькі два апошніх дзесяцігоддзі мы пачалі займацца ёю, дасягнуўшы значных поспехаў у вывучэнні гэтага вельмі старажытнага і важнага пласта народнай творчасці, што вызначае нацыянальную спецыфіку і народнай творчасці, і ўсяго беларускага народа. Выйшаў таксама том, прысвечаны сямейнай абрадавай паэзіі і народнаму тэатру. Хаця, думаю, у параўнальным плане можна было б яшчэ шырэй паглядзець на народны тэатр, які меў самыя разнастайныя формы — ад батлейкі і да тэатра жывога акцёра. Недастаткова вывучана неказкавая проза: легенды, паданні, былічкі-прымхліцы. Яшчэ засяродзіў бы ўвагу і на тым, як захаваць фальклор у жывым бытаванні. Зараз ЮНЕСКА *распрацавала цэлую праграму па* падтрымцы помнікаў нематэрыяльнай культуры. Мы далі заяўку на тое, каб нам дапамаглі падтрымаць у жывым бытаванні фальклор усходняга Палесся — вельмі своеасаблівы, багаты, спецыфічны. Яшчэ нам трэба рыхтаваць культработнікаў, якія *разумелі б, што працаваць трэба на мясцовым* аўтэнтычным матэрыяле, захоўваць мясцовыя традыцыі. Жыццё патрабуе нечага новага, але новае павінна развівацца на пэўным грунце, абапірацца на традыцыі, каб, узбагачаючы сваю культуру, мы заставаліся беларусамі. Гаворка не пра тое, каб замыкацца толькі на сваім, што ніколі не прыводзіла да добрых вынікаў. Але шанаваць сваё ў першую чаргу — наш абавязак.

**— Вам не здаецца, што сёння людзей, асабліва ў вялікіх гарадах, апанаваў прагматызм і яны больш дбаюць пра зямное, чым пра духоўнае?**

— Гэта з'ява, што праяўляецца ва ўсіх сферах духоўнага жыцця, вельмі непакоіць. Спадзяванне толькі на тое, што мы ўсё ж вернемся да разумення духоўнасці як цэнтра нашага існавання, без якога ўсё астатняе — "суета сует". Зараз грамадства знаходзіцца на нейкім пераломе, шляхі свае пакуль не вызначыла дакладна. Такое становішча прымушае людзей выжываць. Вядомыя дзеячы, што зрабілі ўнёсак у развіццё беларускай, рускай, савецкай культуры апынуліся ў вельмі цяжкім становішчы: яны проста незапатрабаваныя, што вельмі балюча. Трэба думаць пра мову, пра тое, каб традыцыйная культура знайшла дарогу ў школу, у дзіцячыя садкі, каб у навучальных установах чытаўся адпаведны курс лекцый. Такія захады не дазволілі б згубіцца ўсяму таму, чым наш народ багаты, чым ён валодае.

**— Відаць, Вам давялося сустракаць багата цікавых людзей?**

— Так, цікавыя людзі сустракаліся ў *розным асяроддзі. Пелагея Чорная* з Тураўшчыны, ад якой запісваў яшчэ А.Грыневіч, — невычэрпная крыніца народнай песні і творчасці. На Тураўшчыне былі таксама надзвычай цікавыя казачнікі Верамейчык і Зямлянік, якіх я памятаю дагэтуль. У Пастаўскім раёне Пётр Рагіня, чалавек вельмі таленавіты, прысвяціў жыццё народнай культуры і народнаму мастацтву, цікавай казачніцай была Ядвіга Альфер. Не так даўно ў Жлобінскім раёне нам расказваў казкі Муравейнікаў. Мне давялося сустракацца і працаваць з рускімі фалькларыстамі В.Гусевым, Б.Пуцілавым, К.Чыстовым, многа добрых сяброў таксама сярод украінскіх, чэшскіх, славацкіх, балгарскіх, польскіх навукоўцаў.

**— Чаго Вы хацелі б пажадаць сваім вучням, якія толькі пачынаюць шлях у навуку?**

— Павагі да сваіх папярэднікаў. Хацелася б, каб яны вельмі ўважліва ставіліся да носьбітаў фальклору. З гэтага, уласна кажучы, і пачынаецца фалькларыст.

**Гутарыла**
**Марыя РУДОВІЧ**

ПОШТА

# Наш зямляк пра Далёкі Усход

У маёй хатняй бібліятэцы захоўваецца кніжка з дарункавым надпісам: "Дарагому душэўнаму земляку, энтузіясту краязнаўчай і ваенна-патрыятычнай работы Уладзіміру Раманавічу Ламінскаму на добрую памяць ад аўтара. З павагай палкоўнік у адстаўцы Іван Цурыкаў". Твор аўтара называецца "Трывожныя гады". Дарунак мною быў атрыманы падчас сустрэчы з земляком.

Гэты дакументальны аповед напісаны ўраджэнцам вёскі Чарчонаўка, што на Касцюкоўшчыне Магілёўскай вобласці.

У асабістай справе Янкі Цурыкава пазначана: "валодае роднай беларускай мовай і ніякай, апроч рускай".

Але ж, калі беларускі юнак скончыў вясковую мясцовую школу другой ступені і трапіў на вучобу ў Маскоўскі інстытут усходазнаўства, то выдатна авалодаў яшчэ і японскай мовай.

Пасля заканчэння інстытута быў накіраваны на армейскую службу на Далёкі Усход. Больш за чвэрць стагоддзя служыў спачатку ў вайсковай разведцы, потым у паліторганах Чырванасцяжнай Далёкаўсходняй акругі. Удзельнічаў у баях на Хасане і Халхін-Голе, у вайне супраць імперыялістычнай Японіі.

Пасля вайны рэдагаваў газету для японскіх ваеннапалонных і ўпарта працаваў над кнігай успамінаў "Трывожныя гады".

Гэта мастацка-дакументальны твор аб грозным дзесяцігоддзі Далёкага Усходу.

Аўтар апавядання аб баях на Хасане, Халхін-Голе піша пра планы штаба Квантунскай арміі і яе разгром у 1945 годзе.

У кнізе адлюстроўваецца штодзённая вельмі складаная работа разведчыкаў, пагранічнікаў па выяўленні чужаземных шпіёнаў, папярэджанні іх дыверсій і г.д.

Многія героі кнігі — рэальныя людзі, у аснове апавяданняў — сапраўдныя факты.

Падзеі тых трывожных гадоў аўтар паказвае праз прызму асабістага ўдзелу ў іх.

Мастацка-дакументальнае апавяданне беларуса, нашага земляка "Трывожныя гады" ўдалося аўтару. Яго з цікавасцю чытаюць не толькі на Далёкім Усходзе, але і на радзіме пісьменніка.

Кніга двойчы перавыдавалася ў дзяржаўным выдавецтве горада Хабараўска.

*Уладзімір ЛАМІНСКІ*

*НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

# Народны голас не схлусіць

## ПРА КНІГУ ТАІСЫ БОНДАР "ІМЕМ АЙЦА І СЫНА..."

Мы людзі сціплыя. І не таму, што сарамлівыя ад недахопу культуры, а таму, што ведаем: хто пра сябе зашмат кудахтае, пазбаўляецца мудрасці.

Каб разабрацца ў навейшай літаратуры, неабходна засвоіць новы погляд на гісторыю яе развіцця за апошнія 25 гадоў. Інакш кажучы, адкінуць фальшывыя схемы, якія ўкараняліся і ўкараняюцца ў свядомасць грамадства.

Апошнія дзесяцігоддзі перад развалам у СССР, адначасова з працэсамі выраджэння, духоўнае галечы і раздробленасці кіруючай вярхушкі, спрашчэннем ідэі дзяржаўнага развіцця ў накірунку адміністратыўнага камфорту і дыверсіфікацыі матэрыяльнага спажывання, ішоў усё больш хуткі працэс паглынання жыватворнага ядра савецкай культуры — савецкага рэалізму: на змену ішоў "мадэрн", закамуфляваны пад сацрэалізм, а на справе ўяўляючы сабою яго актыўнае адвяржэнне, поўнае двухсэнсоўнасці, ёрніцтва, іроніі і пошласці.

Асноўная плынь савецкай мастацкай літаратуры, кантралюемай патаемнымі да часу дысідэнтамі, была пародыяй на рэалізм увогуле, гэта былі псеўдапафасныя "варыяцыі" на самыя хадавыя тэмы.

Не заглыбляючыся ў дэталёвы аналіз такога фактычнага становішча, я рашуча сцвярджаю і гатоў гэта даказаць, што практычна ўсе "нашумелыя" творы тых часоў (сярод іх і "Доктар Жывага" Л. Пастэрнака, і "Дзеці Арбата" А. Рыбакова, і "У жніўні 44-га" В. Багамолава, і ўвесь Я. Еўтушэнка, і ўвесь А. Вазнясенскі і яшчэ шмат, шмат хто) — гэта адно псеўдаліберальная фронда, палітычная дэмагогія, што кінула выклік асновам існавання сацыяльна–эканамічнай сістэмы, — дысідэнты больш за ўсё ненавідзелі яе за агульнанародны характар, за роўнасць (на жаль, адносную) у праве на адукацыю, медыцынскую дапамогу і доступ да ўлады...

Нават і салжаніцынскія "надзённыя" рэчы былі ўсяго толькі часткаю гэтага прымітыўнага дэмагагічнага пісьменства, таму што не раскрывалі прычыны народных пакутаў і безвыходнасці, зводзілі агульную трагедыю да асобных лёсаў няшчасных, не высвятляючы, чаму аказалася магчымаю ў краіне гэта сталінская гільяціна, што губіла з першых жа дзён "рэвалюцыі" найперш эліту расійскага грамадства.

Я не засяроджваю ўвагу на гэтым, таму што сённяшні А. Салжаніцын, здаецца, пачынае паступова называць рэчы сваімі імёнамі, прыходзячы ў жах, услед за А. Зіноўевым, ад сваёй былой блізарукасці і неразумення гібельнасці ўсяго механізму антынацыянальнай "рускай рэвалюцыі", — гэты механізм захоўвае сваю зламысную сутнасць па сённяшні дзень.

Белетрызацыі і пошламу схематызму светаразумення інтуітыўна супрацьстаялі "деревенщики". Гэтая плеяда празаікаў стварыла ў літаратуры магутную і жывую плынь, але, захапіўшыся маўклівай спрэчкай са сваімі апанентамі, яны не здолелі ва ўсёй шырыні і своечасова паставіць перад грамадствам сапраўды жыватрапяткія праблемы захавання народных заваёў. Смелыя прарывы ў сутнасць гістарычнага працэсу, якія ажыццявілі В. Бялоў, В. Распуцін і іншыя, фактычна не атрымалі афіцыйнай падтрымкі, так што грамадства да пачатку масавага абалваньвання ў часе "перабудовы" прыйшло абсалютна непадрыхтаваным да адпору дысідэнцкаму скажэнню мінулага і сучаснага савецкіх народаў. Інтэрнацыяналізм з'явіўся на самой справе цяжкой дубінай грамадскага астракізму і цэнзуры, ён на корані губіў сур'ёзную пастаноўку пытанняў аб дружбе народаў і змесце этнічных адносін у СССР, аб сапраўднай ролі дысідэнцтва і сэнсе "дэсталінізацыі", аб падпольным, "ценевым" капітале і "модзе" на адрачэнне ад традыцыйных расійскіх ідэалаў.

Сотні пісьменнікаў у гэтых умовах міжволі звярталіся да гісторыі, фантастыкі і чаго заўгодна, таму што Агітпроп, рулямі якога даўно ўжо завалодалі адступнікі і перараджэнцы, пільна выполваў менавіта класічныя традыцыі ў савецкай літаратуры, наносіў удары па патрыятычных пісьменніках, — з правакацыйнымі мэтамі на іх вешалі ярлыкі "антыпартыйцаў" і "антысемітаў".

Аналагічныя працэсы адбываліся і ў Беларусі, хоць партызанскі рэалізм беларускага кіраўніцтва ўсё ж часам браў верх і ўзрываў агульны панылы кантэкст пакорнага мультыплікавання "фікцый", інакш кажучы, штучнай, высмактанай з пальца "літаратуры", нашпігаванай крыклівымі марыянеткамі, што выконвалі волю заходніх лялькаводаў: ні пра які прарыў да сутнасцяў, што выкрывалі б сапраўдныя гнайнікі грамадства, якое на вачах перараджалася, і гаворкі не магло быць.

Менавіта ў Беларусі з'явіўся знакаміты кочатаўскі раман "Чаго ж ты хочаш?". Менавіта ў Беларусі з'явіліся і іншыя кнігі, у якіх рэчы называліся сваімі імёнамі так, як не маглі б быць названы ў наводненай духоўнымі і сацыяльнымі мутантамі Маскве.

Да гонару беларускай літаратуры ў ёй знайшліся мастакі, якія адстойвалі гонар савецкай класікі, не пагналіся за "модай", ва ўсякім выпадку, сумелі супрацьстаяць агульнай плыні.

Адна з іх — Таіса Бондар, якая развіла свой багаты духоўны патэнцыял, нягледзячы на страшэнны націск канфармістаў.

Перада мной невялікая, але незвычайна насычаная аповесць "Імем Айца і Сына..." Сюжэт яе просты: сапраўдны майстра ўмее будаваць на звычайным жыццёвым матэрыяле.

Мы бачым пажылую вясковую жанчыну Параскеву ў апусцелай пасля чарнобыльскай катастрофы вёсцы. Слабымі сіламі сваімі імкнецца яна супрацьстаяць смерці сарака двароў тым, што пратоптвае ад хаты да хаты зарослыя сцежкі ды варочае капаніцаю грады на сваім агародзе.

Аповесць уяўляе сабой своеасаблівы пратэстны выклік псеўдалітаратуры, што выкарыстоўвае фармальныя тэхнічныя сродкі для пастаноўкі надуманых, далёкіх ад рэчаіснасці пытанняў. У Т. Бондар не сустрэнеш ні аперэтачных бюракратаў, ні зэкаў з іх падвёрстанымі пад дысідэнцкія задачы ацэнкамі, ні прымітыўных "сталіністаў", што з шызафрэнічнай упартасцю звальваюць свае чалавечыя слабасці і хібы на "бацьку народаў", ні атрутнага "гумару для саўкоў", ні амбіцыёзных пазёраў-герояў "адлігаў" з іх няўцямнымі, але яўна тленнымі пахамі.

А што ж ёсць? Ёсць аслаблая, дабітая нягодамі старая, якая пакорна і непрыкметна выконвае апошнія запаведзі перад нябачным парогам у вечнасць.

Ніякіх вымудраў, ніякай "мудрагелістай" філасофіі, што, як ліпкая павуціна, мкнецца злавіць аслаблую душу.

Простая жанчына, для якой час заўсёды вымяраўся працоўнымі клопатамі, якая страціла і любага, прыйшоўшага жывым з фронту, і дарослага ўжо сына, жыве абавязкам Памяці, абавязкам Сумлення — так, як і жывуць мільёны рэальных людзей.

Беларуская сялянка, што ніколі, напэўна, не чула пра падзвіжнікаў Старажытнай Грэцыі, ясна разумее, як не разумеюць гэтага тысячы яе "прасунутых" грамадзян: не смерці трэба баяцца, а страты годнасці, вымяраючы ўсё вечнасцю, а не нішчымнымі формуламі "тут і цяпер".

У сваім уяўленні старая Параскева ўсюды знаходзіць гэту расплату за трусасць і глухату да зрухаў сумлення: "На сто гадоў наперад можна мерцвякоў падлічваць. І сярод іх — усё больш маладыя і прыгожыя, усё больш дзеткі, народжаныя і ненароджаныя".

Хіба гэта не сённяшняя рэальнасць ва ўсіх частках раздробленай некалі вялікай дзяржавы? Больш таго — усяго свету, які корчыцца ў навязаных яму зменах. Не ўвасабленне мары, а "выжыванне", не самарэалізацыя асобы, а "рабочыя месцы", не свабода слова, а тэрор у дачыненні да тых, хто думае іначай, праз галечу і поўнае бяспраўе, — вось як нізка ўпалі сённяшнія крытэрыі....

Разуменне прычын крушэння чалавечых лёсаў у Параскевы простае і трывалае: "Выракліся людзі — перш Бога, потым памяці, мовы сваёй, вось і выраклася, выракаецца іх зямля", — прыходзіць да высновы жанчына. І тут не толькі Чарнобыль, тут уся канва жыцця з яго "перабудоваю", уцёкамі спалоханага начальства ад мінулага і раўнадушшам да цяперашняга і будучага з боку "іншага люду"...

І як глыбока прадбачыць гэта народная душа, за дзесяцігоддзе да нашага агульнага празарэння вынесшы свой прысуд: "У новай рэальнасці не будзе месца чалавеку..."

Але яна не прымае штучнасці, не хоча жыць іначай, чым жылі яе продкі, таму што пераканана: якія б сёння сірэны ні пелі, а сапраўднае разуменне жыцця — у былых настаўнікаў, тых, што завяршылі ўжо свой шлях.

Аднаўляе Параскева сцежкі ад хаты да хаты. Мёртвыя, пустыя хаты, а яна — сцежкі пратоптвае... Але калі ёсць сцежкі, ажывуць і хаты, — вось дыялектыка, да якой ніколі не дапнуць сённяшнія таўсташчокія "бакалаўры" і "магістры", якія навязваюць сябе ў якасці новых "інжынераў чалавечых душ"...

"Працяг смертнага ў несмяротным".

Але хіба так разварочвалася наша жыццё? Хіба прымітыўны, зладзейскі паўсюдна "рынак" ахапіў і выявіў гэту несмяротную сутнасць? Хіба аб'яўленне кожнага нязгоднага "тэрарыстам", што па-зладзейску робіць на нашых вачах глабалізм, не ёсць выклік усяму святому?

Невыпадкова так дэталёва выпісаны эпізод, калі Параскева заўважае ў гушчары марадзёраў, што збягаюць з мяхамі крадзенага дабра за спіною ад зграі здзічэлых сабак: "Што ж гэта з людзьмі на белым свеце адбываецца?"

Знялі ікону — і згубілі тут жа: непад'ёмныя для злодзеяў скарбы чалавечага духу, — вось адзін з сімвалічных штрыхоў высокага мастацкага майстэрства Таісы Бондар.

Канешне, нічога не "закручвала" яна спецыяльна, нічога не разлічвала, як "закручваў" і разлічваў у сваіх творах, да прыкладу, А. Рыбакоў, — яшчэ ўвесну 1960 года расказваў ён у савецкім пасольстве ў Берне пры мне пра тое, як ён піша кнігі,— вычэрчвае схемы адносінаў, раскладваючы іх на падлозе буйнагабарытнай пісьменніцкай кватэры, і кожная дэталька прадумана, падвярстана да агульнавядомых "формул майстэрства", а персанажы — у картатэцы: Маша, "мушка на левай шчацэ", Пеця — пацеюць ногі. Каб не запамятаваць...

Паўтараю, Таіса Бондар нічога не разлічвала, — яна адчувае прасторава ўвесь матэрыял як вялікі рэаліст, а не халодны рамеснік, натхнёны думкай пра "пучок асігнацый" і сваім "укладзе" ў разбурэнне парадку.

Сэнс усякага значнага твора — у гарманічнай цэласнасці аўтарскага бачання. Толькі гаротнік-надзёншчык усё "лагічна асэнсуе" і складзе планчык з прамежкавымі высновамі, — у выпадку прыроднага, паўнацэннага таленту эффект нараджаецца з дакладна перададзенага эпізоду.

Сапраўдная беларуская літаратура заўсёды прысягала класіцы, пры якой рэалізм дасягаецца самымі рознымі прыёмамі — рэалізм як найвышэйшая праўда рэчаіснасці. А "рэальная" яна ці "нерэальная", не мае ніякага значэння. Што можа быць рэальней за "сны" Дастаеўскага?

Параскева — маштабны народны вобраз, знакавы, як цяпер гавораць. Гэтая беларуская сялянка з гэтага часу становіцца ў адзін шэраг з героямі Чэхава, Горкага, Мележа, Шамякіна, Пташнікава...

Прыроду не падманеш: народным героям лёгка даецца галоўная ісціна. Але ж яна застаецца практычна недасяжнаю для рэфлектуючых "шукальнікаў праўды", якія здрадзілі сваёй Айчыне.

Вось жа і стары Гаўрыла паўтарае тое ж: "Неба над вамі і далечы перад вамі пустыя, мёртвыя, таму што мёртвыя, пустыя душы вашы".

Параскева і ў апусцелай вёсцы — сярод людзей, тады як цяперашнія, "новыя", хоць і ў гушчы гарадскога натоўпу, — адзінокія. Так, хадзячыя мішэні для гэткіх жа сквапных, як яны самі. І заказныя стрэлы, што сёння час ад часу грымяць на "постсавецкай прасторы", доказам таму...

Я ўжо не кажу пра тое, наколькі вышэйшае і прасторнейшае ў Таісы Бондар усведамленне Бога і Боскага. Яна не адасабляе гэтыя паняцці ад жыцця і народнага вопыту, не апускаючыся ў той жа час да адміністратыўнага захаплення і замілаванасці, якія дзейнічаюць атупляльна і ўводзяць у зман.

Вось і цётка Грыпіна, маці Саўкі Рапухі, ведала гэтую праўду, вакол якой адно топчуцца "ілжэпрарокі" тыпа Нямцовых ды Хакамад: "Разарві ковы няпраўды і не шукай нічыйго ярма... І таго, каго любіш, адпусці на волю, і з галодным падзяліся хлебам... Лёс не з'яўляецца караю..."

І ёсць у тым вялікі сэнс, што блудніца Марфутка, на якую наступаюць раз'юшаныя бабы з віламі, каб утапіць у рацэ, кідае ім словы, што спакусілі ўвесь народ, ператварыўшы яго ў статак: "Як аралі, так і будуць араць на вас, пакуль не паздыхаеце... Чуеце вы, быдлы?.."

Але людзі вёскі — яшчэ не тэлевізійны статак часоў "Перабудовы", яны не паддаюцца на гэтую дэмагогію. Між іншым, і трагедыя Марфуткі раскрываецца не адразу, паказваючы, што не ўся ў тым, што ёсць, і праўда цёмнае большасці...

Зусім не з пазіцый улады судзіць падзеі Таіса Бондар, вуснамі Параскевы асуджае яна "заведзены некалі галадранцамі парадак". Таму што ведае: не яны завялі той парадак, ён быў навязаны ім і потым паступова падладжаны пад інтарэсы народа, што і паслужыла, дарэчы, сігналам для падрыхтоўкі перавароту, якому арганізаваная меншасць заўсёды ўмее надаць характар "агульнанароднага гневу"...

Бондар, як і Параскева, вышэй за злосць і вышэй за помсту, ведаючы, што яны ператвараюць учарашніх рабоў у сённяшніх катаў.

І вось, паміраючы ўжо, Параскева чуе апошняе прароцтва, — ці то сваёй смерці ў вобразе юнай дзяўчыны, ці то свайго пакутніцкага шляху: "Вас усіх падманулі, лёгкае сытае жыццё паабяцаўшы: лёгкае лёгка і выпетрываецца, сытае сыта, кепска пераваранай мярцвячынаю і адрыгнецца..."

Аповесць "Імем Айца і Сына..." паказвае нам сапраўднага майстра.

Добра ведаючы своеасаблівую паэзію Таісы Бондар, яе арыгінальную публіцыстыку і тонкую фактуру яе прозы, я не сумняваюся, што яна ўжо каля вяршыні свайго чалавечага і грамадзянскага подзвігу. Ёсць толькі адна агульная заўвага, якая адносіцца не толькі да Таісы Мікалаеўны, а да многіх сучасных пісьменнікаў: не захапляйцеся "красивостями", калегі, яны — не ў нашай рускай і беларускай традыцыі, не ў традыцыі сусветнай класікі, якая, як вечная снежная шапка на высакагор'і, дае выток незлічоным і абсалютна розным рэкам натхнення.

Таіса Бондар па-мастацку вяжа слоўныя карункі. Модная ўсё яшчэ стылістыка Хэмінгуэя, Амаду, Карпент'ера і ўсяе плеяды лацінаамерыканскіх майстроў засвоена ёю настолькі, што не ўяўляецца заёмнаю ці запазычанай. Але ж усё гэта — лішняе, як знакамітая барадаўка на носе ў алжырскага бея. Не грашылі нарачытай слоўнай вышыўкай ні Пушкін, ні Дастаеўскі, ні нават па-язычніцку шматфарбны Гогаль, няма гэтай азартнае слоўнай гульні ні ў Купалы, ні ў Коласа.

Справа густу, канешне. Але ў нашых традыцыях — вазьміце фальклор, жыція святых, сакральныя тэксты, — нідзе не знойдзеце рэкламнага , гандлярскага пустаслоўя, без якога не можа абыходзіцца перш за ўсё "псеўда": дэмагогія любіць словы, што асабліва ўсыпляюць і абалваньваюць,— у іх бачыў злавеснае зерне агульных бедаў яшчэ вялікі Апалоній (Ціанскі) два тысячагоддзі назад...

У нашай беларускай літаратуры даўно жыве і працуе Таіса Бондар. І надышоў час, калі мы абавязаны ўдзячна ўслухацца ў яе нягучны, але пранікнёны і непаўторны голас.

**Эдуард СКОБЕЛЕЎ**

# Янка Купала і Пухаўшчына: крыніцазнаўчыя падказкі

Янка Купала, як вядома, нарадзіўся ў былым фальварку Вязынка Мінскага павета (цяперашні Маладзечанскі раён). Але так ці інакш лёс вялікага беларускага паэта звязаны з многімі куточкамі зямлі беларускай. Чытаем у энцыклапедыі "Янка Купала": "Збяднелы род Луцэвічаў, які да гэтага лічыўся чыншавай шляхтай ва ўладаннях Радзівілаў на Ігуменшчыне (цяпер Чэрвеньскі р-н), быў выселены са свайго апошняга прыстанішча — з засценка Пяскі (называўся таксама Лазараўшчына, Луцэвічы), калі засценак стаў уласнасцю князя Вітгенштэйна. Бацьку паэта давялося арандаваць чужую зямлю..."

Якая ж у Янкі Купалы сувязь з Пухавіцкім краем — часткай колішняй Ігуменшчыны? Якімі нітачкамі-стасункамі звязаны Пухаўшчына і вялікі паэт, сённяшняя памяць аб ім?

Янка Купала ведаў Пухавіцкі край, многіх пухачан. Бываў у пухавіцкіх мясцінах. Праўда, энцыклапедыя "Янка Купала" фактычна абмінае гэтую тэму. Відавочна, што не знайшлося знаўцы, даследчыка прадмета. Хаця да тэмы "Купала і Пухаўшчына" звяртаўся вядомы журналіст і краязнаўца Анатоль Ярохін. Відаць, яго публікацыі, змешчаныя ў свой час у пухавіцкай раённай газеце, засталіся па-за ўвагай энцыклапедыстаў. Шкада.

У кнізе Данілы Міцкевіча "Любіць і помніць" у артыкуле "Мясціны летніх адпачынкаў Якуба Коласа на Беларусі" чытаем: "Лета 1936 г. Хутар Андрэя Асіеўскага (над Свіслаччу) каля вёскі Падбярэжжа Пухавіцкага раёна. У Падбярэжжы пражываў Пятро Глебка і беларускія акцёры. Сустрэчы з імі. Сяброўства з П. Броўкам і П. Глебкам. Візіты Янкі Купалы..." Заўважце: "Візіты"... Значыць: Купала неаднойчы наведваўся ў Падбярэжжа. Мог рабіць гэта і з Мінска, а таксама з Дома творчасці "Пухавічы", які працаваў у Мар'інай Горцы — на месцы сённяшняга абласнога дзіцячага санаторыя. У энцыклапедыі "Янка Купала" згадак ні пра дом творчасці, ні пра Падбярэжжа няма ніякіх. Зазірнём у энцыклапедычны летапіс жыцця і творчасці Янкі Купалы. "1936... Чэрвень. У конкурсе на лепшую дзіцячую песню, аб'яўленым ЦК ВЛКСМ, атрымаў 1-ую прэмію за тэкст піянерскай песні "Маленькі лётчык" ("Хлопчык і лётчык", музыка В. Белага)". І яшчэ: "20 чэрвеня. Удзельнічаў у пахаванні М. Горкага. У "Правде" апубл. з Я. Коласам арт. "Памяці вялікага чалавека". І — усё. Наступны пазнакі — з лістапада. Але ж не мог Даніла Міцкевіч памыліцца.

Шкада, што няма дэталёвай "біяграфіі" Дома творчасці "Пухавічы". Як, прыкладам, існуе ж падрабязны расповяд (асобная кніга!) Вячаслава Рагойшы "Там, дзе бруіцца Іслач" — пра Дом творчасці "Іслач". Ёсць успаміны і пра Каралішчавіцкі Дом творчасці. А "Пухавічы"... У дзіцячым санаторыі зараз, між іншым, працуе музей, які прысвечаны колішняму Дому творчасці. Усё ж такі не выключана, што Купала наведаўся ў "Пухавічы", у Мар'іну Горку яшчэ ў 1935 годзе. Адкуль такое меркаванне? Чытаем у энцыклапедыі: "17—28 мая. Грамадскасць рэспублікі шырока адзначыла 30-годдзе літ. дзейнасці К. 28 мая ў Доме пісьменніка адбыўся ўрачысты вечар". А чэрвень-жнівень паэт правёў у Ляўках. Але давайце звернемся да ўспамінаў армянскага пісьменніка Наіры Зар'яна. Спярша колькі слоў пра яго повязь з Беларуссю. Цытуем па энцыклапедыі "Янка Купала": "Зар'ян Наіры (сапр. Егізар'ян Аястан Егіязаравіч; 1901—1969), арм. сав. пісьменнік і перакладчык. Знаёмы К. 11.12.1935 выступіў з прывітальным словам ад арм. пісьменнікаў на ўрачыстым вечары ў Мінску, прысвечаным 30-годдзю літ. дзейнасці К.; разам з К. і іншымі пісьменнікамі быў на прыёме ў старшыні СНК БССР М. М. Галадзеда. Паміж З. і К. усталяваліся сяброўскія адносіны: на працягу зімы 1935—36 удзельнічалі ў літ. вечарах у Мінску, Капылі, Пухавічах, Бабруйску (30.1.1936)..." Перш чым рабіць нейкія высновы, звернемся і да ўспамінаў самога Наіры Зар'яна (яны змешчаны ў зборніку "Успаміны пра Янку Купалу" — Мінск, 1982 год) "Мае сустрэчы з Янкам Купалам". Наіры Зар'ян піша: "У 1935 годзе армянскі народ адзначаў 15-годдзе ўстанаўлення Савецкай улады ў Арменіі. На гэтыя ўрачыстасці прыехаў Пятрусь Броўка. Я пазнаёміўся з ім і зблізіўся. У гэты ж час у Беларусі працоўныя рыхтаваліся адзначыць трыццацігоддзе літаратурнай дзейнасці... Янкі Купалы. Мяне запрасілі на гэтыя ўрачыстасці, і мы з Петрусём Броўкам выехалі ў Мінск. У сталіцы Беларусі я пражыў тры месяцы. Час гэты на ўсё жыццё застаўся ў маёй памяці. І перш за ўсё таму, што мне давялося сустрэцца і пасябраваць з вялікім беларускім паэтам Янкам Купалам..." І далей: "Беларуская паэзія, вершы Янкі Купалы мне вельмі падабаліся, і, знаходзячыся ў Мінску, я пачаў перакладаць іх. Пазней гэтыя вершы былі апублікаваны ў розных зборніках". Можна меркаваць, што юбілей Купалы Зар'ян прыехаў адзначыць у другой палове 1935 года. За тое гаворыць і ўдзел у вечары ажно на пачатку 1936 г.

Успамінае Наіры Зар'ян: "...я паехаў да Янкі Купалы снедаць. Уладзіслава Францаўна пачаставала мяне квашанай капустай. Я прызнаўся, што такой смачнай капусты ніколі не еў. Купала гэта запомніў і праз некаторы час ён моцна расчуліў мяне...

У гэты час у Маскве знаходзілася дэлегацыя армянскага народа. Дэлегацыю запрасілі на прыём у Крэмль. Я таксама быў уключаны ў склад дэлегацыі, таму выехаў з Мінска ў Маскву і як госць прысутнічаў на прыёме, чытаў вершы. Вершы былі надрукаваны ў "Правде". Пасля прыёму я вярнуўся ў Мінск.

Праз некалькі дзён быў надрукаваны ўказ аб узнагароджанні членаў дэлегацыі ордэнамі. Сярод узнагароджаных быў пісьменнік С. Зар'ян, які нядаўна памёр. Мінскія таварышы рашылі, што ў "Правде" памылка, што трэба чытаць Н. Зар'ян, і сталі віншаваць мяне з узнагародай. Як я ні пераконваў беларускіх сяброў, што гэта другі Зар'ян — нічога не дапамагала.

У СП БССР арганізавалі творчы вечар, а пасля яго рашылі наладзіць банкет. Уладзіслава Францаўна і Янка Купала не хацелі і слухаць аб банкеце. Цёця Уладзя, як яе называлі, настойліва патрабавала, каб на вячэру я ішоў да Купалы. Адмовіць я не мог, бо заўсёды ішоў да яго з вялікаю ахвотаю. Пайшоў і на гэты раз. У Купалы сабралася каля сарака чалавек. Быў тут Шалва Дадзіяні, які выпадкова прыехаў у Мінск. Калі госці сталі расходзіцца, мяне ў гасцініцу не адпусцілі: Купала пакінуў начаваць у сябе.

Неяк Купала запрасіў да сябе. Мы гаварылі аб паэзіі, аб перакладах. Потым цёця Уладзя паклікала абедаць і паставіла на стол бутэльку армянскага каньяку. Я пацалаваў этыкетку. Купалу гэта вельмі спадабалася, і ён сказаў:

— Я бачу, што ты горача любіш сваю радзіму.

Вярнуўшыся з Масквы, я пасяліўся ў Доме творчасці СП. Неўзабаве мне пазваніў Кучар і павіншаваў з узнагародай ордэнам Леніна. Я стараўся пераканаць, што гэта зноў памылка, але на гэты раз я, Вургун, Лахуці былі сапраўды ўзнагароджаны. Адным з першых павіншаваў мяне цёпла і сардэчна Янка Купала. Дарэчы, ён пазваніў у Дом творчасці і сказаў дырэктару, што я вельмі люблю капусту, і папрасіў, каб мне рэгулярна падавалі на стол капусту.

Затым я, Купала, Клімковіч, Броўка, Харык і іншыя пісьменнікі наведалі Бабруйск і Капыль, дзе выступалі на вечарах". І калі ў Капыль яшчэ Зар'ян і Купала маглі дабірацца па-рознаму, то, пэўна ж, у Бабруйск ехалі з Мар'інай Горкі. А што да вечара "у Пухавічах", то хутчэй за ўсё ён адбыўся ў Мар'інай Горцы, а не ў мястэчку Пухавічы.

Ёсць і наступнае сведчанне пра знаходжанне Янкі Купалы на пухавіцкай зямлі. У кнізе "Побач з Коласам" (Мінск, 1996) краязнаўца, знаны коласавед Мікола Жыгоцкі, расказваючы пра летаванне Коласа на хутары Вусце, піша: "З ліпеня 1938 года да Якуба Коласа прыязджаў Янка Купала. Ён тут адпачываў, цікавіўся навакольнымі мясцінамі, расказваў аб паездцы ў Маскву. Тут у Канстанціна Міхайлавіча пабывалі артысты Дарвішаў, Дорскі, Ільінскі, якія цікавіліся работай над п'есай, пазнаёміліся з асобнымі дзеямі твора".

Тэму повязі Купалы з Пухавіцкім краем працягвае і наступная дзялянка: купалаўская назвы. У энцыклапедыі "Янка Купала" ёсць артыкул "Купалаўскія найменні". У свой час у часопісе ці бюлетэні "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі" (3, 4 нумары за 1981, 1, 2 за 1982 гады) быў надрукаваны артыкул Адама Мальдзіса "Спіс памятных мясцін у БССР, звязаных з жыццём і творчасцю Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама аб'ектаў, якім прысвоена іх імя". Чытаем у энцыклапедыі: "На Беларусі імем К. названы 4 калгасы — у Стаўбцоўскім (1949), Пухавіцкім (1963), Аршанскім (1963) і Клімавіцкім (1964) р-нах... пасёлак у Глускім (1925), вёска ў Пухавіцкім (1952)..." У энцыклапедычным даведніку "Іх іменами названы..." (Мінск, 1987) удакладняем: "...Імя Я. Купалы прысвоена калгасам у... Пухавіцкім... р-нах... Яго імем названы... вуліцы ў гарадах... Асіповічы, Слуцк, Старыя Дарогі, Чэрвень..." Па-суседстве. А вось у Пухавічах ці Мар'інай Горцы, у Рудзенску, Свіслачы месца, вуліцы, каб ушанаваць Купалу, не знайшлося. Праўда, у даведніку "Іх именами названы..." ёсць і наступная пазнака: "...мемарыяльныя дошкі ўсталяваны ў г. Мар'іна Горка на будынку былога Дома творчасці пісьменнікаў Беларусі, дзе ў 1935—41 працаваў і адпачываў..." Да ўсяго астатняга — і пацвярджэнне

## "Цяжкая" прэзентацыя




Сучасная беларуская культура павінна быць гатовай да таго, што нацыянальныя ды беларускамоўныя праявы могуць узнікаць у самых незвычайных мастацкіх формах і з'явах. Гэты працэс аб'ектыўны, бо на парозе век новых камунікатыўных тэхналогій, на зрэзе якіх паўстае ў многім спрэчнае мастацтва новай дыгітальнай эпохі.

Адной з такіх спрэчных форм у сучаснай рок-музыцы лічыцца экстрэмальная плынь, якая на працягу свайго існавання падвяргалася жорсткаму прэсінгу з боку СМІ, крытыцы за "дзікія" назовы гуртоў і манеру выканання.

Сваю гісторыю, культавыя постаці і творы мае extreme і ў Беларусі, прычым як гітарны metal-рок, так і extreme "лічбавы". Прадставіць панараму выканаўцаў-экстрэмальшчыкаў вырашылі выдаўцы з BMAgroup. І вось першы альбом—зборка беларускамоўнай экстрэмальнай рок-музыкі "Hard Life—Heavy Music" становіцца набыткам тутэйшых "металаманаў", аб'ектам уважлівага разгляду крытыкаў.

Распачынае новы дыск "Заклён" у выкананні гурта "Капішча"—акустычны варыянт сучаснага цяжкага пост-фолка з актуальнымі паганскімі матывамі. Тэму веры старажытных продкаў адразу ж падхоплівае лідэр беларускага pagan-metal—гурт "Зьніч", які прапануе новы варыянт свайго праграмнага твора "Чорны Зьніч".

Бадай, самы нефарматны гурт—"Apraxia" з Оршы даўно ўжо эксперыментуе з выкарыстаннем роднай мовы ў стылістыцы pagan-metal. Таму на дыску прадстаўлены твор, які вельмі дакладна адпавядае крэда музыкаў — "Дзікае паляванне". У ім музыкі спрабуюць асэнсаваць гістарычныя шляхі народа праз прызму творчасці свайго геніяльнага земляка Уладзіміра Караткевіча.

Свой уклад ў беларускую extrem-скарбонку спрабуюць зрабіць музыкі берасцейскага гурта "Gateward".Іх новы варыянт "Купалінкі" нясе адгалосак вядомага фальклорнага ўвасаблення, хоць і ствараўся ў thrash-стылістыцы. Думаю, слухачам гэтая версія "Купалінкі" прыйдзецца даспадобы, як гэта адбылося на прэзентацыі дыска, калі ўся зала спявала разам з гуртом "Gateward"!

Інструментальную музыку ў heavy-стылістыцы прадстаўляе гітарны дуэт Спіцын—Чармен. Віртуозны твор "Хуткасць" добра вядомы гледачам Беларускага тэлебачання па цікаваму відэакліпу, а самі музыкі атрымалі прызнанне сваёй творчасці пасля ўдалага выступу разам з легендарным гуртом "Deep Purple".

Асобным блокам на дыску можна вылучыць музычныя творы лідэраў беларускай metal-сцэны — гуртоў "Aquamorta", "Vicious Crusade"', "Vir". Гэта, сапраўды, эмацыянальны цэнтр усяго дыска. Гурт "Aquamorta", як паслядоўны прыхільнік беларускай мовы ў metal-музыцы, прэзентуе цэлую thrash-сюіту "Крочым поплеч" з разгорнутымі інструментоўкамі і вельмі дакладнымі акцэнтамі ў вакальных партыях.

Безумоўна, на такім дыску павінен быў быць прадстаўлены вельмі цікавы англамоўны гурт "Vicious Crusade". Але якую кампазіцыю на гэты дыск вырашылі ўзяць складальнікі? Тую, якую музыкі запісалі з вядомым даследчыкам беларускай дуды і выканаўцам Тодарам Кашкурэвічам. Таму і названы гэты неверагодна прыгожы і дасканалы твор "Тодаравай песняй". Безумоўнай зоркай гэтага трэка можна назваць беларускую дуду, якая робіць кампазіцыю такой арыгінальнай і кранаючай.

Завяршае праграму ўжо класічны трэк піянераў беларускага thrash-metal—гурта "Дзіда", памяць пра творчасць якога жыве яшчэ з часоў легендарных акцый, кшталту "Беларускі рок вітае Незалежнасць". Дзякуй стваральнікам за напамін пра маладосць беларускага рок-руху!

Ад сябе дадам, што дыск "Hard Life—Heavy Music" — шчыры заклік успрымаць беларускамоўны рок-extreme як частку сучаснай беларускай культуры. Выдаўцы і музыкі спадзяюцца, што ён своечасова будзе пачуты і слухачамі, і крытыкамі.

Анатоль МЯЛЬГУЙ

присутнасці, наведвання Купалам Мар'інай Горкі, іншых паселішчаў Пухавіцкага раёна.

Наступныя абсягі пухавіцкай купалаўскай тэмы — знаёмства, дружба Янкі Купалы з пухаўчанамі, ураджэнцамі Пухавіцкага раёна, як правіла, літаратарамі. Галоўная крыніца для падказак у гэтым накірунку — энцыклапедыя "Янка Купала". Перагорнем яе старонкі: Аляксандр Рыгоравіч Чарвякоў (1892—1937), дзяржаўны дзеяч ("Пазнаёміўся і пасябраваў з К. у 1920-я г.; шмат разоў сустракаўся з ім..."), Міхась Чарот (1896-1938), пісьменнік, грамадскі і культурны дзеяч (творчаму сталенню "надзвычай спрыяла асабістае знаёмства з К. у канцы 1910-х г. у клубе мінскай маст. інтэлігенцыі "Беларуская хатка"... У пастаноўцы п'есы К. "Раскіданае гняздо" ў жн. 1920 выконваў ролю Сымона... Прысвяціў К. паэму "Карчма"...), Уладзімір Хадыка (1905—1940), паэт ("Часта сустракаўся з К. ...К. высока цаніў паэзію Х. (...ў размове з С. Грахоўскім... сказаў: "Праўда, чым прасцей, тым цяжэй... Вунь Валодзя Хадыка! Той не выломваецца. Кожны радок, як адліты, аж гудзе..."), Макар Паслядовіч (1906—1984), пісьменнік ("З К. пазнаёміўся восенню 1925 у рэдакцыі газ. "Беларуская вёска"... Неаднаразова сустракаўся з ім у 1925—26 у Мінску на Траецкім рынку, куды паэт хадзіў паразмаўляць з сялянамі, а П. — як інфарматар рынчачных цэн на с.-г. прадукцыю, якія друкаваліся ў газ. "Беларуская вёска"..."), Іосіф Іосіфавіч Жыновіч (1907-1974), дырыжор, цымбаліст, кампазітар і педагог ("З 1924 быў асабіста знаёмы з К., які шмат разоў слухаў у яго выкананні бел. нар. песні і танцы..."), Анатоль Вольны (1902—1937), паэт, кінадраматург ("З К. быў знаёмы з пач. 1920-х г. Часта сустракаліся на кватэры К. ...З 1927 уваходзіў з К. у літ. аб'яднанне "Полымя"..."), Алесь Бачыла (1918—1983), паэт ("Не раз слухаў выступленні К. ў Доме пісьменнікаў у Мінску...").

У энцыклапедыі, відавочна, мог бы аказаца і Сымон Хурсік (1902—1972), паэт, які нарадзіўся ў вёсцы Снусцік. Першая яго кніга пабачыла свет у 1925 годзе — "Першы паўстанак". Чамусьці забыты ў судакрананні з Купалам і паэт Аркадзь Моркаўка (1900—1957), які нарадзіўся ў Заазер'і. Пры жыцці пабачыла свет толькі адна паэтычная кніга таленавітага творцы — "Дым жыцця" (1928). Янка Купала высока цаніў паэзію нашага земляка. Чытаем ва ўспамінах Кастуся Губарэвіча (згаданы ўжо зборнік "Успаміны пра Янку Купалу"): "У Івана Дамінікавіча, як вядома, быў вельмі шырокі круг знаёмых, прыяцеляў, сяброў. Рэдка калі можна было сустрэць яго аднаго на вуліцы Мінска, звычайна — у кампаніі: Алесь Дудар, Аркадзь Моркаўка, Сымон Баранавых, Алесь Кучар, Міхась Зарэцкі, Заір Азгур ці яшчэ хто-небудзь..."

Ёсць яшчэ адзін зрэз у вырашэнні пухавіцка-купалаўскай тэмы: што напісалі паэты Пухавіцкага краю пра народнага песняра, якія вершы, якія празаічныя творы прысвяцілі яму? Алесь Бачыла: вершы "Ля помніка Янку Купалу", "Памяці Янкі Купалы", "Несмяротнаму Янку Купалу". Таіса Бондар: верш "26 чэрвеня 1942". Мікола Мішчанчук: верш "Купалава слова". Генадзь Кляўко: верш "Радзіма Купалы".

Велічыня купалаўскага генія, здзейснены ім плён — катэгорыі з разраду вечных. Не разумець гэтага — значыць пазбаўляць сябе і наступнікаў ад развіцця і захавання беларускага нацыянальнага свята, духоўнасці і маральнасці народа Беларусі. Веданне таго, дзе можна знайсці той альбо іншы матэрыял, тыя альбо іншыя крыніцы па тэме "Янка Купала і Пухаўшчына", няхай жа і паспрыяе сцвярджэнню найлепшых асветніцкіх, культурных памкненняў усяго народа і кожнага чалавека паасобку.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Уладзімір ЛІПСКІ

# Аўцюкоўскія падколкі

Аўцюк хваліцца:
— Мой сын быў на парадзе ў Мінску. Да яго падышоў міністр і кажа: "Ты, відаць, хлапец з Аўцюкоў?" — "Ага". — "Ты, відаць, Вераб'ёў сын?" — "Ага". — "Будзеш служыць у асобных войсках". — "У якіх?" — "У стройбаце". От як було, мой каласок, от які ў мяне сын!..

●

Ідзе аўцюк па вуліцы. Певень топча курыцу.
Аўцюк прыпыніўся, дастаў з кішэні жменю семак, сыпануў на зямлю.
Певень саскочыў з курыцы і кінуўся збіраць семкі.
Аўцюк заклапочана:
— Не дай, Божа, самому дажыць да такога...

●

Аўцючка расказвае каля калодзежа:
— Мы са Сцяпанам няўломкі. Ён — наверсе, я — унізе. Увішна рабілі...
Бабы зубы лупяць.
А гэта ж Манька хвалілася, як яны з мужам шыфер разгружалі.

— Гэта не мужчынская справа.
— Міша, схадзі па ваду.
— Гэта не мужчынская справа.
— Міша, памый талеркі.
— Гэта не мужчынская справа.
Аўцючка скідае з сябе халат:
— На, рабі мужчынскую справу.
— От, Манька, з табой і пажартаваць нельга.

●

Афіцыянтка аўцюку:
— Чай будзеце?
Аўцюк груба:
— Ну яго!..
Калі ён другі раз завітаў у сталоўку, афіцыянтка пытае:
— Чай будзеце ці "ну яго..."?

●

Маладая аўцючка-паварыха піша запіску свайму каханаму:
"Віця, сёння на спатканне прыйсці не змагу. На мне — пяцьдзесят чалавек..."

●

Аўцюк з'еў на вяселлі пяць місак халадцу і кажа:
— Масток у жываце змасціў...

●

— Піва з падагрэвам па-аўцюкоўску піў?
— Не-а.
— Э, дык слухай. У куфель з півам заліваеш шклянку гарэлкі. Вось табе, каласок, і піва з падагрэвам...

●

— Сцяпан, угавары мяне.
— Кінь дурное, Манька.
— Ну, Сцяпан, угавары.
— Што ты мелеш?
— Сцяпан, ну...
— Добра, давай...
— Вой, Сцяпан, ты й мёртвую ўгаворыш.

●

— Пятро, не чыркайся аб мяне.
— Чаму?
— У мяне фосфару на дваццаць тысяч запалак.

●

Настаўнік у першым класе:
— Хто спіць усю зіму?
Пецька:
— Мой бацька.

●

Вечар. Месяц. Цішыня.
На лаўцы — маладыя.
Аўцючка:
— Міша, зірні, колькі зор!
— Ага.
— *Міша, які сёння ясны месяц!*
— Ага.
— Міша, як ціха і цёпла!
— Волька, ты лепей здагадайся, пра што я думаю...

●

Аўцюкоўская прыпеўка:
Мілы тузаў, тузаў
За мае райтузы.
— Ты не рві мае штаны,
Гузік з левай стараны.

●

— Што такое Вялікдзень?
Малы аўцючок:
— Гэта калі булак багата і бацька п'яны.

●

Аўцюкоўскія пажаданні:
каб заўсёды ў цябе стаяў... у запасе літр самагонкі;
давайце хоць раз вып'ем, а то ўвесь час толькі адпіваем;
здароўя табе, астатняе — куды яно дзенецца;
каб нашы калінкі стамляліся ад кахання, а каласкі ад усяго астатняга.

●

Аўцючка пра музыканта:
— Іграў-штрынькаў, як калом па шчыкетніку...

●

Манька расказвае, як з п'яным мужам вадзіла свінню на спатканне:
— Людзечкі мае, трэба свінню весці, а ён п'яны ў гразь. Але ж мусіш, чарга наша. Дайшлі неяк да свінарніка. Упусцілі "нявесту" ў загародку. Васіль узяўся кныра заахвочваць. Круціўся ён з ім каля свінні. І што ж вы думаеце, людзечкі, як усё ўсчалося, мой Васіль аказаўся пад свінней. Крычу: "Вылазь, дурань!.." А ён мне: "Маўчы, абы ціха..."
От і кажуць у Аўцюках: "Калі п`ём чай, малако — пасядзім, калі піва, гарэлку — паляжым".

●

На аўтобусным прыпынку сустрэліся аўцюк і аўцючка.
— Сямён, ты яшчэ не ўмер? — замест здароўкання пытаецца аўцючка.
Дзед усміхаецца, у роце блішчыць адзіны зуб:
— Шчэ не!..
— Але ж і страшны.
— Шчэ не!..
Пагаварылі-парадаваліся.

●

Аўцючка жаліцца суседцы:
— У мяне, Маня, склероз. Паклала грошы, а не прыгадаю — дзе.
Суседка:
— Маўчы, Волька, от у мяне склероз. Выгнала самагонку, зачынілася, лягла спаць. Прачнулася, а дзверы адпёрты, самагонка спёрта, і са мною як бы хто начаваў. Нічоганькі не помню...

●

Аўцючка на аўтобусным прыпынку:
— Шахфёр, растыпур дзверы, я ўлезу...
Шафёр бурчыць:
— Цябе, Насця, і на п'янай казе не аб'едзеш. Скажаш, як у трубу пукнеш...

●

Гарадскі чалавек дапытвае аўцюка:
— Чым адрозніваюцца памінкі ад вяселля?
— На памінках, каласок, на аднаго выпівоху меней.
— А што такое ерунда?
— Усё! Апроч баб...

●

Пісалі сачыненне, як хто правёў лета. І трэба было зрабіць вывад.
Малы аўцюк накрэмзаў:
"Летам пасвіў кароў.
Вывад: каб тыя каровы падохлі".

●

Аўцючку выбіраюць у вертыкаль. Яна супраціўляецца:
— Я нязгодная. Я ніколі не была ў вертыкалі. Толькі — у гарызанталі...

●

Аўцюкоўскі тост:
— Давайце вып'ем гэтай мярзоты, каб яе меней засталося нашым дзецям.

●

Аўцюк ідзе па горадзе, ласуецца марожаным. Нехта зверху вылівае на яго памыі. Аўцюк прыпыніўся, зірнуў уверх і кажа:
— А каб чалавек ішоў?..

●

Аўцючка пра санаторныя прыгоды:
— Ах, які быў мужык!
— І што?
— Аказаўся — бухгалтар.

●

Сусед пытае ў Пецькі:
— Што самае смешнае на вашай бабулі?
Думаў, скажа: "Брудная спадніца".
Пецька:
— Наш дзядуля.

●

— Люба, зрабі са мной тое, што ты *зрабіла з нашым сабакам.*
— Што?
— Дай, калінка, паесці і пусці пагуляць.

●

Маці малому аўцючку:
— Не сёрбай так, а то ўсе свінкі збягуцца...

●

— Міша, вынесі смецце.



*Аўцюкоўскую падколку выдае Уладзіміру Ліпскаму конюх з Вялікіх Аўцюкоў.*

# Часопісы рэдакцыйна-выдавецкай установы “Літаратура і мастацтва”

***У мінулым нумары “ЛіМа” вы маглі пазнаёміцца са зместам часопісаў “Полымя”, №№ 7—8 і “Маладосць”, №№ 7—8. Яшчэ раз нагадваем, як яны выглядаюць. Да ўсяго, паўтараем — “Полымя” знаходзіцца па ранейшым адрасе. Адрас “Маладосці”: 220005, Мінск, Захарава, 19. Тэл.: 284-79-85, 284-44-04.***







## “Крыніца”, №№ 7—8

Ніякага карэннага “пераломy” ў часопісе з прыходам новага калектыву не адбылося. Асноўныя матэрыялы нумара былі падрыхтаваны рэдакцыяй яшчэ на чале з Алай Канапелькай. Дзякуй усім. Цяпер — пра змест. Лічу ўдалым творчы партрэт Марыі Вайцяшонак. Надзвычай цікавая гутарка са сцыназнаўцам Уладзімірам Агіевічам. Філіграннае валоданне пяром, бляск інтэлекту! Псіхалагічна дакладныя, па-майстэрску выпісаныя характары ў апавяданнях Ганада Чарказяна. Пераклад з курдскай мовы зрабіў Рыгор Барадулін. Неблагія падборкі вершаў. Асабліва парадавала маладая паэтка Алена Слівінская. Надрукаваны малавядомыя старонкі з асабістага жыцця Элізы Ажэшкі. Аўтар — Алесь Марціновіч. І, канешне, самае галоўнае — канцэптуальныя вершы Янкі Купалы. Здымкі Вязынкі, Акопаў, Радашковіч. Сваё, крэўнае, вечнае!




Наступны нумар “Крыніцы” будзе прысвечаны 90-годдзю Максіма Танка.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, пр. Скарыны,39.

**Вячаслаў ДАШКЕВІЧ,**
**галоўны рэдактар часопіса**

МАЙСТЭРНЯ

# Чалавек XIX стагоддзя

## У ГАЛЕРЭІ КІНО АДБЫЛАСЯ ПЕРСАНАЛЬНАЯ ВЫСТАВА РЫГОРА НЕСЦЕРАВА

***Ёсць людзі, якія ідуць па жыцці сваім шляхам, не зважаючы на ўмоўнасці. Мастак Рыгор Несцераў належыць менавіта да тых, хто заўжды імкнецца быць у творчасці незалежным. Ён падпарадкоўваецца толькі свайму ўнутранаму голасу, які часам супярэчыць голасу розуму. Гэта мастак, чыя творчасць заўсёды ў канфрантацыі з агульным настроем, пануючым у грамадстве. Тым не менш, гледзячы на карціны Р.НЕСЦЕРАВА, прадстаўленыя на апошняй выставе ў Галерэі кіно, цяжка назваць гэтага мастака бунтаром. Наадварот, яго работы ствараюць пачуццё ўнутранага спакою (але не абыякавасці) і раўнавагі. “Прыгажосць навокал”— гэту банальную думку па-новаму асэнсоўваеш, калі глядзіш на работы мастака. Зімовы пейзаж з гурбамі снегу, лес, крануты восеньскай пазалотай, сцяжынка, што бяжыць у далячынь, вясновы кіпень дрэў, вечаровае сутонне — усё гэта карціны Р.Несцерава. Цікавая і манера пісьма мастака. Кожная карціна — гэта самыя тонкія нюансы адной колеравай гамы, мноства дробных мазкоў, з якіх і складаецца пейзаж.***

**— А пачыналася ўсе даўно, яшчэ ў так званыя часы “брэжнеўскага застою”. Тады малады мастак насуперак пануючаму сацрэалізму сцвярджаў сваё мастацтва, незразумелае для большасці. Пра тое, як усё пачыналася, згадвае Рыгор Несцераў:**

— Кожнаму мастаку, безумоўна, неабходна свабода. А якая магла быць свабода ў савецкай дзяржаве? Таму і з’явілася тэма барацьбы і незадаволенасці рэальнасцю, тэма неабходнасці актыўнага ўмяшальніцтва ў існуючы стан рэчаў. Я маляваў сціснуты кулак, чалавека, у якога амаль няма ілба, словам, усе тое, што сімвалізуе бунт. Першая выстаўка адбылася ў Мінску ў Доме літаратара ў 1984 годзе. Калі ж пачалася перабудова, тэма барацьбы саступіла спакою. Я пачаў маляваць брудную бульбу, буракі і пыльную моркву. Займаўся гэтым некалькі гадоў. Вельмі значнай была выстава, якая адбылася ў 1991 годзе. Прайшла яна і ў Маскве, і ў Мінску. У Маскве карціны мелі эфект моцнага шоку, людзі ад незвычайнага ўражання разводзілі рукамі. У Мінску ж адкрыццё выставы супала з фестывалем духоўнай музыкі. Гукі фестывалю далятылі ў выставачную залу, і эфект таксама быў незвычайны. Пасля гэтых выстаў я атрымаў прызнанне грамадства. Але вось што цікава: калі пачалася перабудова, а, значыць, і грамадства заварушылася, папярэдні бунт раптам саступіў месца спакою. Я раптам убачыў рэчаіснасць і яна падалася мне гарманічнай. Усё гэта нарадзіла сузіральнасць, ціхмянасць перад прыродай, перад Богам...З’явілася асэнсаванне таго, што ты пагружаны ў Адвечнае. Для мяне гэта не абстрактнае паняцце, а пачуццёвае. Я дакранаюся да прадмета—я дакранаюся да Адвечнага, да Абсалюта. Паступова я прыйшоў да веры ў Бога...

**— У Вас ёсць серыя карцін, якая ўмоўна называецца “пейзаж чалавечага цела”. Раскажыце больш падрабязна пра гэтыя работы.**




— Гэтыя работы я пісаў у 90-я, і прысвечаны яны маёй жонцы Алене. Паняцце “пейзаж чалавечага цела” суадносіцца з паняццем пейзажу ў агульнапрынятым сэнсе. Калі мы бачым прыроду, мы бачым толькі фрагмент яе, які абмежаваны вуглом позірку, суб’ектыўным светаўспрыманнем. Але прырода не заканчваецца гэтым фрагментам. Яна бясконцая. Гэтак і чалавечае цела. Яно складаецца з безлічы атамаў, гэтаксама, як жыццё складаецца з безлічы імгненняў.

**— Некалькі Вашых работ прадстаўлены на выставе, што адкрылася днямі ў Палацы мастацтваў...**

— Так, першая карціна — “Свабода”, на якой чалавек супрацьстаіць парыву моцнага ветру. Паняцце “свабода” , як я ўжо казаў, вельмі шмат значыць для мяне. Гэта стыхія, сусвет, рэвалюцыя...Другая карціна мае назву “Касмічнае цела”. На ёй я намаляваў жанчыну на фоне планеты з кратэрамі. У гледача павінна ўзнікнуць пытанне: а якое з іх касмічнае цела? Нарэшце трэцяя карціна—“Свіслач”. Рака, якая мае вялікае значэнне ў Беларусі, якая ўпадае ў іншую раку, якая ў сваю чаргу ўпадае ў мора, а мора—ў акіян... Такім чынам і наша Свіслач набывае сусветнае значэнне.

**— На многіх Вашых пейзажах Вы малюеце сад, у глыбіні якога схавана маленькая хатка. Гэта супадзенне або адлюстраванне пэўнага ідэалу?**

— Так, я больш адчуваю сябе чалавекам XIX стагоддзя. Гэта час, калі ў жыцці прысутнічалі высакароднасць, існіна, годнасць. XX стагоддзе — стагоддзе жорсткасці і крыві. І на нейкі момант мне хацелася збегчы туды, дзе прысутнічаюць спакой, утульнасць, кветкі...

**Людміла ГУРМАН**





ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

**У 1982 годзе ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**



**Намеснік галоўнага рэдактара**

**Віктар ШНІП**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА, Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Алесь ГАЎРОН —** ***адказны сакратар,*** **Яўген РАГІН, Людміла РУБЛЕЎСКАЯ, Віктар ШНІП —** ***намеснік галоўнага рэдактара***

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525**
**адказны сакратар — 284-8204**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-8462**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-8462**
**паэзіі і прозы — 284-8525**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**карэктарская — 284-4404**
**бухгалтэрыя — 284-8462**
**Тэл./факс — 284-7965**





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 1568
Нумар падпісаны ў друк 1.08.2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1768

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12